 


# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСАПІС

*BYELORUSSIAN THOUGHT*

THE BYELORUSSIAN OUTLOOK
ON SOCIETY, POLITICS, LITERATURE AND ARTS

Год выд. 22 | 1981-1982 | №25-26


## Ідэя беларускага адраджэньня ў творах Янкі Купалы й Якуба Коласа

У чэрвені 1947 году, адзначаючы пятую гадавіну сьмерці Янкі Купалы, на бачынах часапісу "Шляхам Жыцьця" мы сказалі:

"У хвіліны выпрабаваньняў, калі народ перажывае мамэнты свае гісторыі, зьяўляюцца вялікія людзі, якія сваім геніем акрыляюць свой народ, падымаюць яго і клічуць да сьветлае будачыні. Гэтых людзей мы звыклі называць прарокамі. Абдораныя здольнасьцю інтуіцыі, яны, у момант яснавідзтва, бачаць сьветлую будучыню свайго народу і прадракаюць ягоны лёс. Але пракокам можа быць толькі той, хто сам перацярпеў усю нядолю народу, піў з ім горкую чару, хто, жадаючы здабыць яму сьветлае заўтра, аддаў яму ўсё, выракаючыся самога сябе". Наш зямляк і польскі паэт Адам Міцкевіч, якога палякі лічаць сваім вяшчуном, выказаў гэтую думку наступным чынам: "Хто пражыў свой век на гэтым сьвеце не даткнуўшыся нагамі да зямлі, ня будзе і ў небе". Гэта значыць, што радасьць сапраўдную можа спазнаць толькі той, хто спазнаў смутак штодзённага жыцьця.

Вельмі часта здараецца так, што сучаснае пакаленьне не дабачыць велічнасьці ягоных прарокаў, бо той, каму дадзена быць прарокам, стаіць на галаву вышэй ягоных сучасьнікаў. Названы намі вышэй Адам Міцкевіч зьяўляецца прыкладам такога палажэньня, бо ведаў, што ягоныя сучасьнікі не дацэньваюць ягонага генія: ён бачыў, што ягоную веліч прыцьмяваў іншы геній ягоных дзён — Юлій Славацкі, але не сумняваўся ў тым, што будучыя пакаленьні ацэняць яго так, як ён гэтага заслугоўвае. Ён здаваў сабе справу з сілы штодзённай мітусьні, якая звужае гарызонт пасрэднага натоўпу, не дазваляючы людзям бачыць таго, што бачыць ён. Думку аб гэтым ён выказаў словамі: "Аб чым тут думаць на парыскім бруку, прыносячы з места вушы, поўныя гарадзкога стуку?" Толькі ён мог у тыя дні стаць вышэй штодзённай мітусьні ды ў далечы часу і адлегласьці стварыць вобраз і зьявы, якіх не разумелі сучасьнікі, а сталі адкрытымі будучым пакаленьнем, для якога вобразы і зьявы, акрэсьленыя задоўга перад яго часам, сталі для яго сучаснымі.

Волаты думкі і слова, якім дадзена бачыць тое, чаго ня могуць бачыць іх сучасьнікі, звычайна даюцца народам ад Провіду ў пару часоў пераходных. А маюць іх перадусім тыя народы, якім пасланы шлях мучаніцтва. У пару мучаніцтва з улоньня народу-мучаніка нараджаюцца волаты, "баяны былых і будучых ваякоў", каб будзіць народ, уздымаць яго на шлях барацьбы за высокія і сьветлыя ідэалы. Для нас, беларусаў, такім песьняром-пракокам зьяўляецца Янка Купала.

Ніжэй мы пастараемся на двух прыкладах паказаць, як разумелі вяшчунства Янкі Купалы нашы літаратурныя крытыкі і як разумеў ролю прарока ён сам і быццам у люстры бачыў самога сябе.

Антон Навіна (Луцкевіч), выдатны беларускі моваевд, літаратурны крытык і гісторык-археалёг характарызуе Янку Купалу, як народнага вяшчуна, вось як, "Абразы, твораныя фантазіяй паэта, рэалізуюцца. Бо і Вялікую Рэвалюцыю ў Расеі, і сацыяльны пераварот, і стварэньне ўлады працоўных, і той магутны ўздым беларускіх масаў пад незалежніцкім

 

сьцягам, які знайшоў сваё выяўленьне ў Усебеларускім Кангрэсе ў Менску ў канцы 1917 г. — усё гэта вешчым духам сваім напрарочыў Купала. Прарок-правадыр аказаўся адначасна і пракорам-вяшчуном".

Гэтыя словы былі сказаны Антонам Луцкевічам у 1932 г. у Вільні, калі беларуская грамадзкасьць адзначала пяцідзесяты дзень нараджэньня Купалы. Падзеі наступных пяцідзесяці гадоў гісторыі Беларусі і ўсяго сьвету яшчэ больш спраўдзілі прарочую здольнасьць Купалы. Але аб гэтым скажам ніжэй.

Аб тым, як Купала ўяўляў постаць прарока ды ягоную ролю на скрыжаваньні часоў пераходных, гаворыць ён сам у ягоным дынамічным вершы "Прарок".

"Сярод маны, сярод насьмешкаў,
Знак нейкі тулячы к грудзям,
Ішоў прарок пясчанай сьцежкай
З навукай новаю к людзям.

Душа палала дзіўным жарам,
Бы з зораў выснутая ніць,
Што сьвет магла-б сваім пажарам
Абвіць і к сонцу ўваскрасіць.

Перамогшы ўсе перашкоды на шляху, ён — прарок — прыйшоў да людзей, якія, занятыя сваімі штодзёнымі клопатамі, ня мелі ані часу, ані жаданьня адарваць свой узрок ад зямлі і глянуць на сонца. І вось:

Прарок — пасол сьвятла — ў загону
Людзей убачыўшы такім,
Маячыць стаў ім, як шалёны,
Прарочым голасам сваім:

"Паўстаньце, рабскія натуры,
Пакіньце свой адвечны сон,
Загаманеце віхрам, бурай,
Каб ажно дрогнуў ваш палон!

Падобна біблійскаму прароку Купала кліча:

За мной, за мной, забраны людзе!
Я добрай воляй послан к вам
І знаю, што было, што будзе,
І вас у крыўду не аддам.

А людзі, глянуўшы на сонца,
Адказ казалі грамадой:
— Па колькі-ж нам дасі чырвонцаў,
Калі мы пойдзем за табой?

Праз прызму чырвонца, як сымбалю матар'яльнага дабрабыту, вельмі часта пераломліваюцца ідэалы людзкія, а прарочы голас застаецца тым, што старажытныя называлі vox clamantis in deserto (марны лямант у пусні, або: голас таго, хто кліча ў пустыні).

Чырвонец ня звужаў Купалавага гарызонту, матар'яльныя нястачы і сямейная трагэдыя былі спадарожнікамі ягонага жыцьця. Ягоныя бацькі былі нашчадкамі безьзямельнае беларускае шляхты, якія штодзённы хлеб здабывалі арандуючы панскую зямлю на абшары Менскае, Магілёўскае й Віленскае губэрняў. На працягу аднаго 1902 году Купала страціў чатыры дарагія асобы ў сям'і: вясною памёр бацька, а праз паўгоду — на працягу аднаго тыдня ад шкарлятыны памерлі ягоны брат і дзьве сястры. На яго лёг абавязак забясьпечыць неабходным для жыцьця тое, што засталося ад сям'і. Ён патрапіў спалучыць абавязак утрымальніка сям'і з працай над самім сабою, каб выйсьці на літаратурную арэну. Пры такіх матар'яльных і сямейных абставінах Купала ня мог атрымаць паважную школьную адукацыю. Самаадукацыя дала яму тое, чаго ён не займеў у школе. Смага веды і прыроджаная напорыстасьць расчынілі яму дзьверы ў сьвет усебаковае веды і пазнаёмілі яго з пэрламі сусьветнае літаратуры. У гэты літаратурны сьвет ён увайшоў па жарсьцьвяным шляху. Трэба быць удзячным Провіду за тое , што талент Купалы не змарнаваўся так, як талент Паўлюка Багрыма або Коласаўскага Сымона Музыкі. Янка Купала разьвіў свой талент і стаў ня толькі паэтам, але і пракорам-правадыром і прарокам-вяшчуном, аб якім ён сам гаворыць у вершы, на якім мы затрымаліся крыху вышэй. Гавораць, што шлях чалавека гэта ня простая гэамэтрычная лінія ад калыскі да дамавіны, бо ў чалавечым жыцьці бывае шмат зыгзагаў і лябірынтаў, з якіх трэба шукаць выхаду. Янка Купала ня стаў пракорам ад дотыку чарадзейнае лясачкі добрае варожкі. Шлях на вышыню літаратурнае славы для Купалы быў балючы і складаны. Не зважаючы на прыродную здольнасьць, яму давялося вельмі шмат працаваць і перамагаць цяжкасьці. Пастараемся хоць павярхоўна прасачыць стамляючы працэс нараджэньня паэты-вяшчуна.

Купала, падобна бальшыні нашаніўцаў, усплывае на нашы літаратурныя воды на хвалях рэвалюцыйнага ўздыму 1905 году. Пасьля скасаваньня прыгону, праз цяжкасьці акліматызацыі ў новых абставінах Расейскае імпэрыі, беларускае сялянства выказалася словам як дзейнік на арэне нашага палітычна-нацыянальнага жыцьця. Гэта яно, сялянства, перанядло сьветач беларускага Адраджэньня, распалены беларускай шляхоцкай інтэлігенцыяй у другой палове дзевятнаццатага стагодзьдзя. Беларускі рух становіцца масавым народным рухам. З народных гушчаў выходзяць пісьменьнікі і паэты, якія кажуць слова ад самога народу. Іх творчасьць — гэта не сантымэнтальна-рамантычнае насьвятленьне сялянскага жыцьця нашымі шляхоцкімі рамантыкамі, якое пераламліваецца праз прызму шляхоцкае ідэалёгіі. Гэта — не народніцка-інтэлігенцкае сьлёзна-спагадлівае ныцьце пра нядолю нашага народу. Гэта — крык самога народу, які вырываецца з народных грудзей. Нашаніўцы яшчэ не пазбыліся сантымэнтальнага рамантызму. Яны таксама плачуць над доляй народу, але яны плачуць спраўднымі сьлёзамі. Для шляхоцкіх рамантыкаў народу — гэта прадмет, які яны часам ідэалізуюць, прадмет, якому яны спагадаюць, прадмет, які служыць іх клясавым інтарэсам і які яны хочуць выкарыстаць для раўнавагі пахіснутага ў карысьць маскоўскага імпэрыялізму балянсу на землях гістарычнае Літвы. Для нашаніўцаў народ — гэта аб'ект сам у сабе, гэта— роднае карэньне Гарэцкага, часам няўхопнае, але сваё і таму зразумелае само ў сабе. Для нашаніўцаў ужо ня прыходзіць у галаву каб багоў і багіняў з Алімпу апранаць у сялянскую вопратку, або ўкладаць у вусны кідальніка грымотаў Зэўса нелітаратурную народную мову, а пасьля чытаць "Энэіду навыварат" у шляхоцкіх салёнах ды сьмяяцца з яе да змору. Нашаніўства пераждывае паволі і балючы працэс стварэньня незалежніцкае ідэалёгіі.

Векавая няволя і служэньне розным панам з-над Волгі і Віслы стварыла псыхалягічны камплекс для ўсяе нацыі. Перш за ўсё: беларускі селянін павінен адчуць сябе чалавекам. Ад працоўнага "быдла" і "рабочего скота" да чалавека — дыстанцыя вялікая. Пераступіць гэтую дыстанцыю ў псыхіцы ня так хутка. І вось, адчуўшы ў сабе чалавечую годнасьць, шматмільённая сялянская грамада выцягвае руку па свае нацыянальна-палітычныя ідэалы, якія знойдуць сфармуляваньне ў Акце 25 Сакавіка. Такі паступовы і часам балючы працэс у нашай народнай псыхіцы мае выяўленьне ў літаратуры нашаніўцаў. Але ні ў якага з нашых паэтаў і пісьменьнікаў таго часу такая эвалюцыя ня выказана з такім мастацкім рэалізмам, як у Янкі Купалы. Ён здалёк чуе пагрозныя раскаты рэвалюцыйных грымотаў народнае рэвалюцыі ў Беларусі, а пачуўшы буру, якая набліжаецца стараецца ў сваіх творах знайсьці разьвязку сацыяльнага і нацыянальнага вызваленьня Беларусі, шукае такую формулу, якая пазьней ляжа ў аснову палітычных пастановаў Акту 25 Сакавіка. Купала становіцца ідэалёгам беларускага Адраджэньня.



15 травеня 1905 году ў расейскай менскай газэце "Северо-Западный Край" мы чытаем першы друкаваны верш Купалы "Мужык". Ёсьць падабенства ў Купалаўскага "Мужыка" да Багушэвічавага "Дурны мужык, як варона". Але большай ад падабенства зьяўляецца розьніца: у той час, калі Багушэвіч, саромячы селяніна, хоча ў ім разбудзіць адчуваньне чалавечае годнасьці і сілы, Янка Купала вуснамі свайго мужыка выказвае ўжо разбуджаную і ведаючую сабе цану магутнасьць беларускае сялянскае стыхіі, бо сказаў:

"Але хоць колькі жыць тут буду,
Як будзе век тут мой вялік,
Ніколі, братцы, не забуду,
Што чалавек я, хоць мужык.
І кожны, хто мяне спытае,
Пачуе толькі адзін крык,
Што, хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць, бо я — мужык!"
("Мужык")

У праўдзівасьці Купалаўскага прароцтва пра няўмірачасьць мужыка як сялянскае масы вельмі хутка пераканалася савецкая ўлада. Вельмі хутка пасьля прыходу да ўлады, бальшавікам стала відавочна, што дзьве рэчы нельга спалучыць: існаваньне савецкае ўлады ды існаваньне вольнага мужыка — сялянства, як клясы. Селяніна пазбавілі ганаровага званьня мужыка, перайменаваўшы яго ў кулака або падкулачніка ды загналі ў новы прыгон — у калгас, замацаваўшы за ім імя калгасьніка, або саўгасьніка, служкі партыі і ўраду. Працэс рабункаў і занявольваньня сялянаў савецкая ўлада назвала махлярскім назовам раскулачаньня і калектывізацыі. Такі працэс здарыўся пасьля таго, як бальшавікі ўкралі рэвалюцыю, пераптварыўшы народную рэвалюцыю ў партыйную, братазабойчую, у якой загубіўся народны твар, а паказаў зубы апакаліптычны зьвер. Не такое рэвалюцыі чакаў беларускі народ ды іншыя народы Расейскае імпэрыі, і не пра такую рэвалюцыю сьпяваў Янка Купала.

У працэсе раскулачваньня і калектывізацыі было пахавана імкненьне беларускіх сялянаў мець кавалак уласнае зямлі. Гэтае імкненьне асабліва вобразна паказана ў паэме Якуба Коласа "Новая Зямля" (1911-1923). Гэта блізу аўтабіяграфічны матар'ял Якуба Коласа, дзе ён у асобе палясоўшчыка Міхала ды ягонага брата Антося апісвае жыцьцё свайго бацькі Міхала Казіміравіча Міцкевіча. Нявікавым быў лёс слугі-палясоўшчыка ў Радзівілаўскай пушчы: нялюбы сялянам за тое, што пільнаваў панскі лес і цалкам залежны ад працадаўцы, князя Радзівіла, ён быў увесь час паміж молатам і кавадлам. Ягоным заўсёдным жа-

даньнем было мецъ свой уласны кавалак зямлі. Пра долю палясоўшчыка, панскага слугі, сьведчаць словы Міхала, калі яго перамяшчалі з аднаго месца ў іншае:

"Панок, за што? — Міхал пытае: —
Што за прычына ёсьць такая?
Ці я на службе правініўся?
Ці на мяне пан угняві́ўся?
Я не прадаў, ня ўкраў нічога...
Скажы, панок, на літасьць Бога,
За што нас пан перамяшчае?"
Лясьнічы срога пазірае.
"Мне чалавек там добры трэба..."
("Новая Зямля").

У сьвятле служацкае сапраўднасьці зямля становіцца самамэтай у жыцьці селяніна, бо "зямля ня кіне і ня здрадзіць", але гэта павінна быць свая ўласная, а ня панская зямля, ці, як пераканаўся пазьней беларускі селянін, калгасная або саўгасная. Купала і Колас пераклікаюцца і дапаўняюць у сваіх творах адзін другога. У іх заўважаецца непадробны сантымэнт.

Вось што гаворыць Якуб Колас:

"Мой мілы Янка, мой Купала!
Ў агульны вір нас доля ўгнала.
Чаму-ж, чаму часінай тою
Мы не спатканіся з табою,
Каб стол сялянскага банкету
Разьвесяліў душу паэту?"
("Новая зямля")

Купала і Колас — амаль равесьнікі: яны абодва нарадзіліся ў 1882 г. — Купала — 25 чэрвеня, Колас — 22 кастрычніка. Яны мелі розную духовую спадчыну: Купала — сын абяднеўшае безьзямельле шляхты, Колас — сын сялянскае беднаты, панскіх слугаў.

Мы вышэй расказалі біяграфію Янкі Купалы. У гэтым месцы, у самай вузкай форме, скажам пра паходжаньне Коласа. Сапраўднае прозьвішча Коласа — Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч, народжаны ў засьценку Акінчыцы. Бацька Коласа служыў лясьніком у Ластку і Альбуцi ў князя Радзівіла. Матка Коласа — Ганна Юр'еўна Лёсік. Вялізны ўплыў на Коласа-хлапчука меў ягоны дзядзька Антоні, апеты паэтам у "Новай зямлі". Гэта ён, Антоні, раскрыў будучаму паэту хараство народнае вуснае паэзіі й прывучыў да кнігі. Ужо ў дзіцячыя гады Колас ведаў напамяць творы Пушкіна, Лермантава, Някрасава, Крылова. Да таго часу адносяцца спробы самастойнай творчасьці. Купала пачынае пісаць па-польску. Ягоны першы твор "Мая доля" напісаны ў 1904 годзе. Колас змалку падпадае пад уплыў клясычнаў расейскае літаратуры, але адразу захапляецца беларускай мовай. Колас вучыўся ў Нясьвіжскай настаўніцкай сэмінарыі, стаў настаўнікам. Займаў месца настаўніка ў вёсках Люсіна і Пінкавічы. За нелегальную прапаганду сярод сялян, быў пераведзены ў 1906 г. у Верхменскую школу Ігуменскага павету, а за ўдзел у нелегальным настаўніцкім зьезьдзе ў Мікалаеўшчыне, яго звольнілі з працы. Тады ён жыў у лясьнічоўцы Смалярня ў брата, дзе адкрыў прыватную школу У 1909 г. напісаў падручнік беларускае мовы для дзяцей — "Другое чытаньне для дзяцей беларусаў" (Пецярбург).

Тым часам, сьледзтва пра патаемны зьезд у Мікалаеўшчыне ішло два гады, і 15 верасьня 1908 г. Выязная камісія Віленскае Судовае Палаты ў Менску засудзіла Коласа на тры гады зьняволеньня, якое ён адбыў у Менску. У гэтым часе выйшла ў сьвет Коласава кніга "Песьні жальбы" (1910 г., Вільня). Падчас зьняволеньня ў Коласа зарадзіўся сюжэт "Новае зямлі" і "Сымона Музыкі".

Пасьля зьняволеньня працаваў настаўнікам у розных мясцовасьцях у Беларусі, а пасьля дэмабілізацыі з расейскае арміі настаўнічаў у Курскай губэрні. Становішча настаўніка дазволіла Коласу пазнац ьтаямніцу дзіцячае душы і сьвет тагачаснае інтэлігенцыі і паўінтэлігэнцыі. У першым выпадку ён пазнаёміўся з багацьцем моладзі беларускае, яе таленавітасьцю і трагедыяй, калі талент беларускіх самародкаў марнаваўся таму, што дзьверы ў культурны сьвет для беларускае моладзі былі зачынены гістарычнымі абставінамі. У сваёй захапляючай па форме і зьместу паэме "Сымон Музыка" Якуб Колас паказаў такую трагедыю ў асобе ягонага героя Сымона — сялянскага сына, самародка-музыкі, які пры спрыяльных абставінах змог-бы стаць выдатным кампазытарам, але ў акружаючым яго варожым нацыянальна і сацыяльна сьвеце ягоны талент змарнаваўся. Як эпітафія над магілай змарнаванага таленту гучаць словы Коласа:

"Колькі талентаў зьвялося!
Колькі іх і дзе ляжыць
Невядомых, няпрызнаных,
Не аплаканых нікім,
Толькі ў полі адсьпяваных
Ветру посьвістам глухім."
("Сымон Музыка").

Знаёмства із сьветам тагачаснае інтэлігенцыі і паўінтэлігэнцыі зрадзіла аповесьць "У Палескай глушы" і "У глыбі Палесься", у якіх паказаны дадатныя і ад'емныя тыпы су-



часнай Коласу інтэлігенцыі. Свае празаічныя творы Якуб Колас падпісваў псэўданімам Тарас Гушча. Наагул, у Коласа быў цэлы шэраг псэўданімаў, як: Адзінокі, Альбуцкі, Тамаш Булава, Пятрусь Дзягель, Дзядзьнка Карусь, Дзямянаў Гуз, Лесавік, Мікалаевец, Надняманец і інш.

У Янкі Купалы таксама былі розныя псэўдонімы, напрыклад: Марка Бяздольны, Купальскі Я., Вайдэлота, Янук з-пад Менску, Здарэнец ды іншыя.

Вышэй мы сказалі, што Янка Купала як паэт рос павольна. Свой прарочы геній ён выказваў паступова і сугучна з поступам беларускага Адраджэньня, мауляў, баючыся спудзіць чытача, яшчэ не падрыхтаванага да больш гострых формаў выказваньня. У сваіх пачатковых творах Янка Купала астаецца на ўзроўні тэматыкі блізкага яму сялянскага асяродзьдзя. У ягоным зборніку "Жалейка" — інструманце няхітрым — ён астаецца сугучным Багушэвічу ў "Дудцы", таксама ня вельмі скамплікаваным музычным інструманце. Тут Янка Купала толькі падпявае народным песьнярам і, падобна ім, ня імкнецца да паэтычнае славы, бо кажа:

"Я не паэта, о крый мяне Божа!
Ня рвуся я к славе гэткай німала.
Хоць песеньку-думку і высную можа,
Завуся я толькі Янка Купала".

Антон Навіна гаворыць пра матывы Купалавае "Жалейкі", што яны ёсьць "паглыбленыя перапевы "Дудкі беларускае" у больш мастацкай форме." ("Напевы ліры Янкі Купалы", "Адбітае жыцьцё", Вільня 1929 г.). Аднак, нават у раньніх творах Купалы гучаць ноткі, якіх ня чуваць у народнікаў, гэта — сьведамасьць сілы сялянскіх гушчаў. Раўналегла з ростам самасьведамасьці народных сялянскіх масаў расьце афармленасьць ідэалягічнае мэтанакіраванасьці беларускага Адраджэньня ў творах Купалы. Кожны далейшы зборнік вершаў Купалы — гэта пройдзены этап Беларускага Адраджэньня, перажыты і ўскормлены ў душы паэта.

Вышэй мы ўжо адцемілі гістарычны камплекс беларускіх масаў як сьлед шматвяковага паняволеньня — нацыянальнага і сацыянальнага. У сваім першым друкаваным вершы "Мужык" Купала абвяшчае сьвету навіну аб тым, што беларускі селянін вярнуў сабе украдзеную прыгнятальнікамі чалавечую годнасьць і сказаў: я —чалавек, хоць і мужык. Ад такога аб'яўленьня толькі адзін крок ад фармуліроўкі імкненьняў Беларускага Народу на першым этапе Адраджэньня. Мастацкае афармленьне гэтых імкненьняў мы знаходзім у вершы Янкі Купалы "А хто там ідзе?" Гэты верш быў беларускім гімнам да рэвалюцыі 1917 г. Тут Купала прапануе нашай увазе візыю паходу шматмільённае беларускае грамады. Гэта ўжо ня "тутэйшыя" з Багушэвічавых "Хмарак". Гэта — сьвядомая нацыянальна беларуская грамада, якая ставіць свой пастулят — людзьмі звацца; пры гэтым пытаньне ставіцца проста: людзі — гэта Беларусы.

"А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
— Беларусы.
А што яны нясуць на худых плячах,
На ў лапцях нагах, на ў крыві руках?
— Сваю крыўду.
А каму нясуць гэту крыўду усю,
А каму нясуць на паказ сваю?
— На сьвет цэлы.
А хто гэта іх, не адзін мільён,
Крыўду несьці навучыў, разбудзіў іх сон?
— Бяда, гора.
А чаго-ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім сьляпым, глухім?
— Людзьмі звацца!

Рэакцыя царскага ўраду, які здушыў рэвалюцыю 1905 г., не заламала духова Янку Купалу, як гэта здарылася з шматлікімі. Ён ня стаў дэкадэнтам. Ад восені 1909 г. ён прабыў чатыры гады ў Пецярбурзе, дзе паглыбіў веду, зглядзіўшы пахібы агульнае асьветы. Тут ён пашырыў свой інтэлектуальны кругазор, пазнаёміўшыся з літаратурным сьветам таго часу. Гэта — пара духовага і творчага крызісу паэта; ён часова схіліўся ў бок філязофскіх пытаньняў і змрочнага містыцызму. Плодам шуканьня ім цьвёрдае арыентацыі зьяўляецца зборнік вершаў "Гусьляр" (выданы ў 1910 г.). Некаторыя вершы, зьмешчаныя ў гэтым зборніку, сьведчаць аб тым, што Купала пазбыўся духовага разладу і знайшоў цьвёрды грунт пад сабою. У першую чаргу ён знайшоў сабе месца, як пясьняр. Ува ўступным вершы да гэтага зборніка Купала гаворыць пра ролю песьняра. Тут Купала далёка адыйшоў ад сарамяжлівае сьціпласьці думак, выказаных некалі ў вершы "Я не паэт". Зараз Купала акрэсьлівае ролю песьняра, як "слугі і цара" свайго народу, які нясе "вольных, звонкіх песень чар", паказвае "к сонцу зорны шлях". Заданьнем паэта Купала цяпер лічыць абавязак будзіць народ, клікаць да змаганьня, бо ён мае "Божы дар, сэрца жар" — думка, якую пазьней паглыбіць у паэме "Курган". Аднак гэта ня толькі Шыльлерава думка пра

свабоду творчасьці; галоўным заданьнем песьняра Купала лічыць служэньне народу.

Верхавінаў паэтычнае сілы Янка Купала дасягнуў у ягоным наступным зборніку твораў "Шляхам жыцьця" (1913 г.). Цяпер Купала пачуў у сабе прарочую сілу. Ягоныя творы адлюстроўваюць рост Беларускага Адраджэньня. Ён, падобна нейкаму сьвятару ў закляцьцях-замовах, прадвяшчае перамогу ідэі Адраджэньня ("Ужо днее"). Тое Адраджэньне разгараецца быццам вогнішча, распаленае Падарожным, піянерам-адраджэнцам у "На пасе". Вера паэта ўзмацняецца: ён верыць у перамогу тае справы, якую робіць шматмільённы народ, верыць у няўміручасьць Беларускага народу, бо сама колькасьць мільёнаў беларусаў зьяўляецца гарантыяй такое няўміручасьці падобна таму, як наяўнасьць неба зьяўляецца гарантыяй існаваньня зорак ("Не пагаснуць зоркі ў небе" — таксама беларускі гімн на працягу некаторага часу). Упэўненасьць Купалы ў перамогу беларускае справы падсоўвае яму думку заклікаць беларскі народ займаць сваё месца паміж народамі ("Маладая Беларусь"). Узьняты парывам патрыятызму, Купала ўпадае ў прамэтэізм, падобна Адаму Міцкевічу ў "Дзядах", кідае вызаў Богу, сказаўшы:

"Вярні нам бацькаўшчыну, Божа,
Калі Ты Цар і неба і зямлі!"
("Цару неба і зямлі").

Выбух патрыятызму не перашкаджае Купалу аставацца веруючым у Бога чалавекам, бо ён моліцца за свой край і народ:

"Хрыстос васкрос!.. К Табе, о Божа,
І я ў дзень гэты думку шлю:
Хай Беларусь, мая старонка,
Ўваскрэсьне к лепшаму жыцьцю!"
("Хрыстос васкрос").

Бескампрамісная у Купалы астаецца ягоная нялюбасьць да ворагаў Беларускага Народу; ім ён у вочы скажа:

Напасьцяй, лаянкай напраснай
Грудзей ня варта мазаліць —
Не пагасіць вам праўды яснай:
Жыў Беларус і будзе жыць!
("Ворагам беларушчыны").

або:

Людзі чужыя! Хтось калісь зьліча
Вашу нам шкоду:
Зьліча праступкі... к суду пакліча
За крыўду народу.
("Чужым").

Да гэтага часу мы затрымоўваліся на вяршавай творчасьці Янкі Купалы, хоць ідэя Беларускага Адраджэньня выяўлена ня менш у ягоных драматычных творах. Хведар Ільляшэвіч аб гэтым кажа: "Сымбалізм, які пакладзены ў аснову "Авечнае песьні" (1910 г.), знаходзіць сваё далейшае разьвіцьцё ў драматычнай паэме "Сон на кургане" (1910 г.) і драме "Раскіданае гняздо" (1913 г.). "Адвечная песьня" канчаецца змрочным абразом, калі цень Мужыка, выйшаўшы з-пад зямлі пабачыўшы ўсю беспрасьветнасьць жыцьця, нікне ізноў у магілу, кажучы:

Ня міла мне слухаць, ня міла
З зямлі маёй гэткі прывет.
Раскрыйся нанова, магіла:
Страшней цябе людзі і сьвет!

У далейшым, эвалюцыя драмы Купалы разгортваецца ў наступным напрамку: заміж постаці Мужыка ў паэме "Сон на кургане" мы бачым ужо Сама, які шукае скарбу ў замчышчы. Сам уяўляе сабою ўвесь беларускі народ, які імкнецца да свайго Адраджэньня. Цёмныя сілы — Відмы — не дапушчаюць Сама да замчышча. З гутарак Відмаў мы даведваемся пра ўсе балячкі беларускага народу. Тут дадзены падрабязны аналіз тагачаснага ладу ў Беларусі. Сам не здабыў скарбу. Ён бачыць водблеск пажару — гэта гарыць ягоная вёска. Ён бяжыць на пажар. Сама, якога ўбачылі з запаленай галавешкай, абвінавацілі ў падпале. Яго арыштоўваюць. Пазьней мы бачым яго ў шынку, дзе зьбіраюцца прадстаўнікі розных сацыяльна-грамадзкіх пластоў і з іх гутарак даведваемся пра настроі, панаваўшыя ў тагачасным грамадзтве. Сам сьпявае песьню, у якой прарочыць рэвалюцыю, бо ён лічыць рэвалюцыю супраць царскае ўлады за неабходнасьць. У сцэне, дзе стражнік у замерзлай жанчыне пазнае сваю матку, а Сам — жонку, паказаны трагізм беларускага народу, ашуканага чужою ўладаю.

Ад Сама, які спароднены постаці Мужыка ў "Адвечнай песьні", ужо адзін крок да Сымона, гэроя драмы "Раскіданае гняздо". Але Сымон ужо пазбаўлены містычнае імглістасьці Сама. Ён бачыць просты шлях да вызваленьня. Сымон і Сам — абодва ўвасабляюць беларускі народ. Яны абодва сымбалізуюць новае пакаленьне, якое бачыць выхад з палажэньня ў рэвалюцыі. Старое пакаленьне, якое ўжо аджыло свой век, — прымірэнцы, паказана ў асобе Лявона Зябліка, ягонае жонкі і Старца. У постаці Зоські, якая нагадвае Шэксьпіраўскую Офэлію, Купала паказаў бязмэтнасьць заціраньня сацыяльных і нацыянальных антаганізмаў. Сымон вырывае з духовага амярцьвеньня сваю сястру, падпальвае панскі двор і, з запаленай галавешкай, кліча народ на сход. Візыя Купалавага сходу, пра якую ён гаворыць шмат разоў, гэта — Усебеларускі Кангрэс, які адбыўся ў 1917 г.



Будучыня Беларусі ў Купалы неразьдзельна зьвязана з мінуўшчынай. Пад уплывам рамантыкаў Купала ўваскрашае абразы даўно прамінулае славы Беларусі, каб з іх чэрпаць натхненьні і веру ў перамогу свайго народу. У элегіі "Над Нёманам" Купала вылівае сум па запалай славе свайго краю і кажа:

"Поўнач" ня раз у ім схову шукала,
"Захад" знаў сілу яго неўнарай...

Купала зьвязвае будычыню з мінуўшчынай, бо лічыць, што народ, які перахоўвае традыцыі, у якім не пагасла імкненьне да волі, не загіне:

Ня ўмруць, ня ўмруць яны,
Раз хочуць сонца, славы, песьні;
Заб'юць ім зычныя званы
Прабудным звонам на прадвесьні.
("На Куцьцю").

Якуб Колас, трапляючы ў тон Янку Купалу, таксама зьвязвае мінуўшчыну з сучаснасьцю. Ён, як мастак слоўных вобразаў, асабліва назіральна паказаў сябе ў дэградацыях — водступах ад галоўнага сюжэту — у паэме "Сымон Музыка". Вось маленькі прыклад:

Гэй, адвечныя курганы,
Сьведкі прошласьці глухой!
Кім вы тут панасыпаны?
Чыёй воляю-рукой
Вы раскіданы па полі,
Даўных спраў вартаўнікі?
Эх, ня скажаце ніколі,
Што казалі вам вякі!

Падзеі 1817 г., якія прадказаў Купала, зафіксаваліся толькі ў некаторых ягоных творах. М. Гарэцкі сьведчыць, што Купала "ужо з якімсь надрывам, з болем заклікае свой нясьведамы народ усьведаміцца, зразумець, які гістарычны момант ён перажывае, прачнуцца, не праспаць, паўстаць... ("Свайму народу" і інш.) — ("Гісторыя беларускай літаратуры". Менск, 1926, бач. 182.).

Праз дым і пажарышчы вайны вырысоўваюцца новыя дні. Купала прыглядаецца да новае сапраўднасьці. Гэтая сапраўднасьць выглядае далёкай ад тае, якую ўяўляў ён; далёкай ад тых ідэалаў, якія выпеставаў у сваёй душы Вялікі Пясьняр. Аднак, пэўны час была яшчэ нейкая свабода. У гэтым часе выходзіць зборнік вершаў "Безназоўнае" (1924 г.), які, разам з некаторымі вершамі ў "Спадчыне" (1922 г.), паказвае апошні пэрыяд ідэйнага разьвіцьця Купалы. Ён бачыць рост беларускага жыцьця. На арэну нацыянальнага жыцьця выходзяць новыя сілы, каб будаваць новы дом, як шмат хто ўяўляў у той час Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку. Гэта да іх зварочваецца Купала такімі словамі:

Сяляне і сялянкі,
Як зоры, як заранкі,
Выходзьце на палянкі
І сейце ў добры час!

Гэты верш быў напісаны яшчэ тады, калі тэрмін "калгасьнік" ня выціснуў прыгожага слова "селянін". Аднак час і абставіны хутка зьмяняюцца і новыя ветры павяваюць з чырвонасьцяжнае Масквы. Пры такіх абставінах у Купалы насьпявае духовы разлад. Яму цяжка пагадзіць ягоную дасюлешнюю лёгіку з савецкай рэчаіснасьцю. Ён гатоў пагадзіцца з будаўніцтвам сьвету працоўнымі і нават сам прызнаецца ў сваёй пралетарскасьці, у прыналежнасьці да грамады лапцюжнікаў, якія цяпер сталі "зямлі ўладарамі", але ён яшчэ ня збыў усіх бед, бо яму "сьняцца сны аб Беларусі". Гэтымі словамі Купала выказвае свае адносіны да новае сапраўднасьці, бо кажа:

Мне бацькаўшчынай цэлы сьвет,
Ад родных ніў я адвярнуўся...
Адно... ня збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сьняцца сны аб Беларусі.

Паўсотні гадоў таму назад Антон Навіна (А. Луцкевіч) у ягонай лекцыі "Янка Купала як Прарок Адраджэньня" (1932 г.) даў наступную інтэпрэтацыю вышэй прыведзеных словаў: "Як-жа красамоўныя гэтыя "сьны аб Беларусі"! Купала — сябра інтэрнацыянальнага грамадзянства, якое творыцца на нашых вачох, — ня лічыць сваёй нацыянальнай місіі закончанай. Пасьля чвэрцьвяковае бязупыннае творчае працы ён яшчэ ня можа супачыць спакойна на заслужаных лаўрах. Яго трывожаць "сны аб Беларусі", якая і ў гэным новым грамадзянстве Інтэрнацыяналу астаецца нейкім пасынкам сярод родных дзяцей. Дык і мусяць сьніцца Купалу абразы поўнага зьдзяйсьненьня яго ідэалу Адраджэньня, — зьдзяйсьненьня да канца. Але на паперу яны ўжо ня выліваюцца і — здаецца — ня выльлюцца. Іх дасьпявае хіба новае, маладое пакаленьне песьняроў беларускіх..." Выходзіць,

што Антон Навіна дае пазытыўную ацэну гэтым словам Купалы.

Ёсьць падставы думаць, што, калі-б Антон Навіна пажыў крыху даўжэй і пабачыў у які бок коціцца маскоўскі інтэрнацыянал, ён даў-бы нэгатыўную ацэнку Купалавых слоў так, як гэта зрабіў Хведар Ільляшэвіч, сказаўшы: "Сэнс гэтае звароткі наагул даволі няясны. Што значыць "Ад родных ніў я адвярнуўся"? Адрыў ад сялянства?.. Чаму песьняру "сьняцца сны аб Беларусі", калі-б ён захапіўся савецкім будаўніцтвам? Мы, здаецца, не памылімся, калі якраз будзем тлумачыць гэты верш нэгатыўна, а не пазытыўна. Купала сьніць сны аб тэй Беларусі, якую ён высьніў ува ўсёй дасюлешняй творчасьці і якой ён ня бачыць у ўмовах савецкага ладу. Пагаджэньне з "пралетарскай" ідэалёгіяй азначала-б здраду свайму народу. Усё-ж паэта застаецца верным сваім ідэалам, ідэалам сялянскай, лапцюжнай Беларусі, а не пралетарскай, накінутай чужынцамі, у якой адно і можна толькі... сьніць сны аб Беларусі... Верш гэты — лебядзіная песьня Купалы, гэта прызнаньне ім самім, што ён меў сказаць, ужо сказана, цяпер асталіся адны толькі сны..." Як эпітаф на помніку Купале Ільляшэвіч кажа: "Гэтых сноў ня вызбыўся Купала да самой сьмерці. Ён настолькі любіў Беларусь, што не ўяўляў сабе растаньня з Ёй і пасьля сваёй сьмерці. У адным вершы Купала ўяўляе свой цень над магілай, абпёрты на крыж, які будзе вечна ўглядацца ў той бок, "дзе ляжаць загоны Беларусі роднай":

Не зрабіць нікому гэткай дамавіны,
І ня вырыць яму гэтакай глыбіны,
Каб у іх з вачэй мне Беларусю-маці,
Як людзей хаваць, гэтак пахаваці.
А хоць дасьць мне доля ў дамавіне месца,
Ўстане цень з зямлі мой, на крыж абапрэцца,
І ў той бок глядзеці будзе век нязводна,
Дзе ляжаць загоны Беларусі роднай."

Гэты цень Вялікага нашага Прарока будзе вечна непакоіць нашых ворагаў, бо ў ім заклята ідэя волі і незалежнасьці беларускага народу.

У вузкіх рамках рэфэрату мы спрабавалі паказаць веліч Янкі Купалы як Песьняра Беларускага Адраджэньня. Ён ня толькі сьпяваў пра крыж нашага Адраджэньня, ён сам нёс гэты крыж на сваю Галгофу. Калі абставіны савецкае сапраўднасьці пазбавілі Купалу сьпяваць вольную песьню, якую напяваў ягоны талент, а загадалі ўліцца ў паслухмяны хор падхалімаў ды падпейваць паводле партыйнае партытуры песенькі Язэпу Вісарыёнавічу ды тым, што з ім, Купалу жыць стала не пад сілу. Ён прабаваў пакончыць жыцьцё самагубствам, — зрабіў харакіры; але яму не дазволілі тады памерці, бо ягоная сьмерць была-б вялікім скандалам для Савецкага ўраду. Такім чынам, сьмерць яму замянілі дажывотнай турмой, бо арлу ня месца ў клетцы, а такой клеткай для Купалы была пазьней экзыстэнцыя, а пісаньне вымушанае, казённае паэзіі для такога генія, як ён, было пакутай. Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя прысьвяціла Купалу 5 бачынаў, уключаючы ягоны партрэт на ўсю бачыну. Аб літаратурнай і публіцыстычнай ягонай дзейнасьці ў пару Другое Сусьветнае вайны сказана адно ў пяці радкох у поў бачыны ўшыркі. А сказана вось што: "Як публіцыст К. асабліва актыўна выступаў у гады Вял. Айч. Вайны ("Кліч да беларускага народа", "Не будзе беларус рабом нямецкіх бараноў", "Узьнімайся, народзе мой, на вялікую расплату" і інш.) Вось і ўсё!

Столькі-ж сама, бо 5 бачынаў, БелСЭ прысьвяціла Якубу Коласу, уключаючы ягоны партрэт на ўсю бачыну. І ў выпадку Коласа вельмі мала сказана пра ягоную творчасьць у пару Другое Сусьветнае вайны. Тут мы прыводзім дакладна тэкст БелСЭ: "У творах пэрыяду Айчыннае вайны паэт разьвіваў патрыятычныя матывы, апяваў народны гераізм ("Голас Зямлі", Чымган", "Бацьку Мінаю"), высьмейваў прэтэнзіі гітлераўцаў на сусьветнае панаваньне ("Кальмага Рым-Бэрлін", "Крумкачы", "Нямецкі бінокль")."

Чытаючы рэляцыі БелСЭ, ствараецца ўражаньне, што ўсё тое, што Якуб Колас пісаў пасьля Другое Сусьветнае вайны, было паўтарэньнем і паглыбленьнем раней напісанага, напрыклад: "На ростанях", інсцэніроўка пад назвай "Навальніца будзе" пра настаўніка Андрэя Лабановіча. З рэцэнзіі БелСЭ ствараецца ўражаньне, што Якуб Колас перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй і ў першае дзесяцігодзьдзе Савецкае ўлады — гэта нехта іншы, чым той Колас, які піша ў пару калектывізацыі і пасьля Другое Сусьветнае вайны. Ягоная аповесьць пра пару калектывізацыі "Адшчапенец", напісаная пад дыктоўку партыі і ўраду, прымушае прыпомніць і задумацца пра нядолю селяніна ў іншую пару, апісаную ў "Новай зямлі", 5-ты разьдзел — "Пярэбары".

28 чэрвеня 1942 году Янкі Купалы ня стала ў жывых. Аб ягонай сьмерці ходзяць розныя чуткі. БелСЭ пра ягоную сьмерць гаворыць вельмі кораткa: "Памёр у Маскве. Урна з прахам К. перавезена ў Мінск у 1962 г." Толькі "урну з прахам" Вялікага Песьняра адважыліся даверыць Беларускай зямлі бальшавікі, бо баяліся, каб ягоны цень ня выйшаў з дамавіны, як Прарок свайго народу. Наглядальнік, у той час прысутны ў Маскве, гаворыць пра паховіны Купалы вось што: "1-га ліпеня 1942 году, роўна праз два дні па ягонай сьмерці, аб прычынах якой нідзе не упамянута, па вузкіх завулках Масквы сунуўся чорны фургон, за якім ішло каля дзесятка чалавек з таго "тесного кружка друзей и приятелей" паэта... Цярусіў дождж..." Пэрфідыяй гучаць словы пафасу "Полымя" за ліпень 1972 году: "Масква чэрвеньскіх дзён сорак другога. На вуліцы Горкага дзяўчаты-зэнітчыцы вядуць вялікія арастаты... Кіраўнікі партыі і ўраду выносяць труну Купалы. На чорных стужках Купалавы словы "Мне сьняцца сны аб Беларусі".



Вось-жа, выдавец "Полымя" — Саюз пісьменьнікаў БССР — займаецца фальсыфікацыяй і паказвае гістарычную праўду ў крывым люстры. У чэрвені 1942 г. кіраўнікі савецкага ўраду не маглі несьці труну Янкі Купалы ў Маскве, бо ў 1942 годзе ў Маске ня было савецкага ўраду. Пад націскам нямецкае арміі савецкі урад уцёк у 1941 годзе ў Куйбышаў і вярнуўся ў Маскву ў 1943 г. Такім чынам, мы маем дачыненьне з чырвоным фальшам савецкае прапаганды, якая намагаецца ўкрасьці ад беларусаў сапраўднага Янку Купалу ды падмяніць яго новаму пакаленьню як нейкага тыпа, вынесенага на паверхню гісторыі бальшавікамі.

Дарэмна намагаюцца паслухмяныя загадам Масквы "шчелкопёры" сфальшаваць велічную постаць Купалы: ён сам стварыў сабе помнік трывалейшы ад часу, і ягоныя ідэі перамогуць у часе.

Савецкая ўлада для яе эгаістычных мэтаў скарыстоўвала імя вялікага паэта, але натхніць новай тэматыкай не змагла. Не зважаючы на высокія ўзнагароды, атрыманыя ад савецкай улады, Янка Купала ведаў аб тым, што ён сказаў усё, што мог сказаць, і яму асталося адно — сьніць сны аб Беларусі.

Якуб Колас перажыў Купалу на 20 гадоў. Аднак гэтыя гады, пад паглядам творчасьці, былі толькі эгзыстэнцыяй. Яму таксама бракавала паветра дыхаць поўнымі грудзьмі карыфэя. Ён пісаў на тэмы, якія яму сказалі пісаць, быў паважным супрацоўнікам паважных навукова-літаратурных установаў, атрымаў высокія ўзнагароды ад савецкай улады — пяць разоў ордэн Леніна ды іншыя ўзнагароды. Ягоным імем, таксама як і Купалаўскім, названы навучальныя ўстановы, тэатры, бібліятэкі. Ім абодвум пабудованы шматлікія помнікі ды створаны музэі, але ўсё гэта зьяўляецца тым, што ў Евангельлі называецца маляванай труной, у якой пахаваны самыя лепшыя ідэі іх лепшых гадоў творчасьці.

Якуб Колас ня мог ня бачыць таго, што ягоныя лепшыя героі лепшых твораў у сьвятле савецкае сапраўднасьці сталі антынароднымі элемэнтамі: ягоны бацька, гэрой паэмы "Новая зямля" — лясьнік, Лабановіч, гэрой аповесьці "У Палескай глушы" — настаўнік, іншы настаўнік — дарэктар Яська, амальшто аўтапартрэт Коласа — усё гэта тыпы, варожыя савецкай сыстэме. Гэта такіх людзей у 1939 годзе бальшавікі павывозілі з Заходняй Беларусі ў мясьціны аддаленыя ў Савецкім Саюзе. Лясьнікі, стражнікі, настаўнікі былі таварам, якім ладавалі цягнікі, што варӑчаліся з Трэцяга Райху, завёзшы туды гандлёвыя матар'ялы ў выкананьне трактату Рыбэнтроп- Молатаў. У БелСЭ мы чытаем аб тым, што ў Мікалаеўшчыне створаны Коласаўскі музэй, бо тут у суседстве былі лясьнічоўкі Альбуць і Ласток, дзе Якуб Колас правёў дзяцінства. Аднак ордэнаносец ордэна Леніна Якуб Колас не мог ня ведаць, што за грахі такія, якімі грашыў ягоны бацька, бо быў лясьніком, тысячы іншых лясьнікоў з іх сем'ямі былі вывезены ў савецкую ссылку з ваколіцаў тае самае Мікалаеўшчыны ды іншых акругаў Беларусі.

Мы сказалі вышэй, што савецкая казённая літаратурная крытыка намагаецца прадставіць Янку Купалу адменным ад таго, якім ён быў у сапраўднасьці. Тое-ж самае мы назіраем і ў выпадку Якуба Коласа. Вузкія рамкі рэфэрату на такую шырокую тэму, як літаратурны агляд творчасьці двох карыфэяў, не дазваляе паказаць нават прыблізны фальш савецкай крытыкі і афіцыйнага выдавецтва савецкае ўлады.

Затрымаемся крыху над рэлігійным аспэктам у творчасьці Якуба Коласа. Ён быў глыбока веруючым чалавекам, не зважаючы на выпады супраць чужанацыянальнага духавенства — праваслаўнага і каталіцкага. Такім рэлігійным чалавекам мы бачым Коласа ў першым выданьні і першай рэдакцыі "Сымона Музыкі" (1917-1921). У рэдакцыі 1925 г. і пасьледуючых з гэтае паэмы афіцыйныя цэнзары выкінулі месцы, дзе Колас праслаўляе Бога, або імя Бог падмянілі прыпадковай рыфмай.

У першай рэдакцыі "Сымона Музыкі" Якуб Колас сьпявае Богу-Стварыцелю гімн словамі:

Хто рассыпаў ў небе зоры
Без канца і без чысла?
І каму у тым прасторы
Ночка, дол, лясы і горы
Ў сьпевах кажуць: чэсьць, хвала?

А ў рэдакцыі 1925 г. гэтае месца гучыць вось як:

Як прыгожы-павабны вы, зоры!
Нібы высыпаў іней агністы,
Нібы пацерак шнур прамяністы
Асьвятляе глыбіны-прасторы.
("Сымон Музыка" ІІ-ая частка, 5-ты разьдзел).

Савецкая цэнзура цалком выкінула з "Сымона Музыкі" імправізацыю Сымона, калі ён граў у карчме перад уцёкамі з яе. Гэта твор у 114 радкоў, якім захапляліся акад. Карскі і праф. Піотуховіч. Вось як сьпявае хвалебную песьню сусьвету Сымонка:

...Радасьць Божую, сьветы, пазнайце...
...Абудзіся, зямля, хвалі Бога!..
...Асьвяціся і цьма, пазнай радасьць!..
...Радуйся, неба, — ўваскросьне зямля...

Гэта выкінута савецкай цэнзурай, таксама, як выкінута:

Казкі — зьявішчы дарогі!
Колькі мар ў далечыне!
Хай-жа Бог цаліць вас, ногі,
Што вы носіце мяне!

А вось некалькі прыкладаў перамахляваных савецкай цэнзурай:
У першай рэдакцыі паэмы сказана:

1. Але ў Бога вер, і Богу
Ты заўсёды, браце, вер...

2. Сам Бог, мусіць, для спакусы
Гэты край наш адзначаў...

3. — Эге-ж, хлопча: не забыта
Богам праўда на зямлі...

4. — Божа! Дзе я? Што са мною?..

У рэдакцыі-ж 1925 г. і пазьнейшых сказана:

1. Вер у бога, але богу
Не заўсёды, браце, вер...

2. Сам лёс, мусіць, для спакусы
Гэты край наш адзначаў...

3. Эгэ-ж, хлопча, не забыта
Тая праўда на зямлі...

4. Тфу ты, ліха! Што са мною?

Вось так савецкая ўлада фальшуе душу чалавека, а каб фальш зрабіць больш праўдападобным для людзкога вока, няпраўду прыкрываюць фігавым лістком узнагародаў.

Адзначаючы стагодзьдзе ад дня нараджэньня двух карыфэяў беларускае літаратуры, Купалы і Коласа, схіляем нашы галовы перад веліччу іх мастацкага таленту, спачуваем ім і ў іх трагэдыі нядзейсьненых сноў і цешымся тым, што мы зьяўляемся помнікамі іх літаратурнае славы і астаемся перакананымі, што ў нашай сьведамасьці ды ў сьведамасьці народнай яны маюць помнік цяплейшы, чым тыя з граніту, пастаўленыя ім бяздушнаю ўладаю.

*С. Коўш*



*Язэп ПУШЧА*
*ЯНКУ КУПАЛУ*

*Сагылася жывая кроў з пяра,*
*І гара сэрца з песьняю разбіты.*
*Ня быў народ пры сьмерці пессьняра*
*І ня прыкрыў яго вагэй зьнябытых.*

*У вегар той аклікнуў гром прасторы,*
*І рэкі паплылі народных сьлёз.*
*Нашгадкам не раскажа і гісторык,*
*Як смутак з горам ў нашы сэрцы поўз.*

*Ад жалю-скрухі людзі камянелі,*
*Схіляліся ў жалобе на калені*
*І клікалі радзіму Беларусь:*

*"Прыйдзі, згарні гарагых песень прысак,*
*Ня згасьлі ў ім, гараць Купалы рысы,*
*У крупінцы кожнай б'еццa сэрца пульс".*

**1942 г.**



**ВІНШУЕМ**

**Рэдакцыя і Выдавецтва "Беларускай Думкі" сардэчна віншуюць паэта Янку ЗОЛАКА і пісьменьніка Юру ЖЫВІЦУ з сямідзесяцігодзьдзем і жадаюць ім доўгіх і шчасьлівых гадоў жыцьця ды новых творчых посьпехаў.**



**Ад Рэдакцыі.**

У зацемцы "Над сьвежай магілай" Лёнгіны Брылеўскай ("Беларуская Думка" №24) надрукаваны словы (цэлы абзац, другі ад канца зацемкі), які не належаць аўтару, а другой асобе. Шчыра перапрашаем спадарыню Лёнгіну Брылеўскую за гэтую прыкрую памылку.



Аляксандра Саковіч

# Паміж Сцылай і Харыбдай

*(Пагатак і працяг у №№ 21-24)*

5

Першыя дні ў доме Мар'яна й Тэклі Зяневічаў. Яны абое гасьцінныя, уважлівыя да Ганны, моцна цешацца ўнукам. Ганна абыходзіцца зь імі сьціпла, ветліва. Дом старых уражае яе сваёй прастатою, чысьцінёю, утульнасьцю. Для яе з Конрадам — асобны пакой. У пакоі — вялікі драўляны ложак, засланы у белых навалачках з карункавымі прашыўкамі, праз якія сьвецяцц аяркачырвоныя насыпкі. Каля сьцяны насупраць ложка стаіць шырокі тапча. Удзень ён служыць за канапу, уначы на ім сьцелюць малому пасьцель. У куце — драўляная шафа для вопраткі.

Ганна ўдзячная бацькам Конрада за добрыя дачыненьні. Адразу моцна палюбілася ёй Конрадава маці. Ласкавая, ціхая, заўсёды за працаю. У маці шмат саматканых дзяружак, памастацку вязаных сарвэ ак, вышываных рушнікоў. Ганна ўсё гэта шчыра хваліць і падзіўляецца ўмельству старой, а тая задаволена ўсьміхаецца. Кажа: "У Туравічах ёсьць яшчэ лепшыя ад мяне майстрыхі". Конрад прызнаецца:

— Я люблю маці мацней ад бацькі. Яна пранікліваяб разумее кожнага. Калі я ў 26-ым годзе йшоў на ўсход, ёй ня было й сарака гадоў. Пакінуў маладую маці. Вярнуўся й не пазнаў. Зрабілася сівая, старая... З бацькам ёй ня лёгка. Ён — добры гаспадар, але любіць усім і ўсімі камандаваць. Пэўны, што толькі ён адзін усё ведае й разумее. Паспрабуй яму запярэчыць, разбушуецца...

У Ганны шмат уражаньняў. Гэтыя дні ў хаце Зяневічаў поўна людзей: сваякі, суседзі. У сьвятліцы накурана. Кожны хоча з Ганнай пазнаёміцца, пагаварыць. Некаторыя называюць сябе крэўнымі, памятаюць яе дзіцем. Ад размоваў, успамінаў, ад тытунёвага дыму у Ганны кружыцца галава. Больш ад усяго ёй хочацца застацца з Конрадам самой, адпачыць. Ня менш ад гасьцей яе стамляюць і заўсёдныя павучаньні й разважаньні старога:

— Напакутаваліся? Бо абое добра награшылі. Жылі ў бязбожным краі, на Бога забыліся. Дзіця ня хрышчонае. Трэба ахрысьціць Лявона.

Згадзіліся. Зрабіў дзед хрысьціны. Прывёз зь Міра свайго стрыечнага брата-ксяндза, запрасіў гасьцей. Тады ізноў:

— Вам трэба ўзяць шлюб у касьцеле. Нягодна жыць бяз Божага багаслаўленьня. Із шлюбам справа крыху скамплікаваная. Адзін канец Туравічаў належыць каталіцкай засьцянковай шляхце. Адтуль паходзяць і Зяневічы. Ганьнины бацькі зь сяла. Яны праваслаўныя. Яна ахрышчаная ў царкве. Стары хоча, каб яна перайшла ў каталіцкую веру. Але Сымон абураецца. Пагражае, што, калі Ганна зрадзіць праваслаўнай веры, ён не пакіне ёй сваёй спадчыны.

Ганна выслухоўвае і аднаго і другога. Не пярэчыць, толькі чуецца ад іх абодвых зморанай. Яна ня ўмее, ня можа ўспрыняць іхныя патрабаваньні за неабходныя, сур'ёзныя. Яны выдаюцца ёй нязвычнымі, нат сьмешнымі. Яна ніколі не ўяўляла сабе апыніцца ў такіх акалічнасьцях. Новы сьвет для яе. Дзіўна ёй, што і ейны сьвёкар і стрыечны брат забыліся ці не разумеюць, што паміж дзьвюма варожымі сіламі шалее бязьлітасная вайна, што хваλі гэтай вайны ,мажліва, ізноў дакоцяцца сюды й захляснуць, затопяць сабою ўсё — і спадчыну, і людзей, а ў тым і іх саміх.

Да ўсяго гэтага Ганну хвалюе здароўе Конрада. Ён сьпіць вельмі неспакойна: у сьне трызьніць, кідаецца з боку на бок, стогне. Гэта будзіць Ганну. Яна часта гадзінамі ляжыць, ня можа заснуць. Змучаная бяссоньнем, Ганна ня раз паціху, каб не прачнуўся Конрад, пераходзіць на тапчан да Лявончыка.

Ды й гэта не заўсёды дапамагае. Палохае цёмны таямнічы лес за вакном, халадзіць душу завываньне ваўкоў, якое штоночы даносіцца з глыбі пушчы.

Аднойчы Конрад пачаў моцна стагнаць. Ганна прачнулася, у імгненьне апынілася каля яго:

— Што з табою?

Ён нічога не адказваў, адно цяжка дыхаў.

— Ты стагнаў. Што з табою?

— Палякоў, Палякоў, — здушаным перарывістым голасам пачаў Конрад. — У Нёмане чалавек тапіўся... Я выцягнуў яго з вады, паклаў на беразе... Гляну... ляжыць мярзотнік Палякоў.. Зубы на мяне вышчарыў, кулаком грозіцца... А я... а я пабег ад яго хавацца... Перапалохаўся...

Поўная спачуваньня Ганна легла побач, абняла яго сваімі рукамі, прытулілася, прасіла:

— Супакойся! Я з табою. Благое мінула,

ня трэба думаць пра благое, яно не паўторыцца.

Ён рэзка вызваліўся зь ейнага абдымку, усхапіўся, сеў на ложку, глядзеў у цемень перад сабою, нібы ня бачыў, ня чуў Ганны.

— Мярзотніка перапалохаўся, згубіў свой гонар... Чалавек бяз гонару — нішто... сьмярдзючы клоп, а не чалавек... Броня мае права плюнуць... Пабег ад Палякова... Сорам... Знайду... адплачу.

Паволі голас ягоны апаў да шэпту. Ганна ня можа ўлавіць, што ён гаворыць. Тады зноў лёг на ложак, змоўк, але дыхаў часта, і кожны ягоны аддых гучэў пакутным стогнам. Некаторы час Ганна заставалася каля яго, паправіла падушку пад ягонай галавой, накрыла коўдраю.

Каб заснуць самой, яна вярнулася на тапчан. Але сон доўга ня прыходзіў. Нарэшце, наступіла забыцьцё, ды на вельмі кароткі час. Пачула, што моцна грукнулі дзьверы на двор. Прыўзьнялася, глянула на ложак. Конрада ня было. Чакала, пакуль вернецца. У цішы хаты да ейнага слыху дайшоў скрып ложка із спальні старых, асьцярожныя крокі ў вялікім пакоі. Устрывожаная, яна ўсхапілася, накінула шляфрок, пайшла ў суседні пакой. Ля вакна стаяла маці.

— Конрад на дварэ?

Старая прыклала палец да вуснаў, перасьцерагла шэптам:

— Ціха, не пабудзі бацьку ці малога.

Ганна стала побач маці. Угледзелася ў цемень. На двары грувасьціцца, бялее сьнег. На сьветлым тле сьнежнай гурбы ясна выдзялялася цёмная высокая постаць — Конрад.

— Ён сёньня ўсю ноч трызьніць, — кажа Ганна.

— Чула, мая залаценькая. Аднойчы зь ім ужо так было. Не палохайся: ён апрытомнее. Столькі гора ён, бедачына, нацярпеўся, столькі адпакутаваў... а цяпер прывід ягонага катасьледчага не дае яму супакою...

Яны абедзьве сочаць, як Конрад узбуджана бегае ўзад і ўперад уздоўж сьнежных сумётаў, размахвае рукамі, пагражае камусь кулаком. Раптам ён спыніўся, узьняў галаву й рукі ў неба... Да іхнага слуху данёсься хрыплы ні то крык, ні то выцьцё. У сенцах азваўся, заскуголіў жаласна сабака. Ганна жахнулася:

— Конрад звар'яцеў.

— Ой, не кажы так, ня думай так, мая галубка, ня трэба... І лепей ня стой тут, ідзі ў свой пакой. Ня добра будзе, калі ён цябе ўбачыць тут, больш занепакоіцца. Ён хутка вернецца й заўтра ня будзе памятаць, што зь ім уначы было... Я сама тут за ім неўзаметку пасачу. А ты йдзі, кладзіся, не бяры да сэрца, — просіць старая.

Ганна паслухалася. Легла побач Лявончыка, перадумвала словы маці: "Аднойчы зь ім ужо так было". Было, калі ён тут, у лесе, напаткаў свайго сьледчага Палякова? Трэба абавязкава пакінуць лес, перайсьці у Туравічы, зьмяніць абставіны... Ці здоляе яна дапамагчы яму? Яшчэ нядаўна яна ўсімі сіламі свае душы марыла быць з Конрадам. Спадзявалася, што жыцьцё зь ім, як некалі, прынясе ёй супакой і радасьць . Цяпер яны разам... але ўсё ў ейным жыцьці стала больш складаным, больш палохаючым. Конрад хворы, сумніву няма. Яму патрэбна разуменьне, патрэбна каханьне... Каханьне? Калісьці яна кахала моцнага, пэўнага сябе, вясёлага Конрада. Цяпер ён зламаны чалавек... Каханьне? Ці пасьля сёньняшняй жудаснай начы засталося яно ранейшым да Конрада? Ці толькі жаласьлівасьць, спагада, пачуцьцё абавязку?.. Прыкрыя, нягодныя думкі. Яна гоніць іх ад сябе прэч, а яны вяртаюцца назад... Конрад — хворы. Яна — жонка ягоная, яна павінна ратаваць яго, знайсьці ў сабе сілы, ня скардзіцца, ня плакаць нават перад сабою...

Ноч мінала. Надыходзіла халоднае шэрае раньне. Конрад вярнуўся. У кухні падыйшоў да вядра з вадою, пачаў піць. Ягоную галаву кроіў боль, у горле перасохла. Піў доўга. Вада прынесла яму палёгку. Нягучна ступаючы, прыйшоў у свой пакой. Некаторы час пастаяў каля тапчана з Ганнаю й Лявончыкам. Пайшоў да свайго ложка, распрануўся, лёг.

Ганна чула кожны крок, кожны рух Конрада. Памятаючы параду маці ня трывожыць яго, яна не расплюшчвала вачэй, не варушылася, пакуль не паверыла, што ён заснуў.

Тым раньнем, яшчэ да пачатку заняткаў, Ганна была ў Туравіцкай сямігодцы. Не пакінула дома, узяла з сабою сына. Баялася, каб малы выпадкам не пабудзіў Конрада, даў яму выспацца, ачуняць пасьля цяжкой начы.

Школа старая, двухпавярховая. Стаіць у цэнтры Туравічаў, насупраць царквы. Ганна зь Лявончыкам сядзяць на чорнай скураной канапцы ў невялікім настаўніцкім пакоі. Апрача яе, тут дырэктар школы, выкладчык матэматыкі, трох настаўніцаў малодшых клясаў. Усе яны да Ганны й Лявончыка ўважлівыя, ветлівыя. Ды й па Ганьне не здагадацца, што яна пасьля бяссоннае, турботнае начы. За гады жыцьця ў савецкіх умовах яна навучылася не выяўляць на людзях сваіх перажываньняў. Яна размаўляе з усімі весела й спакойна.



Дырэктар, Мікола Васілеўскі — мілы, старэйшага веку чалавек. З пачуцьцём згадвае бацькоў Ганны — сяброў свае маладосьці. Не прамінуў сказаць, што ведае Конрада ад першае клясы ў гэтай школе, што Конрад быў выключна здольным, таленавітым вучнем.

Прапануе:

— Было-б надзвычай добра, каб ня толькі вы, а й ён прыйшоў да нас выкладаць кізыку ці хэмію.

— Конрад — інжыэр-канструктар, дасьледчык. Ён ніколі не працаваў у школе, ня будзе ведаць, як трымацца з вучнямі.

— Я вучыўся на інжынэра, — кажа выкладчык матэматыкі, з выгляду гадоў дваццаці трох, — а цяпер вучу ў старэйшых клясах і, здаецца, ні дырэктар, ні вучні на мяне не наракаюць.

— Асабліва дзяўчаты, — із жартам кпіць зь яго маладзенькая настаўніца чацьвертае клясы, Ніна Кунцэвіч, — бо пагалоўна ачараваныя нашым абаяльным матэматыкам.

Усе сьмяюцца. Ня крыўдзіцца, сьмяецца, разам з усімі, і матэматык. Аркадзем Гурыным назваўся ён, калі знаёміўся з Ганнаю. Пра Гурына Ганна чула ў хаце Зяневічаў. Ён вучыўся ў Львоўскім Унівэрсытэце, вярнуўся стуль у часе вайны. Ад Ніны ён не адводзіў вачэй, у якіх сьвеціцца захапленьне ёю. Ніна — прыгажуньня, зграбная, густоўна апранутая. Ейныя валасы мяккія й густыя, залацістыя, як сьпелае жыта, заплеценыя ў дзьве даўгія косы, закінутыя на сьпіну. Вялікія сінія вочы йскрацца маладым какецтвам і вясёласьцю. Відаць, што Аркадзь падабаецца ёй таксама.

Ніна паходзіць із сяла Брады ў Налібоцкай пушчы. Яна расказвае, што пад Брадамі ў лесе хаваецца група партызанаў з вайскоўцаў і цывільных. За кіраўніка ў іх — энкавэдысты Пецька Сталяроў.

— Я зь ім нат пазнаёмілася, — сьмяецца Ніна.

— Як-жа гэта здарылася? — цікавіцца Ганна. Брады ў тым самым баку, што й хутар Зяневічаў, толькі глыбей у пушчы. Пачуўшы пра групу партызанаў пад камандаю энкавэдыстага, яна думае, што там мо й Палякоў. А мо Сталяроў і ёсьць Палякоў, адно пад іншым прозьвішчам?

Ніна ахвотна расказвае:

— Увосені пайшла я зь дзьвюма малодшымі сёстрамі па брусьніцы. У нас, пад Брадамі, брусьніцаў безьліч. Набралі мы іх поўныя кошыкі. Пачалі перагуквацца, каб ісьці дадому. А тут хтось кажа мне: "Стой!" Зірнула я ўбок, а пад высокай хвояй, на шэрым, абімшэлым валуне, сядзіць савецкі жаўнер. На каленах у яго стрэльба. Перапалохалася я, раблю выгляд, быццам ня чую. Тут і мае сёстры з-за дрэваў паказаліся. Я — да іх. А жаўнер ізноў: "Стой!" Мы ўсе ад яго бегам, а ён крычыць: "Стойце, бабы, а то страляць буду". Сталі мы, бабы, ён загадаў: "Падыйдзеце бліжэй". Падыйшлі. "Зь якога вы сяла?" — "З Брадоў, — адказала я, бо сёстры мае ад сполаху анямелі. — "Дзе гэта?" — "Тут недалёка". — "Немцы на сяле стаяць?" — "Не". — "А прыяжджаюць?" — "Зрэдку". — "Сёньня былі?" — "Адкуль нам ведаць. Мы на сьвітаньні па брусьніцы пайшлі. Тады іх ня было". — "Ідзеце", — дазволіў ён нам. І ўсьлед рагатаў: "Варта вас, баб, затрымаць ды ў халодную пасадзіць".

Аркадзь слухае Ніну, а ў вачох ягоных іскрынкі паблісківаюць. Мабыць, ён рыхтуецца адплаціць Ніне за ейны жарт. Ён кажа:

— Зьвярнеце ўвагу: Ніна для Пецькі вялікую паслугу зрабіла. Пераканала яго, што немцы у брады амаль не паказваюцца. Цяпер ён з брадоў ня вылазіць, і ў падзяку за Нінай заляцацца пачаў. А яна сюды пад нашу апеку зьбегла.

— Заўсёды нямаведама што прыдумаеш, — нязлосна пярэчыць яму Ніна.

Усе настаўнікі робяць на Ганну прыемнае ўражаньне. Вельмі хутка яна адчула сябе зь імі, нібы дома, сярод сваіх.

Празьвінеў званок на калідоры. Настаўнікі пайшлі ў клясы. Дырэктару таксама трэба йсьці. Выкладчыкаў для старэйшых клясаў не хапае. Ён хоча, каб Ганна, як мага хутчэй, распачала сваю працу. Просіць:

Пабудзьце яшчэ трохі ў школе. Я пашукаю патрэбныя вам праграмы й кніжкі зь нямецкае мовы.

— Я заўтра прыду, абяцае Ганна, — а сёньня сьпяшаюся: мне абавязкава трэба наведацца хаты маіх бацькоў.

Бацькоўская хата — блізка ад школы.

Нявымоўныя пачуцьці авалодалі Ганнай, калі яна ўвайшла ў знаёмы двор. У куце двара высіцца разрослая ігруша-дзічка. На адзін бок ад яе — хлявы, паветка, клець, на другі — плот зь весьніцамі ў садок. Апошні раз яна была тут, калі мела пяць год. Цяпер ёй трыццаць адзін. Праз усе гады ў бацькоўскай сям'і ўспаміналі, марылі ўсім разам вярнуцца сюды. Маці й Арына наказалі ёй: "Чакай нас у Туравічах". Яна будзе чакаць на іх тут. Яна здолела вярнуцца, здолела прывесьці ў роднае гняздо сваё дзіця. Хіба-ж гэта не перамога? Радасныя думкі засланілі на момант усё балючае, усё, што непакоіла. Сказала да малога:

— Гэта наша хата. Бачыш, якая яна вялікая? Аж тры вакны выходзяць на двор.

— І Уладзік можа ехаць сюды жыць? — не забывае свайго браценьніка Лявончык.

— Не адзін Уладзік, а ўся сям'я цёткі Арыны й баба. Тут нам усім месца хопіць, — цешыцца Ганна.

У вакне хаты мільгануў твар жанчыны. Ганна ўсьміхнулася й да яе. Узьнялася на невялікі зь дзьвюма лаўкамі па бакох ганак, перайшла цёмныя сьцены, увайшла ў кухню. У нос ударыла цёплае паветра з пахам гарэлкі й тытунёвага дыму. Праз адчыненыя дзьверы з кухні ў пакой відаць стол, накрыты белым абрусам. На стале — бутэлька, шклянкі, талерка з каўбасой, квашаныя агуркі ў місцы, пачаты бохан чорнага хлеба, каля яго вялікі нож. Кабета, якую Ганна ўгледзела з двара, кінулася да вакна й сіала перад сталом, быццам хацела засланіць яго сабою. Моцная, прыземістая, шырокая ў клубах маладзіца. Цёмныя вочы на круглым твары варожа прыжмураныя, галава задзірыста адкінутая назад. Здаецца, вось-вось кінецца ў бойку.

"Выглядае, што ў яе хтось у гасьцёх. Схаваўся? Мо адзін з тых, што цяпер ад людзей у лесе таіцца мусіць?" — насьцеражылася Ганна. Сказала да кабеты:

— Добры дзень!

— Чаго вы тут?

Спатканьне ня зь ветлівых. Гэта адразу спагнала ўсьмешку з вуснаў Ганны. Бразнулі дзьверы ад двара. Захутаная ў цёплую шэрую хустку паверх зімовага паліта, з раштырванелым ад марозу тварам, у пакой убегла малая дзяўчынка. Дачка. Стала каля маці, хапілася за спадніцу й пераводзіла зьдзіўленыя вочы зь Лявончыка на Ганну.

— Вы — Аўдоля Крот?

— Аўдоля.

— Я прыйшла прасіць вас звольніць маю хату.

— Гэта ня ваша хата.

— А чыя-ж?

— Дарма, што яна некалі належала вашаму бацьку. Цяпер — гэта мая хата, — павысіла голас Аўдоля. — Сымон Броўка за арэнду добрыя зь людзей грошы год-у-год драў. Спаганяйце зь яго.

Падобна бальшыні ветлівых людзей, Ганна ня мае броні супраць дзёрзкасьці іншых. Грубіянства заўсёды ўражае яе й раніць. Яна ня здольная абарваць, спыніць Аўдолю рэзка. Прабуе пераканаць яе:

— У вас ёсьць самотны бацька. Кажуць, ягоная хата пустуе. Ёсьць крэўныя вашага мужа...

— Я ня зьбіраюся ні да каго йсьці, ня зьбіраюся пакідаць свае хаты. Няма чаго павучаць мяне: я сама ведаю, дзе мне жыць, што рабіць... — нібы з кулямёту сыпала словамі Аўдоля.

— Мне патрэбна, разумееце, патрэбна перайсьці жыць у сваю хату. І я патрабую, каб вы звольнілі маю хату й зрабілі гэта як мага хутчэй, — настойвала на сваім Ганна.

— Я па-тра-бую, па-тра-бую, — перадражніла й аж зайшлася ў сьмеху Аўдоля.

Уся сцэна з Аўдоляй становіцца няпрыемнай. Ганна зь непакоем глянула на Лявончыка. На шчасьце, ён ня слухае. Дзяўчынка сядзіць на падлозе. Яна выцягнула зьнекуль трусяня, трымае яго за вушы. Лявончык побач яе на кукішках у захапленьні глядзіць белую галоўку трусяняці.

Раптам пачуліся павольныя цяжкія крокі. На момант Ганна замерла ў сполаху. Спрачаючыся з Аўдоляй, яна забылася, што ў хаце яшчэ хтось можа быць. Глянула туды, адкуль данесьліся крокі. У дзьвярах бакоўкі стаяў мужчына, дужы асілак у грудзёх і руках. На ім з рудога саматканага сукна парткі, запраўленыя ў чорныя з даўгімі халявамі боты, зрэбная кашуля. Сказаў спакойна:

— Аўдоля, сьціхні, ня бушуй. Нягодна так паводзіцца. Ты ня маеш рацыі.

Ён падыйшоў да Ганны, схіліў галаву.

"Апрануты пасялянску, а захоўваецца як адукаваны чалавек", — мільганула думка ў Ганны. Твар ягоны, цёмныя густыя валасы, гладка зачасаныя назад, сьветлыя вочы здаюцца ёй знаёмымі. Ганна пэўная, што дзесь бачыла ці спатыкала яго.

— Трахім Кухта, — назваў сябе мужчына. — Аднойчы — сябра вашага мужа.

У Ганны адлягло на сэрцы. Успомніла, ажывілася:

— Ведаю, ведаю. Вы з Конрадам у вадзін год Віленскую гімназію канчалі. На выпускным здымку побач яго стаіце. Мне муж пра вас шмат расказваў.

— Благое ці добрае?

— Толькі добрае.

— Хочаце вы з Конрадам у гэтую хату перайсьці жыць? — зацікавіўся ён.

— Нам трэба. Я дамовілася працаваць у сямігодцы. Мне адсюль бліжэй і выгадней. У завею ці паводку з хутара ў Туравічы дарогі няма.

— Ваша праўда. У гэтай справе я палкам на вашым баку. Маеце трохі часу пабыць з намі? Разважым, памяркуем усе разам, і, я пэўны, Аўдоля згодзіцца, перастане пярэчыць.

Ганна ня ведае, як лепей зрабіць. Застацца? У Аўдолі ўсё яшчэ насуплены твар, але й яна



запрашае:

— Сядайце, калі ласка, да стала.

—У цябе ў печцы ёсьць што-небудзь гарачае? — запытаўся ў Аўдолі Кухта.

— Капуста й да яе дранка.

— Нясі сюды.

А да Ганны:

— Сёньня я з далёкае дарогі. Паверце, ішоў і абдумваў, як пабачыцца з Конрадам. А тут неспадзявана вы аб'явіліся. Рэдкая ўдача.

Дзеля таго, што Ганна ўсё яшчэ стаіць, ён паўтарае запросіны:

— Не вагайцеся, сядайце да стала.

Да Аўдолі ён гукнуў у кухню:

— Вазьмі ў сенцах дзьверы на крук, каб хто непатрэбны ня ўсунуўся.

Ганна села за стол ля вакна. Глянула ў двор. Адтуль даносяцца галасы й сьмех дзяцей. Каля ігрушы насыпаная сьнежная горка. Лявончык зь дзяўчынкай цягаюць на горку саначкі, разам садзяцца на іх і зьяжджаюць уніз. У вабоіх твары зіхацяць ад радасьці. Кухта заўважыў позірк Ганны на дзяцей, усьміхнуўся, зь цяплынёй у голасе зазначыў:

— Хутка спазналіся малыя. Каб гэтак людзі ў нашым веку ўмелі рабіць, лягчэй-бы жыць было.

Ганна маўчыць. Ці то ад бяссоннае начы, ці ад задухі ў хаце яе ахапіла зморанасьць. Гэта, мажліва, адбілася на ейным твары, бо Кухта спагадліва кажа да яе:

— Вы ня турбуйцеся. За пару дзён хата для вас будзе звольненая. Я дагляджу.

— Вы пэўныя?

— Маю падставу быць пэўным.

Конрад прачнуўся ўспацелым і, разам з тым, яго прабірала холадам. Тупы боль ламаў галаву. "Захварэў? А мо проста, як нярэдка апошнім часам, нядужыцца? Я павінен узяць сябе ў рукі, павінен чуцца здаровым", — загадвае сабе Конрад. Усё жыцьцё ён ня любіў хваравітасьці ні ў сабе, ні ў іншых. — "Я ня хворы. Гэта толькі недамаганьне, яно пройдзе... я ня хворы".

У хаце нязвыклая цішыня. Дзе ўсе падзеліся? У вялікім пакоі пачаў адбіваць удары насьценны гадзіньнік. Конрад налічыў дванаццаць. Зьдзівіўся: ня мог даць веры, што так позна спаў. Апрануўся, пайшоў на кухню.

У кухні паліцца печка. Яркае полымя пыхае прыемным цяплом на хату. Каля печкі, як і звычайна, завіхаецца, рыхтуе абед маці.

— Як ты чуеш сябе, сынку? — пытаецца яна.

— Галава трохі трашчыць, — прызнаецца Конрад .

Пакуль ён мыецца, маці стараецца чым можа дапамагчы яму: прыносіць цёплую ваду, падае мыла, рушнік. Ласкавая клапатлівасьць маці заўсёды кранае Конрада. Сёньня яму здалося, што ейны твар стомлены, зжоўклы, вакол вуснаў паглыбіліся маршчыны.

— Штось мама сёньня блага выглядае? — спачувае ён.

— Дарма, сынку, не зьвяртай увагі. Дзякаваць Богу, я здаровая.

— А дзе ўсе? Дзе Ганна?

— Бацька паехаў на млын. Па дарозе павёз Ганну зь Лявончыкам у школу. Адтуль Ганна меркавала пайсьці паглядзець свае хаты.

— Як даўно яны паехалі?

— З самага раньня.

— Дагэтуль не вярнуліся, — занепакоіўся Конрад. — Ганьне ня варта было йсьці да Аўдолі самой. Чаму мяне не пабудзілі?

— Моцна спаў, пашкадавалі турбаваць. Даць табе чаго гарачага зьесьці?

— Дзякую, ня трэба.

— Дык выпі хоць малака.

— Добра.

Маці дала яму кубак малака. Стоячы, ён глытнуў колькі глыткоў, паставіў кубак на стол.

— Пазьней разам з усімі буду есьці, цяпер ня хочацца. Пайду насустрач Ганьне.

Ціха й спакойна стаіць ахутаны белым покрывам лес. Мерна рыпіць пад нагамі сьнег. Ад халоднага чыстага паветра зціхае боль у галаве. Адразу Конрад пачынае шпарчэй і вясялей крочыць па дарозе.

І Ганна йдзе прыемна ўзрушанай. Спатканьне з Кухтам было кароткім, але пакінула па сабе добрае ўражаньне. Ён здаўся ёй чалавекам шчырым, удумлівым, інтэлігэнтным. Раней ад яе на дарозе заўважыў бацьку Лявончык, кінуўся да яго бегам. Конрад падхапіў малога на рукі, узьняў у гару, расцалаваў. Падыйшла Ганна. Ён і яе падхапіў, узьняў вышэй да сябе, пацалаваў у вусны. Сэрца Ганны забілася ў радасьці. Конрадаў твар, паружавелы на марозе, выглядае сьвежым і здаровым, вочы глядзяць адкрыта й весела. Яна не спадзявалася сёньня бачыць яго такім.

Аднэй рукою Конрад пяшчотна прытуліў яе да сябе бліжэй, у другой трымаў руку малога, стараўся, каб усім ім тром хапала месца йсьці побач па прабітай у глыбокім сьнезе дарозе. Сказаў да Ганны:

— Маці чакае на вас з полуднем.

— Мы палуднавалі.

— Дзе?

— У Аўдолі.

— Не магу паверыць такому цуду, — зарагатаў Конрад.

*(Далей на баг. 28-ай)*

**Аўген Калубовіч**

# На крыжовай дарозе

*(Пачатак і працяг у №№20-24)*

### ЭТАП

Кожны дзень у нашу камэру ўпіхаюць усё новых і новых вязьняў. Зь іншых камэраў і іншых турмаў. Калі ўжо напхана было стальскі, што й павярнуцца ня было як — гэта была прыкмета хуткага этапу.

Доўга чакаць на яго не давялося. 26-га кастрычніка раніцою праз адчыненыя дзьверы нам прачыталі сьпіс, хто з нашае камэры павінен падрыхтавацца на этап. А неўзабаве із усіх перасыльных камэраў, з "рэчамі", нас выклікаюць на калідор, скуль пасьля розных строяў, "пераклічак" і лічэньняў выводзяць на турэмны двор, групамі вядуць у лазьню й на "пражарку" вопраткі ў "вашабойцы". Па звароце на турэмны двор нас прымае канвой.

Пачынаюцца новыя "пераклічкі", строі, пералічэньні, бясконцае пераганяньне зь месца на месца, з "рэчамі", бяз "рэчаў" — цэлы дзень. І пры тым скрозь адна й тая-ж каманда:

— Становись!.. Разберись!.. Подтянись!..

Наўперад канвой бярэцца за рэвізію "рэчаў". Якія там "рэчы" ў вязьня! Але і зь іх у нас адбіраюць (калі ў каго знойдуць): усё мэталёвае й шкляное (апрача "кружки") — нажы, брытвы, іголкі, шклянкі... і нат лыжкі (гэта ўсё — "холодное оружие", каторае можа быць ужыта пры спробе ўцёкаў, а "ложку в лагере вам дадут!"); усе пісьмовыя прылады й прыналежнасьці — алавікі, паперу, канвэрты, паштовыя значкі й г.д. (каб у дарозе "никто не смел писать никаких писем"); кніжкі, часапісы, газэты ("зачем их везти в лагерь? в лагере для интересующихся почитать есть ленинские уголки"). Сухары разламваюцца. Мяккія прадукты — хлеб, сала, масла, сыр і інш. — кожны кавалак праколваецца шылам (ці не схавана тут штось із недазволенага?.. а ну-ж кулямёт!).

Пасьля рэвізіі "рэчаў" — асабісты вобыск. Правяраюцца кішэні. Абмацваецца зьверху данізу ўся вопратка. Зноў-жа.

— Снимите обувь! Откройте рот! Подымите язык!..

Знойдзеныя пры гэтым грошы канфіскуюцца (у лягеры вязьню трымаць іх "не положено", а канфіскаваныя — у лягеры быццам-бы будуць упісаныя на нашыя рахункі).

Наступна, пры стале, на якім горы канвэртаў з пэрсанальнымі дадзенымі (асобны канвэрт на кожнага вязьня), у нас пытаюць:

— Фамилия?

— Имя и отчество?

— Год рождения?

— Статья?

— Срок заключения?

Ува ўсёй гэтай мітусьні й штурханіне наш гурток з 12-ае камэры — мае сябры-альтруістыя (Я. Кузьмнка, А. Сталовіч, А. Лантас, В. Турчын) і інж. І. Штаненка, якім з часам пашчасьціла "перабрацца" да нас, М. Доўнар, А. Насеньнік і я — кожны раз разьбіваецца. Але ў кожны наступны строй нам удаецца ізноў сабрацца разам, стаць побач. Гэта вельмі важна, каб мець шанс трапіць у вадзін вагон і купэ. Толькі бедны айцец Паўскі, ня выкліканы на наш этап, надалей застаўся ў турме.

К вечару прыймо этапу было закончана. Цэлая агромністая партыя была падзелена на часткі, каб часткамі гнаць на "пагрузку" ў вагоны. Усіх разам для канвою нас было-б зашмат.

Ужо добра сьцямнела, калі мы, гатовыя, стаялі перад выхадам з турэмнага двара. Начальнік канвою чытае нам сваю "малітву":

— ... Шаг влево, шаг вправо... без предупреждения будет применено оружие...

Адчыняецца цяжкая жалезная брама, і наша стракатая, абшарпаная калёна, з "рэчамі" ў руках ці абвешаная імі сьпераду й ззаду праз плячо, акружаная з усіх бакоў канвоем і сабакамі, вываліваецца на вуліцу сталіцы. Там да турмы ціснуўся натоўп праважаючых, каму якойсь дарогаю стала ведама пра этап. Пешая й конная міліцыя адсоўвае іх далей ад турэмнай брамы. У натоўпе (як я даведаўся пазьней) ад самае раніцы стаяў і мой бацька. Аднак ні ён мяне, ні я яго ня бачылі.

На чыгуначнай станцыі нас падвялі да эшалёну "сталыпінскіх" вагонаў, які стаяў на "запасных лініях".

"Сталыпінскі" вагон — гэта маленькая турма на колах. У ім, як і ў звычайным пасажырскім вагоне — калідор і купэ, якія тут завуцца "клеткамі". Ад калідору "клеткі" аддзеленыя не дашчанай сьцяною, а, як у зьвярынцы, суцэльнымі, праз увесь вагон, кратамі



з грубага дроту. У кожную "клетку" — краты-дзьверы, з "клеткі" навонкі — невялічкае закратаванае ваkенца. У дзьвярах ёсьць другія, маленькія, дзьверцы, праз якія ў "клетку" падаецца ежа й вада. На дзьвярах і дзьверцах — замкі. Лаўкі 2-га паверху "клеткі" шчыльна сходзяцца, і, каб лезьці на іх і на "багажныя" лаўкі 3-га паверху, пры дзьвярах у іх выразана дзірка. Вагон мае 8 "клетак" для вязьняў і адно адкрытае купэ для канвіраў.

"Сталыпінскімі" яны завуцца таму, што ўпяршыню для транспартацыі вязьняў былі ўжытыя пры царскім прэм'ер-міністру Сталыпіне. Савецкаму ўраду яны дасталіся ў спадчыну. Розьніца тут паміж "издевательским" царскім часам і "заботливым" савецкім адна: Сталыпін садзіў у "клетку" па 6 вязьняў, а Сталін — па 16 і болей.

Такіх "сталыпінаў" для нас стаяла 12. 2 зь іх былі для жанчынаў. Ззаду дадаткова чырванелі 3 таварныя вагоны: санітарны, прадуктовы й карцэр. Значыць, калі памножыць 16 асобаў на 8 "клетак", а тады на 12 вагонаў — усіх нас у эшалёне будзе болей за 1.500 вязьняў.

Нам было загадана заходзіць у вагон і па 16 асобаў у "клетку". 10 асобаў — на 1-шы паверх (па 5-ёх на кожную лаўку), 4 — на 2-гі й 2 — на 3-ці. "Рэчы" браць з сабою або класьці пад лаўкі й на праход 1-га паверху.

Калі мы ўлезьлі ў сваю "клетку", было так цесна, што мы доўга не маглі ў ёй разьмясьціцца. Апрача таго, мусілі пакутаваць ад стамляючай цела аднастайнасьці пазыцыі. На 1-ым паверсе можна толькі сядзець (легчы няма месца, а стаць не дазваляюць нізкія лаўкі 2-га паверху). На 2-ім і 3-ім паверхах можна толькі ляжаць. Сярэднія двох на 2-ім паверсе могуць і сесьці, але ці яны сядуць, ці лягуць, ногі іхныя праз дзірку будуць боўтацца перад чыімсь носам на 1-ым паверсе. Нідзе няма месца стаць, выпрастаўшыся.

Пасьля турмы і стомы дня ўсім хацелася хутчэй адпачыць і адаспацца, аднак гэта было немажлівым: на 16 месцаў у "клетцы" — "ляжачых" усяго 6. Таму спаць лазілі наверх па чарзе.

Праверыўшы, каб у кожнай "клетцы" было ня меней 16 вязьняў, нам выдалі на двое сутак "довольствие" — па селядцу й кілаграму хлеба.

Ужо, відаць, па 12-ай начы. Сьлепа сьвеціць скупое сьвятло. На нашым баку кратаў і замкоў паволі сьціхае людзкая гамана. На другім — канваіры ўсё яшчэ чымсьці занятыя каля свайго купэ. Адзін зь іх, дзяжурны, пахаджае па калідору, час-ад-часу робіць тыя ці іншыя ўвагі ў "клетку". Самастойна ад яго пятляе "учёный пёс", тыцкае мордаю па кратах, важна спаглядаючы на даверанаю яму "скацінку". Нарэшце, удрыгануўся цягнік, цяжка наладаваны. Зарыпелі колы, тармазы. Здаецца, паехалі...

Я сяджу на лаўцы 1-га паверху. На думку мне прыходзяць В. Лантас і Л. Балой. Мы толькі выяжджаем, а яны ўжо дзесь на месцы ссылкі, у Валагдзе й Архангельску. Яшчэ ў Гомельскай турме, за дзень перад нашым этапам на Менск, ад Балоя я атрымаў ліст із штэмпелем Бутырскай турмы ў Маскве. Апошні сказ ягонага ліста мяне ўразіў: "Мужайцеся!" Дзіўна, здалося мне. Як гэта турэмная цэнзура прапусьціла такі сказ?.. Вочы мае зьліпаюцца, і я памаленьку драмлю.

Наш эшалён пасоўваецца марудна. Ідзе вылучна ўначы, а на дзень яго заганяюць дзесь на 10-ыя калеі якойсь станцыі, усунуўшы паміж таварных саставаў. Рэгулярна праз колькі гадзінаў дзяжурны канваір абходзіць вагон і пералічае агульную колькасьць вязьняў у кожнай "клетцы". На астаноўках цягніка звонку вагона да нас даносіцца тупат і шорганьне ног, крыкі, стук малаткоў. Мы ведаем: гэта канваіры вонкавай аховы абходзяць эшалён і драўлянымі малаткамі абстукваюць сьцены, лазяць пад вагоны й на дах, шукаюць, ці няма дзе дзіркі, зробленай вязьнямі для ўцёкаў.

Сьвітала, калі мы прыехалі на таварную станцыю Ворша. Тут, відаць, будзем днявацъ. Наш эшалён паволі сунецца паўз даўгі саставу таварных вагонаў, каля якіх бегаюць канваіры й міліцыя. А ўздоўж саставу, на зямлі, сядзіць з вузламі вялізная чарада жанчынаў, бабулек, старых мужчынаў і дзяцей, ахутаных коўдрамі, мяшкамі й чым хто мог. Гэта рыхтуецца "пагрузка" "кулакоў" на ссылку. Пазьней — у Маскве, у якімсь сьляпым куце ня ведаем якога вакзалу, побач нас стаяў такі-ж, як і наш, ашалён, казалі, з Харкава; а ў Вятцы — эшалён "кулакоў" з Мазыра.

Мы пачынаем "запаўняць анкеты". Так на жартоўнай мове палітычных вязьняў звалася знаёмства з новымі сябрамі. Часу на гэта ў нас было досыць, а пра сыстэму "сэксоцтва" (так разьвітую ГПУ й НКВД пазьней) у тым часе яшчэ нічога ня было чуваць.

З 8-мю із 16-ці ў нашай "клетцы" чытач ужо знаёмы. Гэта наш гурток з 12-ае камэры. Нам удалося ўсім трапіць у вадну "клетку".

З 8-мю іншымі сябрамі мы спаткаліся тут упяршыню. Гэта былі:

Малады, гадоў 30-ці, настаўнік із Случчыны Мяцельскі.

Разам зь ім, па аднэй і тэй-жа палітычнай справе, была група моладзі. У нашай "клетцы" з гэтае групы было двох юнакоў па 16 год, Шмаль і Заблоцкі.

"Польскі шпіён" — таксама случчак, студэнт Менскага Белпэдтэхнікуму Жукоўскі. Гэта ён расказаў нам гісторыю пра вайсковую арганізацыю П. Люцко.

Спакойны й стрыманы камандзер роты Чырвонай арміі, бабруйчанін Царык.

Старэйшы дзядзька, селянін із Койданаўскага раёну. Прозьвішча ягонага ў маіх нататках я не знайшоў. Аднак добра памятаю, за што ён арыштаваны: чытаў у царкве Апостала.

Янка Петрыкаў із Брагінскага раёну. Цяпер яму 17 год. Летась, раньняй восеньню 1929 г., сям'ю ягонага бацькі "раскулачылі". Самога бацьку забралі ў турму, і яны ня ведаюць — расстралялі яго ці вывезьлі куды ў канцэнтрацыйны лягер. Рэшту сям'і — маці, малодшую сястру, яго, дзеда й бабу — выслалі ў Котлас. Там іхны эшалён выладавалі й пагналі ў перасыльны лягер, раскінуты за местам, недалёка ад р. Паўночная Дзьвіна. Гэта кавалак поля, абгароджаны калючым дротам. Падлога ў ім — голая зямля, дах — адкрытае неба. Будынак — толькі для адміністрацыі. Тут было да 20.000 і болей "кулакоў". Амаль штодня адных сюды прыганялі, другіх — выганялі на далейшы этап, трэціх, памерлых, выносілі за дрот у ямы.

Праз колькі дзён партыю, у якую трапіла сям'я Петрыкава, заладавалі ў трум баржы й Паўночнай Дзьвіной павезьлі далей на поўнач. У перапоўненым труме, бяз уборных і параш, мужчыны, жанчыны, старыя, бацькі й дзеці — усе разам. А над імі, на доку, вартавыя з карабінамі. Ніякае абслугі, ніякіх харчовых пайкоў.

Так ехалі да раённага цэнтру Верхняя Тойма. Адтуль пехатою іх пагналі на ўсход, у тайгу. Частку рэчаў везьлі ззаду на конях, другую — яны самі несьлі на сабе. Ні дарог, ні населеных пунктаў. Адно — лес і балоты. Калі пераправіліся на другі бок ракі Пінегі, ім абвесьцілі, што яны болей не грамадзяне, а "спецпереселенцы" і павінны будаваць тут для сябе "спецпоселок". Для рэгістрацыі й уліку іх была створана камэндатура з камэндантам і міліцыянэрамі.

Так у глухой тайзе (да бліжэйшага населенага пункту трэба йсьці колькі дзён) яны змушаныя былі пачынаць новае жыцьцё. Бяз жыльлёвых будынкаў, бяз інструмэнтаў працы, бяз хлеба й іншых прадуктаў харчаваньня, бяз... амаль бяз нічога, як у каменным веку. У дадатак: без дакумантаў, без усякіх правоў, а ў тым і бяз права руху. Нікуды адсюль ня мелі права ні йсьці, ні ехаць. Жыць толькі тут, сярод зьвяроў і камароў, або выміраць.

Удзень працаздольныя павінны былі йсьці на працу — пілаваць лес, траляваць яго да р. Пінегі, вязаць плыты — а вечарамі амаль голымі рукамі, бяз рыдлёўкі й сакеры, будаваць сабе зямлянкі. Харчаваліся галоўна ягадамі й рыбаю.

Хутка надыйшла суровая зіма. Да голаду далучыўся люты холад. Пачаліся павальныя хваробы й мор. А яны... без лекароў, бяз лекаў, бяз шпіталю. Да вясны бальшыня з іх вымерла, дзеці блізу пагалоўна. Зь ягонае сям'і — маці й сястра.

Тады дзед ягоны сказаў яму: "Мы тут усе загінем ад голаду, холаду й хваробаў. Але мы хоць троху пажылі. А ты?.. Спрабуй, унучак, свайго шчасьця. А ну-ж удасца табе вырвацца із гэтага пекла. Кіруйся да цёткі. Яна прыме цябе.

І Янка ўцёк. Ішоў і ехаў, хаваючыся, галодны — як дзе мог. Яму пашчасьціла: ён дацягнуўся да свае цёткі ў суседняе ад іхнага сяло, куды яна выйшла замуж. Колькі тыдняў пажыў там спакойна. Тады пачаліся гутаркі: "кулацкі сынок" уцёк із ссылкі. Цётцы парадзілі, каб пляменьнік публічна адрокся ад свайго бацькі-"кулака".

— Я плакаў, не хацеў гэтага рабіць, — казаў нам Янка, — але зрабіў. Мяне пакінулі ў спакою. Ды не надоўга. Хтось напісаў у газэту, што маё адрачэньне ад бацькі — гэта "манэўр клясавага ворага". І мяне арыштавалі зноў.

Апошні незнаёмец у нашай "клетцы" — перабежчык із Заходняй Беларусі, Вярбіцкі. Малады хлапец, але дужа худы — адна скура й косьці. Ня меў бядак ні ад каго перадачаў, жыў на адным турэмным пайку.

Дома, будучы парабкам у якімсь двары каля Радашковічаў, наслухаўся радыё зь Менску, паверыў, што "там будуецца Беларускі Дом", і людзі жывуць шчасьліва. І вось у 1928 г. ён нелегальна перайшоў у Савецкую Беларусь. На мяжы савецкія пагранічнікі яго затрымалі й перавезьлі ў Менскае ГПУ. Там, праверыўшы, праз нейкі час яго звольнілі й накіравалі на працу ў саўгас. У саўгасе яму не спадабалася, і ён пачаў прасіць дазволу вярнуцца назад, у Заходнюю Беларусь. Такога дазволу яму ніхто ня даў. Таму ён вырашыў уцякаць без дазволу. На мяжы яго затрымалі ізноў, пасадзілі ў Менскую "Амэрыканку". І ўжо цяпер як "польскі шпіён" едзе з намі ў канцэнтрацыйны лягер.

Усю дарогу ён не даваў нам супакою сваім бедаваньнем:

— Божачка мой! Які я дурань!.. Які ідыёт!.. Паверыў радыю. Бацькі адгаворвалі, а я пайшоў. Яны цяпер думаюць, што я мо й праўда шчасьлівы. А я, балда, гіну тут...

Найбольшыя пакуты на этапе — нястача вады й недаступнасьць уборнай.

Вады даецца толькі 3 "кружкі" на суткі, а зьедзены селядзец жадае плаваць. Дзеля таго ў вагоне амаль не спыняюцца мольбы:

— Канваір, вады!

— Вады!.. Вады!.. — нясецца із усіх "клетак".

І цьвёрды адказ канваіра:

— Ты получил свое. Больше не получишь.

Яшчэ горшая пакута з уборнаю. "На оправку" водзяць усяго 2 разы: па чарзе — "клетка" за "клеткаю", паадному. Прычым, дзьверы ў уборную адчыненыя (каб вязень ня мог выскачыць праз вакно), а перад дзьвярыма стаіць канваір і кожнага падганяе:

— Быстро! Быстро!.. Росселся как! Другие ведь ждут.

Паза чаргою ня пускаюць нікога, нават хворага на расстройства органаў страваваньня. Прасі, не прасі — хоць ты лопні. І ў вагоне 24 гадзіны стогны й літаньні:

— Канваір, пусьці "на апраўку"!

— "На апраўку"...

— Жывот...

І спакойны голас канваіра:

— Пойдешь в свое время.

— Канваір, даражэнькі, пусьці-ж...

— Жди своей очереди. Не сдохнешь!

— Не магу трымацца болей...

— Катай в сапог!

І так усю дарогу.

У які лягер нас вязуць, нам не абвесьцілі, а канвой трымае гэта ў сакрэце. Пэўным ёсьць адно, што вязуць, згодна прысуду, у якісь лягер "особого назначения ГПУ". Што гэта за лягер, ніхто із нас ня ведае. Наагул-жа было чуваць, што ў гэтым часе ў царстве ссылак і лягероў — на гэтай вялічэзнай Галгофе народаў СССР — ГПУ, на дырэктыву ЦК РКП(б), із шалёнай хуткасьцю разбудоўвае ненажэрныя людабойні, займаючы імі агромністы абшар ад Мурманску й Карэліі і да Уладзівастоку й Японскага мора.

Мы ўжо мінулі Маскву, Вятку, Перм. Тут нас болей не хаваюць, вязуць адкрыта — і ўначы, і ўдзень. Праз краты й абледзянелае вакенца мы бачым аднастайны, пануры краявід: лес і сьнег, сьнег і лес. Толькі зрэдку прамільгне чыгуначная станцыя зь невялічкім селішчам пры ёй.

...Турма — за намі. А што — перад намі? Ці выжывем? Ці вернемся назад?.. Няма сумніву: многіх із нас цягнік вязе назаўсёды, без звароту ў Беларусь, а то й зусім без звароту "на волю". Каму із нас які лёс, пакажа будучыня.

### ВІШАРСКІЯ ЛЯГЕРЫ

Пасьля Пермі наш цягнік мінуў Чусавой, Кізел, яшчэ колькі невялікіх местаў і раніцою 1-га лістапада спыніўся ў полі за кілямэтр перад станцыяй Усольле Пермскай чыгункі.

Не прайшло й паўгадзіны, як нам загадалі выходзіць з вагонаў.

Адзін па адным саскакваем з прыступак проста ў сьнег. У руках сьціскаем свае "рэчы" — розныя торбы, вузлы, скрыначкі, абдзёртыя па этапах і камэрах куфэркі, часта з паабрыванымі ручкамі й абы-чым паперавязваныя. Стаяць на нагах амаль ня можам: ад язды ў "клетках" і слабасьці кружыцца галава. Мы хістаемся, бы п'яныя. Тупаем па сьнезе, разьмінаем зацёкшыя ногі й сьпіны.

Падае сьнег. Дуе вецер.

— По пятеркам разберись! — чуецца каманда начальніка канвою.

Нам чытаюць сьпіс, хто із нас застаецца тут, у Усольлі, а хто едзе далей. Затым нас пасоўваюць убок, бліжэй да станцыі, дзе мы бачым, побач нашага, другі, такі-ж, як і наш, эшалён, як пазьней выявілася, з Воршы (з Аршанскай перасыльной турмы). Эшалён той прыйшоў сюды ўчора ўвечары, а "разгружаюць" яго разам з нашым сёньня, дзеля-таго, што ён таксама, як і наш, паміж Усольлем і неназваным іншым лягерам.

Усіх тых, каго павязуць кудысь далей, "пагрузілі" ў вагоны Аршанскага эшалёну, а нас дзьвюма асобнымі групамі злучылі ў адну калёну й пагналі ў лягер, скуль за намі быў прысланы дадатковы "нарад" канвою.

Месім нагамі сьнег. Цягнем на сабе свае "рэчы". Пад рукі вядзем слабых і хворых... А вецер і сьнежная замяць зьбіваюць з ног.

Калі-б хто збоку наглядаў гэтую даўгую працэсію (нас было ўсіх разам каля 2.000 вязьняў), бачыў-бы, як зь неба зьвісае густая сетка грубых, кручаных ветрам сьнежных вяровак, а праз яе ў павольнай хадзе прарываюцца абвітыя-аблепленыя тымі белымі вяроўкамі нястройныя рады дзіўных постацяў. На адных із іх з-пад сьнежнага пакрову можна распазнаць польты, кажухі, курткі; на другіх — толькі кашулі зь перакінутымі праз сьпіну "коцамі" ці іншымі шматамі. На нагах — у каго боты, чаравікі; а ў каго камашы й лёгкія сандалі. На галовах — дзе якаясь

шапка, пераважна летняя; а дзе камяк сьнегу, прыліплы да каротка абстрыжаных валасоў. Блізу ні ў каго рукавіцаў.

Сьнег падае й падае, а фантастычная працэсія жывых "сьнежных бабаў", падганяная канвоем і сабакамі, рушыцца ў кірунку лягеру.

Вось мы ўжо падыходзім да яго. Маладыя, густа параскіданыя хвойкі расступіліся, і нашым вачам адкрыўся вялізны мураваны будынак у форме літары "п". Вакол яго яшчэ няма калючага дроту, адно цясьнейшы ланцуг лягернай аховы. З трох бакоў будынка — хваёвы лес, з чацьвертага, уваходнага — пляц, у цэнтры каторага ледзь відаць засыпаны сьнегам даўгі просты стол, зьбіты з дошак.

Галаву калёны заварнулі, правялі ўздоўж стала, спынілі. Тады рэшту калёны дзялілі на часткі й ставілі іх адну за аднэй перад сталом. А за сталом, як за прылаўкам крамы, стаялі лягерныя "прыёмшчыкі" "жывога" тавару": камэндант Усольскага "лагпункту" Строганаў — круглатвары, тлусты нашчадак тутэйшых расейскіх магнатаў-соляпрамыслоўцаў; камэндант гэтага будынка Савельлеў — рыжавусы з густым рабаціньнем на чырвоным твары канакрад-рэцэдывісты з-над Волгі; памочнік ягоны ў шапцы-"будзёнаўцы" й з даўгім кантовым дрынам у руцэ, за вочы званы мянушкаю Арап; начальнік УРЧ[30] Новікаў, нашы будучыя ротныя камандзеры, яшчэ колькі дробных урадоўцаў і асобна ўбаку аддзел лягернага канвою. Усе яны аказаліся таксама вязьнямі, з большым ці меншым лягерным "стажам", крыміналістыя ці г. зв. "бытавікі". Строганаў, Новікаў, Савельлеў і Арап перакінутыя сюды із Салаўкоў, дзе яны набылі прафэсію лягерных адміністратараў.

Этапны канвой нас здае, а лягернае начальства прымае; сьпярша — "аршанцаў", а потым — нас, "мянчанаў".

На стол ускочыў якісь пісар УРЧ. Яму пачалі падаваць пачкі канвэртаў, і ён зь іх грамавым голасам выгукваў прозьвішчы. Кожны выкліканы падбягае з "рэчамі" да стала, называе сваё ймя і ймя па бацьку, год нарадзінаў, артыкул абвінавачаньня й тэрмін засуду. Канвэрт ягоны з пэрсанальнымі дадзенымі кідаецца ў скрынку, а сам ён сьпяшаецца ў строй на другі бок стала. Калі хто дзе зазяваецца ці рушыцца недастаткова таропка, дастае ад Арапа дрынам па сьпіне.

Такая працэдура цягнецца болей за дзьве гадзіны. Пасьля таго нас "разьбіваюць" на роты. Рота — 300 вязьняў.

Сьнежная завея ня сьціхае. Мы пазамярзалі да немажлівага. Бровы, вусы, бароды абледзянелі. Ногі, рукі — як чужыя. Некалькі чалавек упала, іх занесьлі ў будынак. А нас усё яшчэ ня пускаюць туды. Строганаў узьлез на стол і абвесьціў, што будзе вучыць нас спатыкаць начальніка аддзяленьня лягеру, які хутка мае сюды прыехац. Мы пагеру, які хутка мае сюды прыехаць. Мы падружна адказаць "Здра". І гэты "отпрыскъ" былых царскіх апрычнікаў, паводля завучаных ім салавецкіх рэцэптаў, пачаў вучыць нас гэтаму "Здра".

— Здорово, преступная "братия"!

Цішыня. Адно колькі выпадковых галасоў сарвалася з вуснаў.

— Ах, так?! Я научу вас (такую ды разгэтакую вашу маць...) Как миленьких, научу... или катлеты сделаю из вас! Ротные, займите ваши места.

І ён пачаў нанова:

— Здорово, "контрыки"![31]

Дужа слабое "Здра".

— Не слышу!

Крышку мацнейшае.

— Громче!

Яшчэ трохі мацнейшае.

— Дружнее!

— Здра!

— Еще раз!

— Здра!

— Веселее!

— Здра!..

Строганаў ужо сам ахрып, а ўсё вучыць і вучыць нас. А мы, акачанелыя ад марозу й сьнегу, із апошніх сілаў стараемся крычаць гэтае праклятае "Здра", каб хутчэй толькі скончыўся зьдзек.

Ды вось паказаўся й чаканы вазок із запрэжаным у яго сівым стаеньнікам. У перадку — фурман.

Стоганаў скамандаваў:

— Для приветствия начальника отделения... смирно!

Куляй сарваўся з стала й бягом кінуўся насустрач вазку. Стаў перад ім на зважай і павайсковаму адрапартаваў, што этап прыняты.

Начальнік аддзяленьня, Стукаў, стары чэкісты із Сьвярдлоўска й былы салаўчанін, у даўгім чорным скураным плашчы, з ромбамі на пятліцах і маўзерам на баку, стаў на сядзеньне вазка й гаркнуў:

— Здорово, рабочие роты!

— Здра! — адказалі мы.

Ён выйшаў з вазка й пад эскортам Строганава, Савельлева, Новікава й ротных пайшоў аглядаць сярэдзіну будынка, змусіўшы нас ізноў чакаць на сябе. Калі прыйшоў назад, яму падставілі табурэт узьлезьці на стол; і ён зьвярнуўся да нас з "прывітальнай" прамоваю:

— Вы сюда не в гости к теще приехали... И зарубите себе на носу: здесь вы имеете только одно право — беспрекословно и безоговорочно исполнять все приказания и распоряжения лагерного начальства... И еще запомните: за невыполнение норм работы или за побеги из лагеря — круговая порука. Будете отвечать все за одново и один за всех... А каждово беглеца и таво, кто не захочет здесь исправиться, ждет заслуженное наказание. Как говорит наша русская пословица — горбатаво могила исправит. Да какая там черта могила — яма собачья... Понятно?..

— Панятна, — паўтарылі слабыя галасы.

Пасьля "прывітаньня" нас ротамі павялі ў сярэдзіну будынка. Нашу роту вядуць на 2-гі паверх. Ідзем даўжэзнымі калідорамі, зь якіх дзьверы ў вялікія салі й меншыя пакоі. Салі яшчэ не перагароджаныя на пакоі, дзьверы ў іх не паўстаўляныя, сьцены скрозь цагляныя, не паштукатураныя — на ўсім ляжыць адбітак незакончанасьці.

Дзеля таго, што ўжо вечарэе, з рэдкіх электрычных лямпачак, што зьвісаюць із столі, падае слабое сьвятло. Вострыя смурод ад карболкі пасьля дэзынфэкцыі будынка дзярэ горла.

Уваходзім у прызначаную нам салю. Пасярэдзіне яе — праход, у каторым стаяць дзьве невялікія бляшаныя печкі-"буржуйкі" з трубамі ў вокны. На два бакі ад праходу — 2-ухпавярховыя нары.

Нам даюць гадзіну часу "разабрацца" на нарах. Займаем на сырых негабляваных дошках вузкія месцы. Як і ў турме — без аніякае пасьцельнае бялізны. Халаднавата: печкі болей дымяць, чымся грэюць, ад вакон дзьме. Цесна: ан нарах для ўсіх не хапае месца; тыя, што йшлі ззаду, свае "рэчы" кладуць у праходзе й пад нарамі. Перад "адбоем" нас будуць яшчэ цясьней сьціскаць, каб уціснуць на нары ўсіх.

Пачуўся рэзкі чыгунны звон... На двары, блізка ад уваходу ў будынак, стаіць слуп. На ім за дрот падвешаны кавалак рэйкі, па якой 4 разы на дзень б'юць малатком — на "пад'ём", на пачатак і канец "вячэрняй паверкі" й на "адбой". Цяпер гэта сыгнал на пачатак "вячэрняй паверкі".

Выскакваем на калідор, дзе кожная рота выстрайваецца асобна.

Зьяўляецца Арап. Ротны камандуе:

— Для сдачи рапорта, 3-ья рота, смирно!

Падыходзіць да Арапа, здае яму вусны й пісьмовы рапарт аб колькасным складзе роты. Із вуснага мы даведваемся, што з нашае роты сёньня двох вязьняў памерла, а трох із адмарожанымі нагамі й рукамі накіраваныя ў лягерны "лазарэт".

Калі Арап адыйшоў, ротны даў нам некаторыя інфармацыі. Ён сказаў, што наш лягерны пункт завецца "Больничный Городок". Пазьней мы будзем тут валіць лес, рашчышчаць поле для вуліцаў і будаваць места Беразьнікі. Бальнічны Гарадок — першы будынак будучага места й завецца так таму, што ў ім будзе шпіталь. Цяпер ён — карантынны пункт 2-га аддзяленьня Вішарскіх лягероў асобнага прызначэньня ГПУ (у скароце — ВЛОН ОГПУ ці Вішлагу). У карантыне мы прабудзем 4 тыдні, пасьля чаго УРЧ разьмяркуе нас па "лагпунктах" і "камандыроўках" 2-га аддзяленьня. Самы блізкі ад нас "лагпункт" — Усольскі. Да яго каля двох кілямэтраў. Пры ім і Упраўленьне 2-га аддзяленьня на чале із Стукавым. Закончыў ротны інфармацыю паведамленьнем, што заўтра мы будзем мець "санобработку" й "медосмотр".

Да "адбою" мы даведаліся, што другую частку нашых эшалёнаў (менскага й аршанскага) накіравалі ў Краснавішарск — "лагпункт" 1-га аддзяленьня Вішлагу. Ад станцыі Усольле паўз р. Каму яны будуць ехаць цягнікам яшчэ кілямэтраў 30, да м. Салікамск. Там канец Пермскай чыгункі, і адтуль іх пагоняць пехатою кілямэтраў 120 у тайгу. Паўночней Салікамску, з усходняга боку ў Каму ўпадае ейны прыток — р. Вішара, імем якой і названы наш лягер. На беразе гэтай ракі ў 1925 г. было заснавана Вішарскае аддзяленьне Салавецкіх канцэнтрацыйных лягероў, у 1929 г. ператворанае ў самастойны лягер. Там вязьні пабудавалі м. Краснавішарск, дзе, апрача "лагпункту", месьціцца Упраўленьне 1-га аддзяленьня й галоўнае Упраўленьне ўсіх Вішарскіх лягероў.

Із нашае "клеткі" ў Краснавішарск павезьлі-пагналі Сталовіча, Мяцельскага, Штаненку, Жукоўскага й Вярбіцкага.

Цяпер мы ўжо ведаем, куды нас прывезьлі. Гэта раён Паўночнага Уралу, зямля комі-пермякоў і комі-зыранаў, улучаная ў Пермскую вобласьць РСФСР. Пасуседзтву жывуць татары, башкіры, удмурты й іншыя цюрскія й вугра-фінскія народы. У местах — шмат расейцаў і ссыльных. Клімат тут жорсткі: доўгая зіма зь вялікімі марозамі (тэмпэратура даходзіць да -40°С і ніжэй), моцнымі вятрамі й сьнежнымі завеямі.

30) УРЧ — Учётно-Распределительная Часть.

31) Гіранічная мянушка "контр-рэвалюцыянэраў".

У гэтыя мясьціны Паўночнага Уралу — у Перм, Чусавой, Салікамск, Чэрдынь і інш. — у 1863-65 гг. было саслана шмат паўстанцаў К. Каліноўскага. Спаміж іх, у Салікамск — згадваную намі дачку В. Дуніна-Марцінкевіча, Камілу. Толькі ў 1880 г. яна вярнулася із ссылкі ў Беларусь і хутка пасьля таго,у тым-жа годзе, памерла. Праз паўгода сюды прывязуць: у Перм — акад. А. Цьвікевіча, у Шадрынск — Язэпа Пушчу.

### “САНОБРАБОТКА” Й “МЕДОСМОТР”

А 5-ай гадзіне перадраньня нас разбудзіў звон “пад’ёму”. Першае, пра што мы даведаліся, мы — блізу ўсе нямыя. Ад учарайшае прастуды й карболкі ахрыплі й згубілі голас. На ўсе нашы ранішнія зборы, улучна зь сьнеданьнем, нам дадзена адна гадзіна часу. Таму трэба сьпяшацца.

Кіруемся сьпярша ў уборную. Яна, хоць і халодная, зьбітая з дошак на дварэ, ды дарога да яе, нарэшце, вольная. Але на 2.000 вязьняў уборная толькі адна, і перад ёю чарга. Пасьля уборнай трэба йсьці памыцца. Нам кажуць: умывальняў у Бальнічным Гарадку няма. І мы з бруднымі рукамі й нямытымі тварамі ідзем на сьнеданьне.

Індывідуальна ні сьнеданьня, ні абеду, як гэта было ў турме, тут не даюць. На гэта быццам-бы няма ні пасуды, ні часу. З пасуды ёсьць толькі “бачкі” — мэталёвыя місы, якія нармальна ўжываюцца для мыцьця ног. Адзін такі “бачок” на 10 асобаў. Кожны мусіць запісацца ў якуюсь 10-тку, пазьней — сталую (у рабочай брыгадзе, звычайна з 30 вязьняў — іх 3).

“Бачкоў” мала. І калі на кухні яны ўжо разабраныя, адзін зь 10-ткі за “бачком” мусіць стаць у чаргу каля 10-ткі, каторая ўжо сьнедае. Тады, схапіўшы звольнены “бачок” у вадну руку, а сьпіс 10-ткі ў другую хутчэй ляцець у іншую чаргу — на 1-шы паверх, на кухню. Прычым, “бачок” ні перад намі, ні пасьля нас ня мыецца; мыць яго няма дзе й на такую раскошу (жартам казалі — “буржуазный предрассудок”) зноўжа брак часу: пакуль м ыбудзем есьці, над нашым каркам на “бачок” будзе чакаць хтось з наступнае 10-ткі.

На кухні кухар ці ягоны памочнік апусьціць свой чарпак на даўгім кію ў кацёл і выверне яго ў падстаўлены “бачок”. Дзеля таго аднак, што пры кухні сталоўкі няма, “бачок” хутчэй трэба несьці назад у ротную салю, у якой таксама няма ні сталоў, ні лавак і ніякае іншае мэблі. “Бачок” ставіцца на край нараў, дзе ўся 10-тка зь нецярплівасьцю й хваляваньнем чакае на яго.

У “бачку” — “рыбная баланда”. Зь яе яшчэ йдзе пара. Ад “чаю” яна адрозьніваецца тым, што “чай” — чыстая вадзіца, а “баланда” — мутная. Праўда, у “баландзе” могуць быць рыбныя косьці, часам — хвост ці 1-2 галавы, а на паверхні абавязкава плаваюць вочы.

Тут новая праблема: есьці “баланду” няма чым. Лыжкі ў нас паадбіраў этапны канвой, запэўніўшы, што нам іх у лягеры дадуць. Засталіся яны рэдка ў каго, калі былі драўляныя. Таму чэрпаць “баланду” з “бачка” мы ў пасьпеху падрыхтаваліся чым толькі хто мог — выпрашанымі ў кагось драўлянымі лыжкамі, кубкамі, бляшанкамі ад кансэрваў, адбітым ад бутэлькі дном і іншымі чарапкамі.

Мы адразу абступілі “бачок” з усіх бакоў і з здабытымі інструмэнтамі рынуліся ў атаку — хто стоячы, хто седзячы, а хто лежачы. Як сьвіньні, із супольнага й бруднага карыта хапаем адзін перад адным навыперадкі гарачую юшку, абліваемся ёю, апальваемся, давімся касьцямі... Хутчэй, хутчэй. Часу для гутарак цяпер няма. Народжаная ў лягеры 11-ая “запаведзь” вучыць: не зявай!

Чарпака гэтых сьвіных памыяў для 10 асобаў ды яшчэ бяз хлеба (хлеб дадуць толькі ўвечары) занадта мала. Дзеля таго ў першыя дні, пакуль на карантыне панаваў хаос, некаторыя із найбольш галодных адважваліся запісацца на “баланду” ў дзве ці нат і тры 10-ткі й сьнедаць па два й тры разы. Але было боязна: а ну-ж праверацъ сьпісы, тады прапаў за 2-3 лішнія лыжкі гэтае сьмярдзючае поліўкі. І былі выпадкі, што рызыкантаў выкрывалі, валаклі ў камэнданцкі пакой і моцна білі.

А 5.30 раніцы абвешчана “санобработка”. З Усольскага “лагпункту” прыйшлі цырульнікі, і ў каго нястрыжаная галава або хто мае бараду й вусы, павінны йсьці на калідор 1-га паверху ў чаргу. (Зь нястрыжанымі галовамі былі рэдкія адзінкі, каторыя ў турме мелі на гэта якіясь прывілеі, бо, як правіла, там галовы стрыглі ўсім. З барадамі й вусамі было болей, галоўна сьвятары й старэйшыя “кулакі”.)

З тых, хто ўжо пасьнедаў і не патрабаваў ісьці да цырульніка, пачалі фармаваць групы па 50 асобаў. Кожнаму з групы выдаюць абруч зь дзьвюма біркамі — маленькімі фанэрнымі дочачкамі зь дзіркай, праз якую прывязаны хвосьцік шпагату. На абедзьвюх бірках напісаны адзін і той-жа №. Да абруча з аднэй біркай трэба прывязаць усю сваю вопратку (апрача



тае, што апранута) і тут-жа кінуць у кучу для адпраўкі на дэзынфэкцыю. Другую бірку пакінуць сабе як квіток на атрыманьне вопраткі з дэзынфэкцыі. Пасьля таго групе прыдаецца канвой, і яе строем гоняць у лазьню Усольскага “лагпункту”. Групу за групаю, паротна — праз кожныя 10 хвілінаў.

Крочым рэдкім маладым хвойнікам па слаба пратоптанай на глыбокім сьнезе сьцежцы. Ля брамы лягернай “вахты” “дзяжком”[32] пералічае нас, запісвае ў свой “табель” і ўпускае за дрот на тэрыторыю “лагпункту”.

Перад лазьняю спыняемся й чакаем: там яшчэ мыецца папярэдняя група. Калі яна выйшла, нас уводзяць у перадлазьнік. У ім цесна, халодна, падлога мокрая. На мыцьцё нам даюць 10 хвілінаў. Абутак загадваюць паставіць на падлогу пры сьцяне, а верхнюю вопратку зьвязаць у вузлы й здаць на пражарку ў “вашабойку”.

У самой лазьні “банщчык” выдае кожнаму “цукерку” (маленькі кавалачак мыла) і адну шайку гарачай вады. Халоднай бяры колькі хочаш, але перад кранам чарга, а час абмежаваны. Хутчэй намыльваемся, размазваем на целе гразь. І яшчэ не пасьпелі змыць яе, як краны з вадою выключаныя, вады няма. Нам камандуюць выходзіць — на вуліцы ўжо чакае наступная група.

Выходзім назад у перадлазьнік, шукаем свой абутак і верхнюю вопратку. Вузлы нашыя выкідаюць праз вакенца на падлогу. Бяда, калі ў каго зьніклі боты, штаны ці паліто. Тузаніна. Крыкі. А нас выганяюць ужо на вуліцу. Мокрыя (ніякіх рушнікоў тут няма), амаль на хаду апранаемся, выскакваем на мароз. Усю дарогу да Бальнічнага Гарадка дрыжым ад холаду, ляскаем зубамі.

Ад 9-ай гадзіны раніцы часткамі пачалі прывозіць назад із “санобработки” нашу вопратку. Яе звальваюць у кучу на калідоры 1-га паверху. Пры кучы стаіць дзяжурны санітар, які спраўджвае №№ бірак — прывязанай да абруча з прынесенай уласьнікам вопраткі.

Адшукаць абруч із сваёй вопраткай — справа нялёгкая. Куча вялізная. Да яе не даступіцца: вакол — натоўп і валтузьня. Самыя вузлы пераблытаныя, напалову паразьвязваныя, паасобныя рэчы зусім адарваныя ад абручоў, на некаторых абручох няма бірак... Поўнае бязладзьдзе.

А калі хто знаходзіць свой абруч з вузлом, толькі дзівіцца: вузел ягоны так старанна “обработанный” і “продезинфецированный”, што лепшых рэчаў у ім няма. Зь некаторых абручоў зьнята ўсё, а да іх абы-як прычэпленыя якіясь пару латаных анучаў. Асабіста ў мяне зьніклі дажджавы плашч, штаны й дьве верхнія кашулі.

Усеагульнае абурэньне. Лаянка. Пагрозы скаргаў вышэйшаму начальству. Ды ўсё надарма: пакрадзеных рэчаў ужо ніхто болей ніколі не пабачыў.

Пасьля гэтага нам абвесьцілі, што “санобработка” нас поўнасьцю закончана. Цяпер мы мусім ісьці на “медосмотр”, дзе нам будзе ўстаноўлена катэгорыя працаздольнасьці.

На калідор 2-га паверху з пакояў ротных і “хлебарэзак” вынесьлі сталы, лаўкі й табурэты. Пры сталох селі сябры Мэдычнае камісіі — лекары зь лягернага “лазарэту”. Усе яны — вязьні, у бальшыні добрыя людзі, якія стараліся кожнаму хвораму дапамагчы, але мелі для гэтага абмежаваныя мэдычныя сродкі й былі зьвязаныя па руках і нагах рознымі інструкцыямі Санітарнага Упраўленьня ГУЛагу.[33]

Да Бальнічнага Гарадка пад’ехаў вазок. Зь яго выйшаў досыць шчуплы чалавек сярэдняга веку — у шапцы -“будзёнаўцы”, валёнках і шынялю з пісталетам на рамяні. Гэта быў Залкінд, начальнік Санчасьці 2-га аддзяленьня ВЛОН ОГПУ. Як старшыня Мэдычнай камісіі ён пайшоў на 2-гі паверх, дзе на ягоны прыезд чакалі.

На “медосмотр” нас вядуць ротамі. Распранаемся. Стаім голыя ў лінію перад сталамі. Па чарзе, якая рушыцца вельмі хутка, падыходзім да камісіі. Сьпярша ў сьпісе запаўняюцца пэрсанальныя дадзеныя. Тады — самы “осмотр”. Толькі ў рэдкіх выпадках камісія затрымліваецца, калі перад ёю стаіць відавочны калека, напаўсьляпы ці глыбокі старац. Паза імі “осмотр” вельмі просты. Залкінд, часта нават і не глядзіць на падыйшоўшага, пытаецца:

— Руки, ноги есть?

— Есьць, — адказвае падыйшоўшы.

— 1-ая категория.

— Гражданін начальнік, у мяне...

— Можете идти. Следующий!

Наступна нас вядуць на 1-шы паверх, да “Вещевого склада”. Тут мы павінны атрымаць лягерную ўніформу. У лягеры забаронена насіць сваю вопратку, якую па атрыманьні лягернае трэба зараз-жа здаць на “хранение” ў лягерны склад, каб пры вызваленьні з-пад арышту, як нам тлумачаць, было ў чым ехаць дадому.

Перад складамі мы стаім у чарзе, мераем

32) Дзяжком — дзяжурны камэндант.

33) Главное Управление Лагерей ГПУ.

і атрымліваем бушлат і шапку-вушанку аднаго із трох колераў — шэрага (як жаўнерскі шынель), чорнага ці хакі; падобныя да жаўнерскіх кашулю й штаны, грубыя чаравікі з анучамі да іх і “варежки[34]. Усё гэта ўпісваецца ў іменную “Арматурную карточ-ку”, выдаваную кожнаму на рукі. Пры гэтым (як мы агледзеліся пазьней) робіцца злоўжываньні: нам выдаюць ужо ношаныя рэчы, а ў “Арматурную карточку” іх упісваюць як новыя. Новыя-ж рэчы працаўнікі складу потым “по блату” абменьваюць на старыя ротнаму, кухару, урадоўцам УРЧ і іншым з адміністрацыі (паводля лягернае прыказкі “Свой — своему”), каб гэтым купіць і сабе прывілей ад іх.

Апрануўшы казённую вопратку, мы ўпакоўваем сваю ўласную для здачы яе ў лягерны склад. Ужо цяпер у нас ня было надзеі атрымаць яе калі-небудзь назад. Але што-ж ты зробіш: загад ёсьць загад, ня выкапаць яго мы ня можам. Ды й пасьля “санобработки” ўжо й ня было чаго здаваць, хіба што тое, што было яшчэ на нас. Да свайго пакуначка мы прывязваем бірку, на каторай самі пішам сваё ймя й прозьвішча. Ніякага квітка на здадзеныя рэчы нам не выдаюць.

А 5-7-ай гадзіне вечара нам далі першы ў лягеры абед: у вадзін “бачок” — чарпак тэй-жа “рыбнай баланды”, у другі — лапатку кашы. Па абедзе я з маімі сябрамі выправіліся да камэнданта Бальнічнага Гарадка із скаргаю аб пакражы нашых рэчаў пры “санобработке”. Ідзем калідорам, ледзь валочым ногі. Ня толькі рэчы нашыя, самі за дзень былі ўжо так “обработанные”, што нашы і фізычныя, і псыхічныя сілы былі на вычарпаньні. Аднак мы яшчэ неяк трымаліся. Сотні іншых, пераважна старэйшых, патрабавалі неадкладнай мэдычнай дапамогі. Вось мы цягнемся ўздоўж даўгой чаргі, што стаіць перад пакоем “лекпома”[35]. Найбольш тут, відаць, з прастудаю. Яны на ўсе лады кашляюць, харкаюць, хрыпяць. Да “адбою” “лекпом” прыме зь іх толькі нязначную частку.

Зусім нечакана ў чарзе пазнаем айца Аляксандра Табанькова й Шэрэшэўскага. Шэптам яны тлумачаць нам, што прыехалі сюды ў нашым-жа эшалёне й абодва ў суседняй да нас, 4-ай, роце.

Набліжаемся да дзьвярэй камэнданцкага пакою. Чуем адтуль сьпеў. Запявала (пазнаем голас Савельльева) высокім пісклявым тэнарам зацягвае:

*Царь Николай захотел воевать,*
а хор кольких галасоў падхоплівае —
*Э-э-х, ты...*

Мы зьбянтэжыліся. Спыніліся перад дзьвярыма й ня ведаем, што рабіць — заходзіць ці вяртацца назад.

Песьня працягваецца:

*Барышня, баршня, гто и сказать,*
*Эх, ты...*

Пакуль мы нараджаліся, А. Лантас пасьпяшыўся й пастукаў у дзьверы.

— Вваливай! — пачулі мы з пакою.

Адступаць ужо было позна, і мы “ввалились”. Бачым, у камэнданта банкет, на якім сядзіць Арап і іншыя ягоныя лягерныя сябры-“белоручки” із “социально-близких”. Яны, праўдападобна, “спустили” дзесь “налево” пакрадзеную вопратку, накупілі сабе паза лягерам адэкалёну й закусак і цяпер банкятуюць — п'юць (“адэкалёняцца”, паводля лягернае тэрміналёгіі).

На стале й пад сталом стаяць і ляжаць поўныя ці парожнія бутэлькі й бутэлечкі. На расьсьцеленай газэце — селядцы, каўбаса, хлеб.

Сьпевы спыніліся, і мы выказалі камэнданту сваю скаргу.

— Это что? Бунт против советской власти? — пытаецца ён у нас п'яным языком. — Вам не нравится советская власть? А знаете ли вы, что за это до вашего срока заключения вы можете достать новый срок? — усё павышаючы голас пагражае нам камэндант. — Никаких жалоб! — стукнуў ён кулаком па сталу. — Понятно?..

Тады ўстаў і ўжо скамандаваў:

— А ну давай, сматывай отсюда свои удочки, пока мы не составили рапорта!

### ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ПРАЦЫ

Паднялі нас чыгунным званом а 5-ай гадзіне ночы. Некаторыя 10-ткі яшчэ ня ўправіліся “праглынуць” сваё сьнеданьне, як пачалася “разнорядка”. У роту із сьпісамі рабочых брыгад увайшоў “нарядчик” УРЧ. Ён ускочыў на прынесеную яму табурэтку й пачаў чытаць сьпісы брыгад. Кожная брыгада складаецца з 30 вязьняў і мусіць зараз-жа станавіцца на паказанае ёй месца. Із роты ў роту з дрынам у руцэ ходзіць Арап. Калі хто з выкліканых, будучы заняты сьнеданьнем, не дачуў свайго прозьвішча ці хто спазьніўся вярнуцца з уборнай і ня ведае, да якой брыгады ён належыць, — Арап сьпярша “аддрынуе” небараку па сьпіне, а тады ў нарадчыка папытаецца, дзе ягоная брыгада.

34) Варежки — суконныя рукавіцы.
35) Лекпом — лекарскі памочнік, фэльчар.



Пазьней УРЧ створыць з нас на якісь час больш-менш сталыя брыгады, і штодзенныя зьдзекі разнарадак скончацца. Але цяпер, пакуль мы тут, на карантыне, кожнага дня з нас фармуюць новыя брыгады — нібы дзеля таго, каб мы не маглі хутчэй зьблізіцца між сабою й змовіцца на ўцёкі зь лягеру.

Усіх вязьняў, каму ўчора мэдычная камісія прызнала 1-ую, 2-ую й 3-юю катэгорыі працаздольнасьці, гоняць на г. зв. “общие работы”. Асабліва гэта тычыцца “каэраў” — тых, хто засуджаны па 58-му артыкулу карнага кодэксу РСФСР. Паводля інструкцыі ГУЛагу, усе яны мусяць працаваць фізычна. Ці ты малады, ці стары, здаровы ці хворы — гінь, але для цябе толькі “общие работы”. Праўда, колькім асобам із нашага эшалёну якімсь цудам ўдалося выкруціцца ад іх: так фабрыканта-мільянэра Шэрэшэўскага Залкінд забраў у аптэку Санчасьці.

Брыгада за брыгадаю нас выводзяць з будынка “на развод”. З аднаго боку ад дзьвярэй на падворку бачым даволі вялікую групу брыгадзіраў, з другога — яшчэ большую каманду “архангелов-хранителей”[36] із “свечками”[37] на плячах. Стаім на марозе, чакаем свае чаргі. Ад групы брыгадзіраў аддзяліўся якісь асабень з падбітым вокам і, праходзячы паўз нас, нізкім пракураным голасам працадзіў скрозь зубы:

— Тут вам всем — “труба”![38]

Сьледам за ім ля нашае брыгады зьявіліся брыгадзір і трох “архангелов” зь дзяжкомам Бальнічнага Гарадка. Нас пастроілі ў калёну, пералічылі й пасьля “малітвы” старшага “архангела” пагналі на працу.

Наперадзе крочыць брыгадзір, ззаду — старшы канвою, па баках — два іншыя із “свечками” ў руках. Хутка выходзім на большую дарогу ў вадкрытым полі. Дарога тут добра вытаптаная нагамі вязьняў, бо яна злучае Усольскі лагпункт з будаўніцтвам Беразьнікоўскага хэмічнага камбінату, куды нас вядуць. Паварочваць галаву назад нам забаронена, але наперадзе, перад намі, як толькі можа сягаць наш зрок на дасьвецьці, відаць жывы ланцуг калёнаў. Ланцуг гэты хістаецца й выкручваецца па няроўнай зьвілістай дарозе.

Вакол сінеюць глыбокія сьнягі. Трашчыць пад нагамі мароз. Ад ледзянога ветру коцяцца сьлёзы з вачэй.

36) Так у лягеры звалі канваіраў.
37) “Свечка” — палягернаму стрэльба.
38) “Труба” — пагібель.

Мы мінаем станцыю з колькімі дамкамі й бярозкамі. Крочым яшчэ з кілямэтр і спыняемся.

У карантынным часе мы ня маем сталае працы, і нас кідаюць зь месца на месца. Сёньня паставілі на земляную працу — капаць катлаван. Атрымалі інструмэнты, капаем. “Архангелы” з трох бакоў занялі свае пазыцыі.

Гадзіны праз дзьве адкульсьці ўзяўся незнаёмы дзядзька й пачаў на нас крычаць:

— Каково хрена вы здесь ковыряетесь? Где ваш бригадир?

Брыгадзір высоўваецца яму насустрач:

— Чево орешь? Зачем суешь сюда свою харю?

— Я здесь десятник! И ты не прикидавайсь казанской сиротой. Кто тебя здесь поставил?..

Дыяляг упрыгожваецца больш важкімі й кваяцістымі сродкамі мовы з матам. Завяршаецца тым, што нам загадваюць засыпаць назад усё тое, што мы выкапалі, пасьля чаго брыгаду пераводзяць капаць на іншае месца.

На схіле дня, калі мы ўжо добра напрацаваліся й зь нецярплівасьцю чакалі, калі, нарэшце, нас павядуць у лягер, — нас пагналі ў вадваротным ад лягеру кірунку. Набліжаемся да прыстані ля ракі Кама. За складзкімі будынкамі бачым даўжэзны мост праз раку, на другім беразе да якой туліцца невялічкае места Усольле.

Нас ставяць ладаваць із складу на прычаленую да берагу барку якіясь, пудоў па 4-5, бочкі, быццам, з алеем. Насіць іх трэба па трапу зьверху ўніз.

Бярэм бочку ўдвох, адзін — сьпераду, другі — ззаду. Нязручна, ліха на яе: пальцы рук у задняга высьлізгваюцца з-пад бочкі. Спрабуем завярнуцца, каб стаць бокам і ўсіх разам. Таксама нязручна: адна нага ніжэй, другая — вышэй; ды й трапы вузкаватыя — можна аступіцца й зьляцець зь іх на зямлю ці ў ваду. Як мы ні бярэм бочку й як ні становімся, трымаць і несьці яе амаль немажліва. Галодныя, мы ўжо вычарпалі свае сілы на першай працы. А тут яшчэ й пальцы на руках мерзнуць, не дапамагаюць і “варежки”. Круцімся з гэтымі ідыёцкімі бочкамі бясконца спыняемся, мяняем рукі й пазыцыю, ледзь ступаючы па тарапу. Каля самае-ж баркі пальцы рук зусім ня слухаюцца, расчапляюцца, і бочка вось-вось сарвецца й паляціць у Каму. Ня праца — адна пакута!

Выбіліся із апошніх сіл. А нам загадваюць ісьці на трэцюю працу. Мы заяўляем брыгадзіру, што ўжо ня здольныя болей працаваць.

— А кто же будет за вас работать? Пуш-

кин? Или я? — і вядзе нас да адкрытых чыгуначных вагонаў-плятформ із цюкамі сена.

Мы мусім адчапляць кожную плятформу ад іншых вагонаў, цэлай брыгадай пхаць яе па рэйках да складаў прыстані, а тады выладоўваць сена ў склад. Працуем ужо ў цемры. Ня рухаемся — сланяемся, бы цені. Старэйшыя й слабыя так-сяк яшчэ брыдуць, трымаючыся за плятформу (не папіхаюць яе, самі за яе трымаюцца, каб неяк рухацца), а ўжо насіць цюкі ня могуць.

Ад стомы баліць крыж. Рукі вісяць, як мёртвыя, і не падымаюцца. Ногі адзервянелі й ня гнуцца ў каленах. Наагул чуемся так зьнясіленымі, што ня ведаем, ці дойдзем да лягеру.

Брыгадзір пайшоў у кантору прараба[39] "здаваць" нашу працу — выпаўняць "рабочий рапорт" (колькі й чаго мы зрабілі за дзень), а нас канвой выстраіў у калёну, пералічыў і пагнаў у лягер.

Цягнемся, ледзь перастаўляючы ногі. Некаторыя падаюць. Калёна расстрайваецца, расьцягваецца. Старшы канвою камандуе:

— Передние, короче шаг! Задние, подтянись!

Праз колькі хвілінаў — ізноў тое самае. Аднак нам пашчасьціла: канвой аказаўся людзкім. Ён бачыў, што мы ня можам ісьці, зьлітаваўся над намі й дазволіў два разы адпачываць. На ўзбоччы дарогі мы садзімся ці кладземся на сьнег на 2-3 хвіліны. На сьнезе й бяз руху яшчэ болей мерзьнем, качанеем, але лепшага выбару ў нас няма. Тады ўстаем і йдзем далей. Тых, хто сам ня можа ўзьняцца на ногі — падымаем. Божа мой! Як мы ўдзячныя нашым "архангелам"!

Так цягнемся памалу й марым: хутчэй-бы даплесьціся да лягеру, пагрэцца гарачай "баландой", дастаць сваю "пайку" хлеба, заваліцца на голыя нары й заснуць каралеўскім сном. Неадчэпна сьвідруе й другая думка, чорная: гэта толькі адзін дзень працы, а якжа выцягнуць тут усе гады? Ды што — гады. Як будзем працаваць заўтра? Як выцягнем заўтрашні дзень? Калі так будзе штодня, як сёньня, мы ня толькі да канца сваіх тэрмінаў не дацягнем, мы ўсе тут за паўгода выцягнем ногі. Запраўды, будзе нам "труба"!

### СЬВЯТКАВАНЬНЕ 13-цігодзьдзя КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

Дзень 7-га лістапада ў Бальнічным Гарадку абвешчаны сьвяточным. На працу пагналі толькі тыя брыгады, дзе была неадкладная праца.

Пасьля несьвяточнай "баланды" я вырашыў адведаць маіх сяброў. Хоць мы (параскіданыя па розных ротах і паверхах) былі недалёка адзін ад аднаго, аднак усе дні працы ня бачыліся. Так за дзень стамляліся, што нам было не да спатканьняў.

Найперш іду ў суседнюю на нашым паверсе, 4-ую, роту. Там з маіх сяброў В. Турчын і айцец Аляксандар Табанькоў. Знайшоў іх на сваім месцы. Айцец Аляксандар спаў, і мы яго не турбавалі. Сьвятара й ужо немаладога чалавека, яго ганяюць на працу ў капальні калійнае солі.

Сядзім на ніжніх нарах, гутарым. Да нас даносяцца ледзь чутныя сьпевы.

— Гэта эвангелістыя сьпяваюць свае набожныя песьні-малітвы, — тлумачыць мне Турчын. — Яны з нашага Хойніцкага раёну. Іх тут цэлая група. На працу йсьці адмовіліся. Заявілі, што "на антыхрыста працаваць ня будуць". Ім не даюць ні "баланды", ні хлеба. Але яны паціху сьпяваюць і сьпяваюць. "Уркі"[40] гарланяць на іх, каб змоўклі. Пагражаюць расправай. Сёньня кідалі ў іх нажы.

Калі сьпевы спыніліся, мы падыйшлі да іх і, як блізкія землякі, прывіталіся. Яны займалі самы далёкі кут салі на верхніх нарах. Іх відаць там да 20 асобаў. На разьвітаньне я запытаўся:

— А дзе-ж вашыя сем'і?

— А Бог Сьвяты іх ведае, — адказаў адзін з групы. — З дому яны былі забраныя разам з намі. У Хойніках нас разлучылі. Куды іх, бедных, вывезьлі, мы ня ведаем.

Падвечар ударылі ў рэйку. Усе вязьні, што ня былі на працы, мусілі выходзіць на калідор. Хто спаў — будзілі, сьцягвалі з нараў. Тады строем вялі на 1-шы паверх. Хоць калідор тут шырокі й даўгі, стаяць дужа цесна.

У цэнтры калідору, паміж вакон, на кагось чакаў столік з табурэткамі. Ззаду, на сьцяне, крывавай плямаю зіяў чырвоны сьцяг.

Праз колькі хвілінаў зьяўляюцца камэндант Савельлеў, памочнік ягоны Арап, "воспитатель" з КВЧ[41] Гатоўчык і начальнік Опэрчасьці[42]. Яны рассаджваюцца пры стале, а мы далей стаім у страі.

Праграма сьвяткаваньня, як і заўсёды ў такіх выпадках, складаецца з 2-ух частак — урачыстай і мастацкай. У 1-ай частцы з "дакладам" на тэму дня выступіў Гатоўчык. Завучанымі казёнными сказамі крыміналісты тлумачыць нам, што савецкая ўлада, "кровью завоеванная" ў Кастрычніцкай рэвалюцыі, "на своих штыках" прынесла "настоящую" свабоду й справядлівасьць. "Как родная мать", яна дала ўсім нам, "злостным преступникам", магчымасьць "исправиться" й стаць "чэстными" людзьмі. А што мы мелі за царскіх часоў? Беззаконьне й свавольства ўлады.

39) Прораб — скарот двух слоў' производитель работ. Інжынэр, кіраўнік будаўнічага аб'екту.

40) "Уркі" — крыміналістыя.

41) КВЧ — Культурно-Воспитательная Часть.

42) Оперчасть — Оперативная Часть, аддзел лягернага ГПУ.



У мастацкай частцы праграмы быў толькі адзін нумар — выступ начальніка Опэрчасьці. Ён падняўся з-за стала й урачыста абвесьціў, што для тых, хто яшчэ ня ведае, за што савецкая ўлада яго пакарала й на які тэрмін, ён зараз адчытае два сьпісы. У 1-ым сьпісе будуць названыя тыя, хто атрымаў 5 год канцэнтрацыйных лягероў, у 2-ім — 3 гады. Артыкул абвінавачаньня для ўсіх — адзін і той-жа: 58-мы КК РСФСР, ці контррэвалюцыя.

— Понятно? — запытаўся ён.

— Панятна, — адказаў строй.

Я зьдзівіўся, што сьпісы так даўгія. У іх былі ўпісаныя г. зв. "бястэрміньнікі", каторых прывезьлі ў лягер бяз сьледзтва, бяз суда й бяз прысуду. І яны ня ведалі: за што іх арыштавалі? і на які тэрмін засудзілі? перадаць яму. (Пазьней я спатыкаў і такіх, што не, але сюды належала й група эвангелістых.

Калі "опэр" скончыў чытаць свае сьпісы, запытаўся, каго ён із "бястэрміньнікаў" не назваў. Паднялося колькі дзясяткаў рук. Ён забавязаў камэнданта улажыць іхны сьпіс і перадаць яму. (Пазьней я спаткаў і такіх, што бяз прысуду былі ў лягеры даўжэйшы час, а некаторыя й паміралі, не даведаўшыся — за што? і на колькі засуджаныя?)

Сьвяткаваньне Кастрычніка закончылася тым, што "опэр" загадаў усім "бястэрміньнікам", каторых ён назваў у сваіх сьпісах, застацца на калідоры. Яны павінны стаць у чаргу, паадному падыходзіць да яго, каб расьпісацца, што прысуд ім абвешчаны. А рэшту нас распусьцілі.

### УЦЁКІ

Сёньня я працую на будаўніцтве ЦЭЦ[43]. Брыгада муляроў кладзе сьцены вялізнага будынка, мы носім для іх цэглу. Насіць трэба "казой" на 3-ці паверх па трапу. На "казу" нас змушаюць класьці ня меней за 20 цаглін. У пачатку трапу із сьпісам брыгады стаіць "табельщик". Ён запісвае, колькі хто прынёс. Калі вы спрабуеце пакласьці на "казу" меней, "табельщик" ня пускае вас на трап, а "казу" з цэглаю вываросчвае ў сьнег.

"Каза" муляе нашы худыя плечы. Праз колькі гадзінаў працы яны ад "казы" пухнуць, гараць. Ногі млеюць. Але мы памалу носім.

Раптам (дзесь папаўдні) раздаецца прарэзьлівы сьвісток старшага канвою. Нам загадваюць спыніць працу й пастроіцца. Стаім. Нас лічаць: 29. Пералічаюць: зноў 29. Аднаго няма. Каго-ж? Правяраюць па сьпісу: Янкі Петрыкава.

Абвяшчаецца трывога. Па тэлефону зь лягеру выклікаюць "опэра" й дадаткова двох канваіраў. Брыгаду здымаюць з працы й пад узмоцненым канвоем гоняць у лягер.

Ідзем зь непакем у сэрцы. Хвалюемся: ня ведаем, што нас чакае. Раззлаваны канвой груба падганяе йсьці хутчэй, амаль подбегам.

Падыходзім да Бальнічнага Гарадка. Бачым у баку ад уваходных дзьвярэй — Стукаў, начальнік Опэрчасьці, Строганаў, Савельлеў, Арап, наш ротны. Спыняемся. Выраўніваем строй.

Раздаецца каманда "смирно". Уперад, бліжэй да нас, выходзіць Стукаў.

— Будете так стоять на морозе до тех пор, пока беглец не будет пойман. Я приказываю конвою стрелять... если кто из вас пошевелится. Позамерзаете, как свиные хвосты!.. Вам же русским языком было сказано: один за всех и все за одно. Или вы не понимаете русскаво языка?

Мы маўчым. Адзін Сохіеў Суслямбэк (каго тыдзень таму назад із групаю асецінскіх паўстанцаў прывезьлі ў лягер) за ўсіх нас адказаў:

— Моя очын корошо понымайт.

Колькі мы стаялі на марозе, мы ня ведалі. Мажліва, гадзін 2-3, пасьля чаго нам дазволілі йсьці ў роту. Аднак абеду й "пайкі" хлеба нас пазбавілі.

Прайшло тры дні. Гутаркі пра ўцёкі Петрыкава ў Бальнічным Гарадку паволі заціхлі. Бальшыня камэнтатараў не сумнявалася: калі яго не схапілі ў першыя два дні, яму пашанцавала ўцячы. Тымбалей, што гэта ўжо другія ягоныя ўцёкі, і ён мае ў гэтым дасьведчаньне. На чацьверты дзень гутаркі ня толькі што спыніліся, але пра Петрыкава наагул ужо пачалі забываць. У лягеры кожны мае столькі штодзённых клопатаў і турбот, што агульныя падзеі ў гэтым моры хутка тонуць. Таму, калі на зьмярканьні ўдарылі ў рэйку й роты вывелі з будынка на пляц, мы ня ведалі, што за прычына.

Стаім на холадзе, чакаем. Асобна ад нас —

43) ЦЭЦ — ЦеплаЭлектраЦэнтраль, адзін з аб'ектаў Беразьнікоўскага хэмічнага камбінату.

аддзел канваіраў.

Вось паказаўся знаёмы вазок зь белым канём. За вазком быццам штосьь валачэцца. Камэндант Савельлеў даў каманду нам, а сам з рапартам выскачыў напярэймы вазку.

Вазок уразаецца ў цэнтар пляцу й спыняецца. Калі фурман завярнуў яго на бок і адчапіў вяроўку, усе роты (хоць і ня было каманды "вольно") ахнулі: за вяроўку былі прычэпленыя санкі, на якіх ляжыць труп чалавека.

Вочы нашы прыкаваныя да санак. Хто-ж гэта там?.. Няўжо Петрыкаў? Ды здалёк нельга разгледзець.

Стукаў стаў на сядзеньне вазка й прамовіў:

— Видите этот труп? Это беглец Петриков возвратился в лагерь... Так будет и с каждым из вас, кто посмеет бежать из лагеря... Понятно?

— Панятна, — паўтарылі роты.

Для большага пастраху нас труп Петрыкава пакінулі на пляцы, дарога да яго была вольная.

Таго-ж вечару я пайшоў да нешчасьліўца, каб разьвітацца зь ім. Над трупам застаў калькі асобаў, спаміж якіх і айца Аляксандра. Высокі й шчэ больш худы. На твары ягоным ледзьве варушыліся вусны: ён, мабыць, маліўся.

Цяпер зблізку добра відаць, што труп да санак прывязаны ланцугом. Ногі босыя, зьвісаюць у сьнег. Вопратка падраная й акрываўленая. Твар так зьнявечаны, што не пазнаць: суцэльнае крывянае месіва з чырвоных і цёмных кавалкаў скуры й мяса. Адно вока выбіта. Чэрап праламаны.

Усё гэта знакі пабояў і зьдзекаў. Невядома толькі: ці сьпярша ён быў застрэлены й ужо мёртвым так "размаляваны"; ці быў яшчэ жывы, паранены й парваны зацкаванымі сабакамі, а дабівалі яго жывога.

Што-ж, наш дарагі Янка! Тое, што сталася, ніхто ня можа зьмяніць, перайначыць. Твая крыжовая дарога скончана. Як і сястры твае, і маці.

Тры дні йшлі брыгады на працу паўз труп Петрыкава, чыё адно нявыбітае вока ўсё такжа нярухома глядзела ў неба.

***(Працяг будзе)***

### Паміж Сцылай і Харыбдай

*(Перанос із баг. 15-ай)*

— І ведаеш, — працягвала Ганна, — праз пару дзён мы можам пераходзіць жыць у сваю хату.

Конрад маўчаў, не выяўляў ні радасьці, ні зьдзіўленьня ад такое навіны. Ганна бачыла, што твар ягоны перастаў быць шчасьлівым і радасным, стаў задумлівым, заклапочаным.

— Ты незадаволены?

— Старыя пакрыўдзяцца. Яны шчасьлівыя мець Лявончыка ў хаце, хваляцца ім перад людзьмі...

— Але-ж мы не на край сьвету йдзем, будзем тут блізка ад іх. Бачыш, я дамовілася ў школе працаваць. З мае хаты да школы ўсяго хвілінаў сем хады вуліцаю, а з хутара гадзіну добрую згубіш, асабліва калі дарогу ў лесе й полі сьнегам завее ці Нёман разальлецца. — горача даводзіла сваё Ганна.

— Разумею, — мякка сказаў Конрад. — Табе хочацца перайсьці жыць у сваю хату, каб быць самой са мною й Лявончыкам. Ці ня праўда? Прызнайся.

— Ты згодны перайсьці?

— Раней ты прызнайся.

— Шчыра? Добра, я мару застацца з табою й Лявончыкам.

— Тады я згодны, бо больш ад усяго ў жыцьці кахаю цябе. І калі ты ўважаеш, што так будзе лепей для нашае сям'і, цешышся, дык і я цешуся, — згадзіўся й зноў павесялеў Конрад. — Адно, скажы мне, як ты здолела перакаанаць Аўдолю звольніць хату для нас?

— Добры чалавек дапамог. Ведаеш — хто?

— Хто?

— Не нездагадаешся ніколі. Трахім Кухта.

— Як ён тут апынуўся? Я чуў, што ён хаваецца ў Лідзе. Добра падумаўшы, яму ў Туравічах небясьпечна й паказвацца. Не адзін мой бацька, але й іншыя людзі тут зуб на яго маюць.

— Ён зрабіў на мяне ўражаньне зычлівага чалавека.

— Трахім — не благі чалавек, але я ведаю яго аддаўна. Ведаю, што ён ніколі нічога так сабе ня робіць. Ці я, ці ты яму чымсь спатрэбіліся. У бліжэйшы час мы пра гэта даведаемся. Павер мне.

***(Працяг будзе)***



*Міхась Кавыль.*

# Непакорныя

*(Працяг. Пачатак глядзі ў №24 "Б. Д")*

**19**

Няхэнтнік месца перамен,
Ішоў ад дому, ці дадому,
Трызьніў Алесь: "У Менск, у Менск,
У горад стольны, невядомы.

Купала там, Дубоўка, Колас,
Бядуля, Пушча, Маракоў...
Краіны роднай звонкі голас,
Што быў задушаны зь вякоў.

Пачуць, пабачыць... Часу крок,
Узьвівы дум, надзеі Цішы
Саўю ў прыгожых слоў вянок
Для "Маладняка", а мо й "Узвышша"...

"О, мары, мары, дзе ваш мёд?"
Казаў даўно вялікі Пушкін.
На канцавосьсях вечны лёд,
Там не пачуеш песьняў птушкі.

Гэтак і ў тым "Маладняку":
Сядзяць Пякучы й Кучаравы;
Паціснуць ветліва руку,
Калі савецкі лад праславіш.

Калі-ж міноры зазьвіняць,
Па рызыканта сьмелым сьледу
Сэксотаў пусьціцца ганьня...
Пра гэта наш гэрой ня ведаў.

Ня ведаў ён пра "страшны гмах",
Дзе беларус цярпеў і гінуў,
Дзе "чорны воран", пекла птах,
Крывёй пратух і дамавінай.

Ня ведаў шмат чаго Алесь,
На ўсё глядзеў дзяцінна-чыста;
Яму здаваўся сьвет увесь
Сугуччам песьняў урачыстых.

**20**

Марнеў у роспачы ня раз.
А ў тую ноч, перад ад'ездам,
Прысьнілася: ў балоце ўграз,
Вылазіць стаў — сарваўся ў бездань.

А там: "Чысыцілішча душы", —
Бялеюць словы ў цёмным куце.
— Карнач, прышэльца запішы!..
Шкілеты крыкнулі: "Ратуйце!"

Людзей, што ў бочцы селядцоў,
Ляжаць пад нарамі й на нарах,
А Спэц, начальнік "подлецов",
Чытае вырак: "Сьмерцьцю кара..."

Крычаць русалкі на вадзе:
"За што страляеце сыночкаў?"
Карнач *) Алеся дзесь вядзе
І шэпча ў вуха: "Эх, браточак,

Ты ня дрыжы, ня блытай крок:
Вяду цябе не да растрэлу..."
А сам націснуў на курок,
І бездань громам загрымела.

Алесь угору паляцеў
Ад хвалі выбуху. Той выбух
Змахнуў з вачэй прывідаў цень,
Сапхнуў з грудзей цяжкую глыбу.

Убачыў маці на каленях
Прад абразамі у куце.
Ён ведаў: матчына маленьне —
Яму жаданьне шчасьця, ўцех.

Калі паднеслася з зямлі,
Алесь паведаў сон нядобры.
Трывога й жах яе згнялі,
Казала, глянуўшы на вобраз:

"Хоць гэта, можа, й забабоны,
Але я веру ў сны-знаменьні.
Мне сьніўся ў небе крыж чырвоны,
Калі твой бацька ў утрапеньні

Зьбіраўся ходацца з гарманцам.
Узяў гармонік ён з сабою.
Казаў: "Прад боем трэ жагнацца,
А я зайграю перад боем..."

Ці йграў, ці не, ды не вярнуўся...
І ты — адна ў мяне уцеха.
Я за цябе чамусь баюся,
Было-б мо лепш, каб ты ня ехаў?

Часы нядобрыя насталі:
Калгасы нейкія прыдумаў

*) Карнач — каравульны начальнік.

Той у Маскве, разбойнік Сталін,
Тварэц нявольніцтва і глуму.

Людзей хапаюць, высылаюць...
За што, пра што? Ці-ж гэта жарты?
А нават, кажуць, і страляюць...
Сапраўды ехаць лепш ня варта."

Алесь сядзеў, кудлачыў голаў,
Быў у вялікім непакоі.
Перамагаючы свой сполах,
Сказаў, каб маці супакоіць:

"Мама, ня бойцеся. Кастрыцу
Я ня шпурляў нікому ў вока.
І ня шпурну. Буду вучыцца.
Хачу пазнаць я сьвет шырокі.

Пазнаць сябе. І стаць паэтам.
Пісаць пра долю і нядолю...
Дык, хто-ж асьмеліцца за гэта
Мяне хапаць? У нас-жа воля...

А сон?.. Як кажа пагаворка,
Лёс не абыйдзеш, не аб'едзеш.
Мой лёс асьвеціць мая зорка,
Што з Богам лучнасьць мая недзе ..."

Перахрысьцілася Марыля,
Нібы канчаючы малітву,
І на пазыцыях бясьсільля
Усё-ж хацела выйграць бітву:

"Сынок! У Бога поўна працы.
За ўсім і ён не дапільнуе.
Самому трэ асьцерагацца,
Тады й няшчасьце пашкадуе.

Твой сон, нядобры сон, сыночак.
Калісьці ўспомніш маё слова:
Як крыжык той, твой сон прарочы,
І збудзецца... Абавязкова..."

На тым і скончылі гамонку
Пад абразамі ў сьветлай хаце.
Узяўшы ў мыцельні даёнку,
Пайшла даіць карову маці.

21

"Гэй, вятры, марш паходны іграйце,
Каб да мэты дайсьці, не спаткнуцца!"
Разьвітаўшыся словам "бывайце",
Ішоў гэрой наш на станцыю ў Слуцак.

За плячыма ня торба, а крыльлі,
Сундучок у руцэ, бы пярынка.

Думкі лёталі лёгкай "кадрыляй",
Бы скакала наўкол вечарынка.

— Гэй, дзяцюк, ты далёка дзе крочыш?
Калі ў Слуцак, садзіся, падкіну!..
— Так, у Слуцак... — І зьмералі вочы:
Конь дабротны... Са скуры ляйчыны...

Не стары яшчэ дзядзька на возе
І дзяўчына, зусім маладая.
Вельмі рэдка хлапцу ў дарозе
Шчасьце гэткае трапляе.

Усьміхнулася ветла дзяўчына,
Як Алесь ля яе прызямліўся.
Гаспадар яго вокам акінуў,
Кашлянуў у кулак, адхіліўся.

Доўга ехалі польнай дарогай,
Падкідала, трасло ў калянах.
З разьвітальнымі сумам, трывогай
Жураўлі хмары кроілі клінам.

— А ты чый будзеш сам ды адкуль-жа?
— Я, Лучына Алесь, з вёскі Ціша.
— Мы Шарупічы... Значыцца, з Вішань.
А дачка, вось, малодшая, Юля.

— На кірмаш вы ў Слуцак напэўне?
— Не, далей трошкі... Ў Менск, па навуку.
— Што я чую? А я думаў, пеўня
Везяце прадаваць... Дай мне руку!

Павіншую й мяне павіншуеш:
Я таксама у Менск, у сталіцу.
— Тата, чуеш?
Будзем разам з Алесем вучыцца.

— Добра! Добра!.. І ў школе той самай?
— Я у Тэхнікум Пэдагагічны.
— Імя Ігнатоўскага?.. Мама!
Гаспадар на каня нокнуў зычна.

Конь трусіў спакваля бяз супынку,
Васілінкі даўно прамінулі.
Грызучы канюшыны сьцяблінку,
Думы сьветлыя песьціла Юля.

А Алесь яе цёплую руку
Паціскаў, адпускаў, ціснуў зноўку...
Увіхаліся сэрцы іх грукаць.
Запытаў гаспадар: "Што-ж вы змоўклі?"

А Алесь: "І бяз слоў зразумела:
Весялей стала жыць, Сталін кажа."
Крыва глянуў Шарупіч, і белы
Твар, здалося, пакрыўся сажай.



— Я ня ведаю, што ты за птушка,
Але бачу — высока лятаеш.
А скажы, праз іголчына вушка
Слон пралезе, як нітачка тая?

— Я ня майстра разгадваць загадкі,
Гаварэце прасьцей, зразумела.
— Бачыш, конь мой, як слон, сыты, гладкі?
Воз на восях зялезных, а цела

Ня ізрэбная лашчыць кашуля,
І ў кішэні ня грош, а чырвонцы.
Я ня злодзей якісьці, ня шулер —
Я, што конь мой, цягучы бясконца.

Ленін што нам казаў?
— Багацейце...
— А што Сталін нам кажа?
— Што й Ленін...
— Дудкі, брат. Сталін мае на ўвеце

Жабракоў, што паўзуць на каленях.
Абрасьце хто кулацкаю тлушчай,
Хто ня ўлезе ў жабрацкае "вушка",
Той з сібірскай пазнаецца пушчай,
Будзе сыты з карэньняў юшкай.

— Праўда ваша... Адна толькі "коска":
Сталін — гэта-ж Ленін сягоньня.
У іх адна і душа, і костка.
На тых самых едуць конях.

— Калі-б Ленін быў жыў, супраць НЭП-у
Не паслаў-бы сто тысячаў хіба?
— Што-ж, па вашаму, Ленін — Прышчэпаў?
У вас бухарынскія перагібы...

— Хто Бухарын? Смаркач галапузы.
Бяз бухарства мне тут і пагрозы!
Не дазволю мне нэрвы тузаць!
Згінь з вачэй!.. Вон з чужога воза!

— Што вы, тата?..
— Пакінь мне тут таткаць!
Я для ўсякіх такіх не рамізьнік.
Запыніў ён каня злоснай хваткай.
Скочыў з воза, паправіў намызьнік,

Пачакаў, пакуль госьць убярэцца,
Сеў на месца, напружыў ляйчыны.
У Алеся затрэслася сэрца
Ад абразы бяз ведай прычыны.

Конь рвануў... Затарахталі колы.
Дзесь сабака візгліва загаўкаў.
Абхапіўшы рукамі голаў,
Стаяў Алесь, як зьбянтэжаны Саўка.

22

— Вось, і Менск... Добры дзень, мая мара!
Ты такі-ж прыгажун, як я й высьніў.
Праўда, гмахі ня лезуць на хмары
І гудкі ня рыкаюць лішне.

Бляхай крыты дамы, чарапіцай.
Вуліц безьліч, ня ўбачыш канца ім;
А трамвай, бы стаеньнік імчыцца
І зьвініць, і шуміць шархунцамі.

Між слупамі драты, як цымбалы,
А галосьнікі маршы іграюць.
Як у лесе на сьвята Купалы,
Ты стаіш у каменным гаі.

Нібы Случ, брук у промянях зіхціцца,
І плывуць хвалі жыта ў палетках.
Можа тут, сярод тых камяніцаў,
Я знайду сваю папараць-кветку?

Ўсхваляваны, да сьлёзаў шчасьлівы
Спакваля па Савецкай пакрочыў;
На сустрэчных мянчанаў пытліва
Паўзіраў — разьбягаліся вочы.

То-ж былі гарадзкія, ня то што
Ён, у змазаных ворвалам ботах.
Праўда, вопратка й іхняя коштам
Не фасоніла: ўсюды бядота.

"Рэвалюцыі трэба ахвяры..."
І прыпомніў Шарупіча, Юлю...
Сонца голаў схавала за хмары,
Сундучок пачаў пальцы муляць.

У другую ўзяў руку — ня цяжкі.
І пайшоў, паглядаў на вітрыны.
Дом Пісьменьніка — хатка із казкі,
Толькі што не на ножцы курынай.

Чамаданчык паставіў ля ўходу
І прысеў на хвілінку з мэтай:
Глянь тут колькі снуецца народу,
Можа, ўбачыць якогась паэта.

Прасядзеў з паўгадзіны з гакам, —
Меў даволі вольнага часу —
Прыглядаўся да розных гулякаў,
Ды ня ўбачыў тубыльца Парнасу.

І ня дзіва, бо-ж, ведама, творцы —
Мастакі, музыканты, паэты —
Любяць з Музай сядзець у каморцы,
А ня швэндаць па месьце бяз мэты.

А яшчэ ў цягніку шэпт падслухаў:
“Пасадзілі Дубоўку і Жылку,
Адамовіча, Пушчу,.. Па вуху,
Б'юць і ў лоб за нязгоду, памылку...”

— Ну, нічога. Ня ўсіх... Яшчэ ўбачу,
Пазнаёмлюся, пэўне, з тым-гэным.
І, смакуючы прылую ўдачу,
Зноў пакрочыў у ценю паўз сьцены.

Вырас комін Эльводу *) ў даліне,
Мост над рэчкай, крывою... “Няміга?..
Можа, Сьвіслач?..” “Гракі на галіне
Заглушалі трамвая скрыгат.

Пад узгоркам палац, ды і толькі:
У два паверхі будынак, бялюткі,
Не далічышся вокнаў тых колькі,
А сінеюць, бы “вочкі Анюткі”.

Брама сьвежаю хварбаю пахне.
На замку. Але брамка — насьцеж.
На двары ні брахне, ні кудахне.
Белпэдтэхнікум... Плакаць ад шчасьця.

У калідоры студэнтаў бязьліку,
Шум і гоман разнагалосы...
У куце, каля люстры вялікай,
Уладкоўвала дзеўчына косы.

Мастака вокам дзеўчыну зьмераў:
Ножкі зграбнасьцю кроў скалыхнулі.
Хаця ведаў, што ўбачыць, ня верыў,
Што так хутка спаткаецца зь Юляй.

Думаў перш не чапаць, прайці міма —
Яшчэ крыўда на бацьку кіпела —
Ды спаткаўся ў люстэрцы з вачыма,
Ад якіх сэрца ў пяткі дзесь села.

Вочы Юлі — пралескі, вясьнянкі,
Бровы — ластаўкі чорныя крыльля,
Косы — ветак пшаняных вязанкі,
Плечы золатам мягкім пакрылі.

У люстэрцы убачыў ён сонца:
Усьміхнулася Юля Алесю...
Крутанулася спрытна... Увесь ён
Нейк абмяк, разгубіўся бязконца.

І стаяў, бы нямы, нярухома,
Як той слуп тэлефонны ўсёроўна;
Словы ў глытаўцы зьбіліся комам,
Уздыхнулася з цяжкасьцю поўнай.

— Што так цяжка? Ня рады спатканьню?
— Шты ты, Юля, чаму-ж я ня рады?

*) Эльвод — электрастанцыя.

Ды абразы мяне вельмі раняць,
Не магу сам сабе даць я рады.

Юля сьціснула вусны, як вішні,
Скроняў бель заірдзела зьнянацку;
І, зірнуўшы наўкола увішна,
Запытала: “Злуешся на бацьку?”

— Так, злуюся...
— А й ты вінаваты...
З тым Бухарынам... Тата гарачы.
Ён у Леніна ўверыў... Наш тата...
— Ён кулак!..
— Ты мяне аздачыў!..

Выбачай, я ня маю больш часу!..
І пайшла. Моцна грымнулі дзьверы.
“Зьліквідуем кулацтва, як клясу!” —
На сьцяне галасіла папера.

Стала сумна Алесю. Бы хваля
Із грудзей падкаціла да дыху.
— Пачакай, мая любая краля,
Маю час астудзіць тваю пыху...

23

Граніт навукі грызьці ня цікава,
Калі ў мазгах трашчыць тая самая
“страва”:

Івана Грознага апрычнікі,
Сацыялістычная Кастрычніцкая,

Галіфэ, Мураўёў, Ленін, Сталін...
Былі ў хлюпоціне праталінай

Антона Лёсіка словы
Пра назоўнікі, дзеясловы;

Алесі Александровіч размовы
Пра Купалу і брата твор новы...

Алесь мог слухаць бясконца
Нават пра паскудныя “Цені на сонцы”,

Калі шмат хто не жадаў слухаць,
Як зайцы натапырвалі вуха:

Ці не працюпкае дзед Лабанок,
Ці не задзілінькае званок?..

— Дзінь-дзінь-дзінь...
— Га-га-га!..
— Увага!.. Увага!..
Дзе там!..



Як на пажар, лятуць лабатрасы
Із клясы.

Алесь ня зь імі:
Ня любіў нарушаць дысцыпліну;
Ён ня бег на “абы” за другімі,
А выседжваў хвіліна ў хвіліну.

У сабе выпрацоўваў паважнасьць
І павагу настаўніка, сябра;
Быў зьмаленства сьмелы, адважны,
Ды нікога ня браў за “жабры”.

А яго колькі раз хапалі
Аднагодкі, як пасьцілі коні,
Ды ляцелі, як шумныя хвалі
З валуна, на зялёнае ўлоньне.

Рызыкантаў гарачы выбрык
Ня прываблівaў і ня трывожыў;
Пазьбягаў размалёваных “выдраў”,
Захапляўся усім прыгожым:

Воч блакітам, чароўнай усьмешкай,
Словам ласкавым, думкаю сьвежай...
На Парнас уяўлялася сьцежка
Без калдобінаў і без межаў.

Усё было і цікава, і новае.
Неразлучны Алесь быў з кніжкай,
Дзе мастацкае княжыла слова,
Ў празе ведаў ня ведаў зьніжкі.

24

Дні бурхліва ішлі. Ў калідоры
Не спаткаў Алесь Юлю ні разу.
Ведаў, дзе яна, ў клясе каторай,
Ды ня мог нейк рашыцца адразу,

Бяз прычыны пайсьці, прывітацца,
Папрасіць за “кулак” прабачэньня.
“Закаханым ня грэх паламацца,
Хоць ламаньне — самавысьчэньне.”

Доўга ён афарызм, нібы нэктар,
Прыкладаў да душэўнае раны,
А ня ведаў, што Южык, дырэктар,
Ужо пра Юлю паінфармаваны,

Што Шарупічы — “кулакі”...
Няма месца нідзе для такіх,

Сацыяльна-варожых,
Для уладаў бязбожных.

Але Юля ня лыкамі шыта,
На забойчы загад не чакала,

Усё зрабіла “шыта-крыта”,
Калі ліст ад сястры дастала:

*“Юлячка, дарагая сястрыца!
Мама наша ў Слугы хацела ўтапіцца,
Як даведалася, як сказаў тата,
Што ўсё наша, і зямлю, і хату,
Забяруць бальшавікі,
Бо мы — “кулакі”...
Нас вышлюць у Сібір, ці яшчэ нядзе.
Тата сказаў, ён нікуды не паедзе,
Лепш у лес пойдзе да зьвяроў лютых,
Як у тую Сібір на пакуты.
Мама страціла розум і Чорту Міколу
Расквасіла сякерай голаў.
Ён прыйшоў, каб нас на станцыю адвезьці.
Маму забралі, павезьлі дзесьці.
Мы з татам уцяклі із дому.
Дзе мы зараз, толькі нам вядома...
Ты старайся вугыцца. Духам ня падай.
Упадзе, дасьць Бог, мардэрцаў улада.
Мне і тату гаста сьніцца
Нейкая недалёкая граніца...
Зразумела?.. Да спатканьня!
Абдымаем і цалуем!*
*Тата. Маня”*

Пасьля гэтакіх навінаў
Доўга плакала дзяўчына.

“Значыць — ворагі народу...
Няма долі ўсяму роду.

За бацькоўскую крамолу
Дзецям вузенькае кола:

Ім, “праклядцем закляймёным”, —
Бяспрытульнікаў калёны...

У пэдагогі шлях зачынен.
А ў тэатры, ў мэдыцыне?

Можа, там ня вельмі сочаць
І пашчасьціць нейк праскочыць?”

І Юля з развагай такою
Белпэдтэхнікуму памахала рукою...

25

А гэрой наш нічога ня ведаў,
Не сьпяшаўся пабачыцца зь Юлей.
За сваю непасьпешнасьць, вярэду
Мазгавеньку думкамі зьмуляў.

Што Алесь перажыў, перадумаў,
Як уведаў, што Юля прапала.

Разрывалася сэрца ад суму,
Апякалася роспачы палам.

Першы раз ухапіла за сэрца
Незнаёмая сіла каханьня,
А з тэй сілай прыйшло памерацца
Нечаканае гора растаньня.

Пераносіць лягчэй зь некім ростань,
Калі ты ня віноўнік здарэньня.
Але-ж тут зразумела і проста:
З "кулака" пачалося гарэньне...

Праўда, ён ня выказаў пагрозы,
Толькі ляпнуў дурніцу пры Юлі.
Ці-ж Лучына, як Паўлік Марозаў,
Гада чорнага ў сэрцы прытуліць?

Не і не, і ніколі, ніколі,
Каб жыцьцём заплаціць давялося,
Ён ня стане ў мярзотніка ролі
На кагосьці уладам даносіць.

Род лучынаў ня ведае здрады,
Азіяцка-цыганскай прадажы.
Дабрадзейнасьці, ласкі, спагады
У гэтым родзе дух Боскі княжыў.

І Алесь наш із чыстай крыніцы
Зачарпнуў тыя Боскія рысы.
Непакорны прачнуўся ў ём рыцар,
Эратызму ўспыхнуў прысак.

А Эрот мо крыху не па-Боску
Тнуў акорды каханьня бяз сьмеху:
У вёску Вішні, Юліну вёску,
Шукаць Юлю Алесь паехаў...

**26**

Ноч цалюткую грукалі колы
І замоўклі ў Слуцку ўраньні.
З цягніка зьлез Алесь невясёлы:
Не надзеяўся зьдзейсьніць заданьне.

Сам сабе ён заданьне паставіў:
Адшукаць, што-б ні стала Юлю.
І ў рашучай сваёй паставе
Твар падставіў буры разгульлю.

Запалонены думкаў улевай,
Пралятарскаю крочыў паволі,
З Пралятарскае збочыў налева:
Замагільная вывела ў поле.

Няпрыветліва поле спаткала:
Мокрым сьнегам, пранізьлівым ветрам.

Із Слуцку ў Вішні ладны кавалак,
Больш за дваццаць кілямэтраў.

Паў-бяды, калі-б вецер ня ў вочы,
Каб халат хоць-бы трошкі цяплейшы.
"Трэба будзе дадому заскочыць,
Цяжка крочыць нічога ня еўшы.

А што маме скажу, як спытае?
Адкажу — закахаўся па вушы.
А яна-ж, як анёлак, сьвятая,
Але трапіла ў "грэшныя душы"...

Упякла, ня прышла на заняткі,
І ў мяне ў сэрцы бухаюць хвалі
Нечаканай гэтай загадкі...
Знаю, мама мяне не пахваліць..."

Ногі мерзьлі, ступалі нязпэўна,
У каляіны зрываліся з храпаў.
Ні душы, ні сабакі, ні пеўня,
Толькі буры калючая лапа.

Дзесь у поўдзень дабраўся да лесу
Да знаёмага Цёмнага Бору.
І зрабілася млосна Алесю
Ад халепы, ад думак, ад гора.

Абясьсілены і адубелы,
Да сасны прытуліўся плячыма.
Як дзяўчаты ў сукенках белых,
Мітусіліся перад вачыма

На палянцы шырокай бярозкі...
Нібы пошчак, ці гоман пачуўся,
А за тым нейчы голас рэзкі
Крыкнуў "Стой!" І Лучына ачнуўся.

Як рукою, змахнула дрымоту:
Перад носам зазьзяла сякера...
За сякерай — кажух, шапка, боты...
І Лучына вачам не паверыў:

Перад ім быў Шарупіч... Пякуча
Паласнула маланкай прадчуцьце:
Засячэ, засячэ... Думкі кучай:
"Што рабіць? Нападаць, уцякаць ці?.."

Абарваў яго думкі Шарупіч:
"Весялей стала жыць, кажа Сталін?..
Брэша, гад! Нас брахнёю ня купіць:
Разумнейшымі трошкі мы сталі."

Размахнуўся сякерай шырока
І загнаў па абух у бярозу:
Уздыхнуў з хрыпатою глыбока
І сказаў, бы лагодзіў пагрозу:



"Пушча цёмная, лес — мая хата,
А суседзі — ваўкі ды мядзьведзі...
Ашчасьлівіў Грузін праклятый:
Кулака у Шарупічу ўгледзеў.

А ня бачыў крывавы мардэрца,
Як Шарупіч вылазіў із скуры,
Каб набыць начоўкі й цабэрцы,
Каб вяліся каровы і куры..."

Паўзіраў на Алеся пільна,
Пяцярнёю паскроб каля вуха
І спытаў з халадком замагільным:
"Хто паслаў па сьлядох маіх нюхаць?"

Скалануўся Лучына ад злосьці,
Ды сказаў, як мага, лагадней:
"Вы мяне прынялі за кагосьці,
Я ня крочу дарогай нягоднай.

Я дахаты іду... Вунь, за борам,
Наша вёска. Ізь Менску прыехаў.
А чаго? Прызнавацца нейк сорам,
А для вас будзе дрэннай уцехай..."

Ад сасны адхіліўся рашуча,
Каб пайсьці, але мусіў спыніцца:
У арэшніку трэснула суччa...
І Шарупіч спалохаўся, быццам.

Ён з падозрай зірнуў на арэшнік,
Ірвануў із бярозы сякеру
І стаяў, як над ямаю грэшнік,
Брат загнанаму дзікаму зьверу.

Ды пачуўся ў арэшніку голас:
"Тата, дзе вы? Хадземце адсюля!.."

Быццам сьнег загарэўся наўкола,
І Алесь закрычаў: "Юля!.. Юля!.."

Памыліўся Алесь: гэта Маня,
А ня Юля клікала бацьку.
І Шарупіч сказаў на растаньне:
"Ты душу адчыніў мне зьнянацку.

Я лічыў цябе... Бачу, ня тое.
Ды, чаму ты тут Юлю шукаеш?
Юля ў Менску. Ты нешта ўсё-ж тоіш...
Не таі, бо сябе ашукаеш."

— Юля ў Менску? А я думаў дома.
Юля кінула Тэхнікум, зьнікла...
— Гэта — навасьць... Я ёй павядоміў,
У лісьце ўсю бяду сваю выклаў.

А бяда ў мяне... Чым яе зьмераць?
Не пралез я праз Сталіна "вушка"
І блукаю вось сьцежкамі зьвера,
І міліца ловіць на машку...

Не злавілі пакуль што. Эх, братка!
Прабяруся, дасьць Бог, заграніцу...
А, вось, зь Юлей якаясь загадка.
Яна кінула, кажаш, вучыцца?..

Што з ёй сталася? Божа ласкавы,
Пакараў нас, караеш за што так?
Выцер сьлёзы рукою каравай,
Паглядзеў на Алеся з пяшчотай,

Папрасіў: "Калі Юлю пабачыш,
Дык скажы, шты мы з Манею жывы.
Маці згінула... Ну, хай ня плача:
Прыдзе час, і казьба будзе й жніва..."

— Тата, пойдзем! — Гукнула зноў Маня.
І Шарупіч Алесю даў руку.
Праз вятроў шугату, завываньне
Чуў Алесь свайго сэрца грукат.

***(Працяг будзе).***

---

**15 канфэрэнцыя Міжнароднай Антыкамуністычнай Лігі**

9 сьнежня 1982 г. у Токіё (Японія), распачала сваю працу 15-ая штогодняя Канфэрэнцыя Міжнароднай Антыкамуністычнай Лігі.Галоўнай тэмай канфэрэнцыі ёсьць — выпрацоўка глябальнай стратэгіі захаваньня свабоды на зямной кулі. Аснаўны даклад меў старшыня Антыкамуністычнай Лігі Паўночнай Амэрыкі гэнэрал-маёр Джон Сінглоб, быўшы галоўнакамандуючы амэрыканскімі вайскамі ў Паўднёвай Карэі.

Прэзыдэнт Рэгэн прыслаў канфэрэнцыі тэлеграму, ў якой гаворыцца: "Я з прыемнасьцю шлю мае гарачыя прывітаньні тым, хто сабраўся на 15-ай канфэрэнцыі Міжнароднай Антыкамуністычнай Лігі".

Міжнародная Антыкамуністычная Ліга аб'ядноўвае 89 нацыянальных арганізацыяў, 13 міжнародных арганізацыяў і 10 падтрымліваючых яе камітэтаў. На канфэрэнцыю прыехала 350 асоб, у тым ліку старшыня Беларускага Кангр. К-ту Амэрыкі інж. Іван Касяк.

---

**ВЫЙШЛІ КНІЖКІ**

**Янка Купала і Якуб Колас. 1882 - 1982. Вянок успамінаў пра іх.** ЗША. 1982. 81 бб. Укладнік і рэдактар **А. Калубовіч.** У кнізе — успаміны пра **Я. Купалу** і **Я. Коласа** М. Шылы, І. Рытар, А. С., А. Калубовіч, М, Сяднёва й М. Шчаглова (Калубовіча).

**Аўген Калубовіч. "Айцы" БССР і іхны лёс.** Кліўлэнд. 1982. 72 бб.

Гэта нарыс праўдзівае гісторыі паўстаньня БССР з дадзенымі пра лёс ейных творцаў.

# Сусьветная Клясыка па - Беларуску

*(Пра пераклады і выданьні Яна Пятроўскага)*

## I. ФІЛЁЗАФ СУСЬВЕТНАЙ ДУШЫ, ПЛАТОН

Нават цяжка ўявіць, як адзін чалавек здолеў перакласьці і выдаць собскімі сіламі ў эміграцыйных умовах цэлы стос кніжак старажытнага грэцкага філёзафа Платона ды некаторых іншых думаньнікаў. Пачынаючы з 1967 г. і да сяньня д-р Ян Пятроўскі выдаў у собскім перакладзе з грэцкае мовы, з сваімі ўводзінамі і камэнтарамі, аж шэсьць вялікіх кніг твораў Платона, два тамы вытрымак пад назовам ЛЕПШЫЯ ДУМКІ ЧАЛАВЕКА, кнігу РОЗДУМАЎ — філязофскіх разважаньняў рымскага імпэратара Марка Аўрэліюса, дзьве брашуры ў собскім перакладзе: *Тэалёгія грэцкіх думаньнікаў* Вернера Егера і ЎНІВЭРСАЛЬНАЯ ДЭКЛЯРАЦЫЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА. Акрамя таго, выйшла кніжыца самога Яна Пятроўскага — СТАРАЖЫТНАЯ ГРЭЦКАЯ КЛЯСЫКА. У дадатак яшчэ інфармацыйны журнальчык АНАГРАФЫ ды рыхтуецца да друку НЯМЕЦКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК. І гэта робіцца пры поўнай абыякавасьці нашай эміграцыі да такога вялікага пачынаньня. За ўсе гады выдавецкае дзейнасьці Яна Пятроўскага наш друк, як вады ў рот набраў, маўчыць. Аніводнае рэцэнзіі на працы Пятроўскага ў друку не зьявілася. Відаць, не дарасьлі яшчэ, каб ацаніць належным чынам і заахвоціць да далейшае дзейнасьці. Гэта каб у іншай эміграцыі, дык выдатны культурны чын Яна Пятроўскага атрымаў-бы ўсеагульнае вызнаньне і ўдзячнасьць усіх суайчыньнікаў.

Выдавецкая дзейнасьць у эміграцыі была распачатая Янам Пятроўскім яшчэ ў пяцідзесятых гадох, калі ён набыў лінатып і распачаў друкаваць кнігі яшчэ ў Сыракюзах у штаце Нью Ёрк. Тады, побач з выданьнем часапісу СЬВЕТАЧ ХРЫСТОВАЕ НАВУКІ ды іншымі друкамі, друкарня Яна Пятроўскага надрукавала першую кнігу ГАРАВАТКІ К. Акулы, зборнік апавяданьняў і аповесьцяў Уладзімера Глыбіннага НА БЕРАГОХ ПАД СОНЦАМ і распачала рыхтаваць да друку пераклады твораў Платона. Аднак тая плённая друкарская дзейнасьць была часова перапыненая пераездам Яна Пятроўскага ў Флярыду.

Але не марнаваў часу энтузіясты друкарскае справы. У Флярыдзе Ян Пятроўскі адраў аднавіў сваю друкарскую дзейнасьць. Дарма, што без лінатыпу, ён пачаў акуратна набіваць машынапісны тэкст на аркушы паперы, у межах рамы нумараваць бачыны праектаванае кнігі і гэткім чынам падрыхтоўваць для друку ў чужых друкарнях за добрыя грошы. Можна ўявіць сабе, колькі маруднае працы, акуратнасьці ўкладаецца ў гэтую чыннасьць, як часта прыходзіцца чысьціць машынку, берагчы набітыя тэксты ад абы якога забруджаньня. І трэба аддаць належнае працаздольнасьці Яна Пятроўскага: выданыя такім чынам кнігі выглядаюць нічым ні горш, чымся друкаваныя на лінатыпе. Чысьціня і чытэльнасьць іх першаклясная. Чытач, скажам, можа і не заўважыць, што апошняя, кагадзе выдадзеная кніга Плятона ПОЛІТЭЯ (1981 г.) мае ў сабе пяць разьдзелаў, набраных друкам (відаць, рабілася яшчэ ў часы, калі Пятроўскі меў свой лінатып), а апошнія пяць разьдзелаў ды ўводнае слова выдаўца ўжо надрукаваныя з машынапіснага тэксту. Гэта выдатная работа, што заслугоўвае адно пахвалы і ўшанаваньня. Пры гэтым хачу падкрэсьліць, што робіць яе адзін чалавек з жонкай. Гэта прыклад ахвярнага служэньня высокай культурна-нацыянальнай мэце, разам з тым — праява вылучнай рупнасьці і мэтанакіраванай працаздольнасьці.

Што тычыцца твораў Плятона для перакладу і выданьня, тут Пятроўскі праявіў неблагую абазнанасьць з усёй творчасьцяй гэтага выдатнейшага грэцкага філёзафа. З 23-х дыялёгаў бяссумніўных твораў Плятона, як і АПАЛЁГІІ САКРАТА, Пятроўскі вылучыў для выданьня найбольш тыповыя для кажнага пэрыяду філёзафа. Гэтак, з *раньняга* пэрыяду творчасьці Плятона, які прыпадае на час 90-х гадоў 4-га веку перад нашай эрай, Пятроўскі пераклаў і выдаў "Апалёгію Сакрата", "Пратагора" і першую кнігу *Політэі* (Гаспадарства). Яны вызначаюцца сакратаўскім мэтадам аналізу радавой існасьці разуменьняў і вызначаюць значэньне маральнай праблематыкі.

З *пераходнага* пэрыяду (80-я гады 4-га веку перад нашай эрай), адзначанага вучэньнем аб несьмяротнасьці душы і паэтычна-міталёгічнымі матывамі, па-беларуску выйшлі *Георгі, Мэнон, Іён, Гіппі Вялікшы.*

Нарэшце з пэрыяду *сьпеласьці* (70-60 гады 4-га веку перад нашай эрай) з твораў Плятона беларусы займелі такія важныя творы, як *Фелон, Банкет, Крыстон, Пармэніл, Політэя* (Гаспадарства). Гэта найбольш важныя творы, вылучаюцца канструктыўна-лягічным характарам, выказваньнямі Плятона аб катэгорыях дыялектыкі, спрэчкамі з сучаснымі Плятону філёзафамі, абгрунтаваньнем вучэньня аб ідэях, як самастойна існуючай субстанцыяльнай рэчаіснасьці, яны закладаюць падставы ідэалізму. Думкі аб прымаце (пераваже) сьведамасьці над быцьцём праводзяцца тут упорыста і безагаворча. Дарма, што ў творах гэтага найбольш плённага пэрыяду паэтычна-міталёгічныя матывы рэдкія. Але тут выразьней выступаюць галоўныя часткі філязофіі Платона, яго навука аб трыядзе: "адзіным", "розуме" і "душы", як і навука пра *космас*. Любоў да ідэі ў Платона становіцца падставай для ўсяе тэорі пазнаньня. У яркай мастацкай форме Платон маляваў узыход ад цялеснай любові (г. зн. — да асобных рэчаў і целаў) да любові ў сфэры душаў, а ад апошніх — у галіну чыстых ідэяў. Сынтэз любові і пазнаньня Платон разумеў як асаблівага роду ўтрапёнасьць і экстаз, калі пазнаньне ёсьць чыстая любоў, а любоў ёсьць чыстае пазнаньне. У міталягічнай форме гэтае пазнаньне пры дапамозе ідэяў трактавалася як успамін аб нябеснай радзіме душы, дзе гэтая душа ўспрыймала ўсялякую ідэю беспасярэдне твар у твар, калі пасьля перасяленьня ў грубую зямную рэчаіснасьць у ёй захоўваўся адно ўспамін аб ідэальным сьвеце, пры гэтым успамін, абцяжаны цемраю матэрыі. Але ідэя, паводле Платона, зьяўляецца падставай асэнсаванага існаваньня рэчы і ейнае структуры. Пры дапамозе тэорыі ідэяў Платон абгрунтоўваў тэорыю навукаў і клаў у іх падставу дыялектычны мэтад распадзелу адзінага на мноства, зводзіў мноства да адзінага і тым ужо ськідаў усялякі *дуалізм* (раздвоенасьць).

Памер артыкулу не дазваляе тут падрабязна гаварыць аб дыялекце Платона, якая дае сэнс і ідэю рэчы, як закон яе, ці, іначай кажучы, паколькі агульнае і абавязковае зьяўляецца законам для падначаленых яму адзінкавасьцяў. Аднак тут варта вылучыць платонаўскую так званую "мэту". Такой усеагульнай "мэтай" у платонавым творы *Політэя* (Гаспадарства) зьяўляецца дабро, што вынікае з падставаў ідэяльнага быцьця. У этыцы Платона тры дабрадзейнасьці — мудрасьць, мужнасьць і прасьветлены стан афектаў зьліваюцца ў адну суцэльную дабрадзейнасьць, т. ск. раўнавагу іх — справідловасьць. Гэтая навука Платона аб трох дабрадзейнасьцях, аснаваных на здароўі, прыгажосьці і самавітасьці душы, супрацьстаўлялася філязофіі Федона пра цела, як магілу душы. У *Політэі* Платон асноўным прынцыпам этыкі лічыць мудрую раўнавагу ўсіх чалавечых здольнасьцяў: цела выхоўваецца гімнастыкай, а душа — музыкай. У агульны прынцып дабрадзейнасьці ўваходзіць таксама і цела. Калі ў *Апалёгіі Сакрата* Платон трактаваў усялякую дабрадзейнасьць як веду, дык у *Банкеце* і ў *Фэдры* гэтая веда ўжо неадлучная ад любові, а ў *Політэі* Платон ужо не алучае яе ад цялеснага дабрабыту, а часам трактуе, як ўціхамiраны, мудры, упарадкаваны шчасны стан усіх натуральных чалавечых здольнасьцяў. І тут мы падышлі да вызначэньня значэньня для нашае беларускае палітычнае эміграцыі галоўнага твору Платона — ПОЛІТЭІ (Гаспадарства). Старажытны грэцкі мудрэц вучыць, што ў дзяржаве існуе тры станы: філёзафы, якія на падставе сузіраньня ідэй кіруюць дзяржавай, *ваякі*, што захоўваюць дзяржаву ад знадворных і ўнутраных ворагаў і *сяляне з рамесьнікамі*, якія падтрымваюць дзяржаву матар'яльна.

Платон таксама ўстанавіў тры формы праўленьня — манархія, арыстакратыя і дэмакратыя. Кажная зь іх мае дзьве формы. Манархія можа быць панаваньнем аднаго і можа быць законнай (цар) або гвалтоўнай (тыран). Арыстакратыя ёсьць панаваньне нешматлікіх і можа быць панаваньнем лепшых і горшых (алігархія). Дэмакратыя ёсьць панаваньне ўсіх і можа быць законнай ці беззаконнай, гвалтоўнай. Платон жорстка крытыкаваў усе шэсьць формаў дзяржаўнае ўлады. Ён высоўваў утапічны плян дзяржаўнага і грамадзкага ладу, калі цары філязофствуюць, а філёзавы царствуюць. Платон выказваўся адмоўна пра сярдзітую і неўтаймаваную чэрнь, плябеяў. Ён лічыў, што сапраўднымі кіраўнікамі могуць быць адно нешматлікія сузіральнікі ісьціны (праўды). Платон выклаў тэорыю грамадзкага і асабістага выхаваньня філёзафаў і ваякаў, падкрэсьліваючы важнасьць гімнастычна-музычнага выхаваньня апошніх.

Дарма што Платон сьцьвярджаў законнасьць грамадзкай няроўнасьці, аднак землярobы і рамесьнікі ў яго не рабы, але свабодныя людзі, філёзафы і ваякі не арыстакраты, але носьбіты і ператвараццелі ў жыцьцё агульнага ідэалу вечнай мудрасьці. Платон зьдзекуецца над тымі пыхлівымі, што пышацца сваім радавітым паходжаньнем. Нягледзячы на ўсхвальваньне паліцыйна-манархічнага ладу пэрыяду эллінізма, творы Платона даюць багатую спажыву розуму, які шукае адказу на пытаньне, якім павінна быць дзяржаўнае ўладкаваньне пасьля звароту ў вольную Беларусь. Разважлівы чытач бяспрэчна адкіне платонаўскую прапаведзь скасаваньня прыватнай уласнасьці, супольнасьці жонак і дзяцей, дзяржаўнае рэгуляваньне шлюбаў, грамадзкае выхаваньне дзяцей, якія не павінны ведаць сваіх бацькоў, і да гэтага падобныя ўтапічныя праекты.

Шмат павучальнага чытач знойдзе ў Платона ў сэнсе запазнаньня з ягонай эстэтыкай.

Пааводле Платона, стыхія прыгажосьці сыходзіць на рэчы і робіць іх цудоўнымі. Сьвет чыстай ідэі ёсьць сьветам вечнай прыгожасьці, і ён ляжыць па-за часам і прасторай. Унутраная ці жыцьцёвая сіла мастацтва ператвараецца у боскі першавобраз ці нябесную рэчаіснасьць, а знадворны і пачуцёвы ,бок асэнсаваны гэтым першавобразам, ператвараецца ў утрапёнасьць, жывога, сутокаю ідэі і матэрыі, іначай кажучы, зьліцьцё разумнасьці і задавальненьня, а ейным прынцыпам ёсьць *мера*. Прыстойнасьць і дабрадзейства — неабходныя ўмовы для прыгожасьці. Платон выганяў з свайго ідэальнага гаспадарства сумотную і застольную, буйную і п'яную музыку. Вызнаваў адно мужную і вайсковую музыку, як і мірна-дзейную ліру, да якое злучаў малітвы і пранікнёныя чалавечыя матывы. Аднак з гледзішча чыста паэтычнага мастацтва вышэй усіх грэцкіх паэтаў Платон ставіў Гамэра.

У 1970 г. Ян Пятроўскі разам з СЫМПОЗЫЁНАМ і ІЁНАМ выдаў і невялікі ГРЭЦКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК. Пазьней, у 1973 г. ён паправіў і дапоўніў той Слоўнік і выдаў у якасьці дадатку разам з чарговым томам ВЫБРАНЫХ ДЫЯЛЁГАЎ. Праца гэтая — піянерская ў замежнай беларускай лексыкаграфіі, ды не адно замежнай. Такога слоўніка, як і перакладзеных на беларускую мову твораў Платона, няма і на бацькаўшчыне. Таму гонар прыдбаньня намі такога духовага багацьця належвць сьціпламу, але ўпорыстаму працаўніку — Яну Пятроўскаму.

## II СКАРБЫ ЧАЛАВЕЧАЕ МУДРАСЬЦІ

У 1977 г. Ян Пятроўскі выдаў першы том свае кнігі ЛЕПШЫЯ ДУМКІ ЧАЛАВЕКА, а ў 1980 годзе дапоўніў тую кнігу другім томам. Паводле задумы ўкладальніка і перакладніка гэта мела быць свайго роду АНТАЛЁГІЯ афарызмаў і філязофскіх выказваньняў людзей сусьветнае культуры. Глыбокія разважаньні пра чалавека, ягоную прыроду, духовую існасьць, у чым палягае ягонае шчасьце й няшчасьце, клопаты душы і сэрца, дачыненьні да навакольнага сьвету і да Бога, веру ў дабро, ягоную свабоду і няволю, любоў і нянавісьць, жыцьцё і сьмерць заўсёды будуць цікавіць і хваляваць чалавека. Вялікі Тодар Дастаеўскі казаў, што каб усё жыцьцё вывучаць чалавека з ягонай складанай душою, дык можна было-б лічыць, што жыцьцёвы век чалавека не змарнаваны.

Ян Пятроўскі старанна адабраў і пераклаў на беларускую мову багата тых вартасных думак пра чалавека з розных крыніцаў сусьветнае філязофскае і мастацкае думкі, пачынаючы ад старажытных грэцкіх і рымскіх думаньнікаў, сярэднявяковых і навейшых часоў пісьменьнікаў, пры гэтым улучыў і шмат якіх нашых сучасьнікаў. Не пакінуў і ўсходняй мудрасьці, улучаючы старажытнюю індыйскую, кітайскую, пэрскую і іншую думку. Усе народы мелі сваіх мудрацоў і разумнікаў. Але, кіруючыся гэтым прынцыпам, укладальніку ня было патрэбы ўлучаць у лік лепшых думак чалавецтва колькіх нашых сучасьнікаў, якія ніякімі думаньнікамі не зьяўляюцца і чые цытаваньні ўкладальнікам думкі зьяўляюцца вельмі і вельмі плыткімі. Такім прыкладам можна назваць цытаты з разважаньняў Гальляша Леўчыка, Хведара Ільляшэвіча, І. Касяка, С. Глузмана, С. Кавалёва, І. Любачкі, І. Эрэнбурга, М. Кавыля.

Неяк ніякавата становіцца чытачу бачыць побач з волатамі думкі Арыстотэлем, Вальтэрам, Гётэ, Гогалем і Дастаеўскім, Кантам, Канфуцы, Руссо і Талстым прозьвішчы Ул. Мулявіна, Ус. Радзевіча, М. Сяднёва і аж надта ўжо часта цытаванага самога ўкладальніка. Нястача сьціпласьці тут балюча кідаецца ў вочы. І гэта таму, што Ян Пятроўскі ўголас у прысьвячэньні да першага тому *Лепшых Думак Чалавека,* якое ён назваў для прыданьня важнасьці замежным словам ІНВОКАЦЫЯ, залучае сябе да слаўнай Літоўскай традыцыі. Галоўнымі рысамі гэтых традыцыяў ён лічыць "прыроджанае імкненьне да філязофіі дзеля яе самое і бадай што фанатычную любоў да справядлівасьці". У сувязі з гэтым ён пералічае тыя імёны, якімі значыўся шлях гэтых Літоўскіх традыцыяў — Францішка Скарыны, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Льва Сапегі ды братоў Луцкевічаў. Сваёй прыналежнасьцяй да гэтае традыцыі Ян Пятроўскі ганарыцца і ўважае яе дарам Усявышняга, "з ласкі Нябёсаў". Я мяркую, што сапраўды вялікая Літоўская традыцыя нідзе не мяжуецца з самахвальствам і самаўлюбёнасьцяй, як не мяжуецца яна і з самаўніжэньнем ці самаадмаўленьнем. І адно толькі гісторыя пазьней мае права паставіць таго ці іншага нашага сучасьніка на ўзровень Вальтэра ці Канта.

Трэба аднак-жа з вялікім задаваленьнем адзначыць пераклады на беларускую мову шматлікіх урыўкаў з твораў сусьветнае літаратуры, а часам нават цалкам невялікіх твораў Бальзака, Віктара Гюго, Талстога, Тургенева і іншых. Гэтак, чытач знойдзе на балонках другога тому *Лепшых ДУмак Чалавека* выдатнае апавяданьне Льва Талстога "Колькі зямлі патрэбна чалавеку". Яно дае еміну для развагаў і спасьцярогаў тым з нашых суайчыньнікаў, якія ўжо занадта ганяюцца ў вольным сьвеце за матар'яльнымі каштоўнасьцямі, а нарэшце, пры канцы свайго жыцьця, пераконваюцца, што ўсё гэта было марным, а чалавеку зямлі трэба ня больш, як тры аршыны, гэтулькі як даўгі ён ад ног да галавы, як Пахому і была выкапана магіла работнікам.

Асабліва каштоўным зьяўляецца пераклад Янам Пятроўскім урыўка з твору Тодара Дастаеўскага "Арол" з "Мёртвага дому", у якім апісваецца, як выпускаюць на волю пакалечанага арла. Невялічкі абразок той, аднак, зьяўляецца апафэозам любові ўсяго жывога да свабоды ці волі. Але за што належыць вечная ўдзячнасьць Яну Пятроўскаму — гэта за пераклад і зьмяшчэньне ў другім томе *Лепшых думак галавека* выдатнага шэдэўра *"Вялікі інквізытар"* ў рамане*"Браты Карамазавы"*, перакладзены на сотні моваў народаў сусьвету, і аб ім існуе вялікая літаратура ў сьвеце. "Вялікі інквізытар" зьяўляецца вынікам шматгадовых роздумаў пісьменьніка пра лёс сусьвету і чалавецтва. Гэты твор выпакутаваны пісьменьнікам, усім ягоным жыцьцём. У ім ён закранае праблемы, якія хвалююць чалавецтва на працягу многіх вякоў, робіць спробу адказаць на кардынальныя пытаньні рэліі, філязофіі, пытаньні сацыяльнага ладу на зямлі. Гэта зьяўляецца квінтэсэнцыяй усяе творчасьці пісьменьніка, падсумаваньнем усіх ягоных пошукаў.

Вялікі інквізытар прымае ўсе тры спакусы, якімі д'ябал спакушаў Хрыста, і на падставе будуе грамаду. Узяўшы меч Кесара (г. зн. палітычную ўладу), ён ужывае гвалтаваньне і прымус і вымагае поўнай пакоры масаў тэакратычнай дзяржаве. Апошняя сутыкаецца з сацыялізмам у адмаўленьні Божага вобразу, паводле якога створаны чалавек. Адымаючы ў чалавека правы свабоднага выбару паміж дабром і злом, прыпадобніваючы яго да жывёліны, купляючы ягоную паслухмянасьць хлебам, прыгнечваючы яго цудам і тайнаю, царства Вялікага інквізытара канчаецца няволяю, а ў нашы дні яно заканчваецца сталінскім Архіпэлагам ГУЛАГА. У Дастаеўскага Вялікі інквізытар перамагаецца ціхім пацалункам маўчалівага Хрыста, які сымбалізуе вобраз пакорлівай, ціхмянай любові. Як кажа старац Засіма ў "Братах Карамазавых", ціхмяная любоў — "страшэнная сіла, з усіх самая магутная, падобнай каторай нічога няма ў сьвеце". Перад гэтай любоўю Хрыста здаўся нават перакананы дзевяностагодні упарты стары інквізытар. Заместа таго, каб пасласць свайго нявольніка на вогнішча (падзеі адбываюцца ў часы інквізыцыі), ён звальняе Хрыста. А пацалунак апошняга, як акт ціхмянай любові, "гарыць на яго сэрцы", робячы сваё ўзьдзяленьне на ахвяру ілжывай ідэі. Гэтак у гэтым невялікім творы гэніяльна ўвасоблена хрысьціянская ідэя пра Вялікую перамогу пакорлівай любові над усім ліхам у сьвеце.

Ян Пятроўскі ўпяршыню пераклаў гэты твор на беларускую мову, і апошні загучаў зразумелым і даступным для беларскага чытача. Агулам кажучы, пераклад зроблены няблага. Але ён патрабуе паважнай крытыкі і ўдакладненьня прынцыпаў, якімі мусіць кіравацца перакладнік з чужое мовы аа беларускую.

Сучасны мастацкі пераклад зьяўляецца галоўным сродкам азнаямленьня аднаго народу з другім, вымены літаратурных каштоўнасьцяў. Ён вымагае беражлівых адносінаў да аб'екту перакладу і аднаўленьня яго, як твору слоўнага мастацтва ў еднасьці зьместу і формы, у нацыянальнай і асобнай своеасаблівасьці. Задача перакладніка яшчэ ўскладняецца тым, што ён мусіць зрабіць твор на чужой мове фактам роднае культуры, разам з тым пакінуўшы яго творам іншага народу. Перакладнік мусіць пераўвасобіцца, увайсьці ў чужую літаратуру. Захоўваючы стыль чужое літаратуры, спэцыфіку нацыянальнай літаратуры, нават асаблівасьці мовы, зь якое ён перакладае, разам з тым зрабіць чужы твор цалкам зразумелым чытачу на мове перакладу і тым увесьці яго ў родную стыхію, зрабіць здабыткам роднае культуры. Перакладнік увесь час думае на роднай мове. На ёй ён дае новае вобразнае ўвасабленьне тэкста перакладу. Перакладнік адначасна бачыць сьвет знутры перакладнага твору і разам з тым глядзіць на гэты твор з боку. Адно гэтак ён здолее вычарпальна прасачыць думку аўтара, асэнсаваць асаблівасьці яго сьветаўспрыйманьня і ягонага стылю. Думка і слоўнае афармленьне тут зьліваюцца ў адзінае цэлае і твораць мастацкую рэчаіснасьць арыгінала. Перакладнік павінен стаць на ўзровень аўтара твору, ведаць ня менш яго, умець спалучыць дар аналітычнага думаньніка з дарам мастака слова. Гэта павінна быць сапраўдным перакладніцкім творствам.

У гэтых адносінах пераклад Яна Пятроўскага мае свае дадатныя бакі, як і хібы, пра якія тут мушу пагаварыць, каб была навука для нашае пачатковае школы беларускіх перакладаў у эміграцыі.

Ужо на першай балоне перакладу "Вялікага інквізытара" ўжываюцца сумніўныя словы, як "аснутыя" заместа "заснаваныя", "аняялы" заместа "анёлы", "аранял" заместа "архангел", "удыраная" заместа "уражаная" або "зьдзіўленая" расейская форма назоўніка "дыявал" заместа беларускага "д'ябл" або проста "чорт". Перакладнік ужывае слова "людзкасьць" у сэнсе "чалавецтва", калі яно значыць, аднак, "чалавечнасьць", рас. "человеч-

ность". І дзеля таго, што яно неаднокрадь паўтараецца, чытач атрымвае перакручаны ці перакрыўлены сэнс. А дзеля таго, тут сэнс мае несасрэднае дачыненьне да задумы аўтара, шкода вырастае да памераў недаравальных. Таксама няправільная форма слова "гарэзыя" заместа зразумелага чытачу слова "ерась"; "зьнічэўку" заместа "зьнячэўку", расейскае слова "смяение" перакладае як "зьдзіўленьне" заместа правільных — "зьбянтэжанасьць", "замяшаньне", "перапалох", "разгубленасьць".

Часам у перакладзе тэкст у два разы даўжэй, чымся ў арыгінале. Перакладам, рас. слова "с состраданием" перакладзена двумя словамі: "з выражэньнем спаўчуваньня і спагады". Беларускае слова "высахлы" або "ссохлы" замяняецца расейскім "высахшы". "Упалыя" ці "запалыя" вочы ў перакладчыка сталіся "патануўшымі". "Варта" сталася "старожай", калі беларускае слова "варта" куды лепш падыходзіць да тэксту. "Грубая" ráса манаха сталася "тоўстай" і тым згубіла свае якасьці, як грубашэрснай. Сэнс слова "пакорны" перакладнік дарэмна перакладае словам "пахілы", якое значыць рас. "согбенный" ці "склоненый. Сэнс пакорлівасьці народу тут страціўся.

Сэнс сказу — "лицо его омрачилось" — зьнячыўся перакладнікам у — "твар ягоны спаважнеў". Гэта апошняе слова значыць іншае, чымся "азмрочыўся" ці "засмуціўся". У сказе — "воздух лавром и пимоном пахнет" — перакладнід замяніў слова "лимон" — "цытрынаю", у той час калі слова "лімон" шырака ўважаецца ў беларускай мове, а "цытрына" больш павязана з разуменьнем усіх цытрусавых пладоў, да якіх належаць і лімоны, і апэльсіны, і грэйпфруты і іншыя рознавіднасьці. У беларускай мове ёсьць добрае слова "часіна", "часінка" ў значэньні "мінуты", але няма нейкае "мінюты", якое ўжывае перакладнік. Лепш за "відзежу" беларускія "прывід", "здань" ці "праява". Таксама няма слова "сукланяцца", а ёсьць "сьхіляцца", "кланяцца", "нахіляцца", "апускацца". У перакладзе ўжываецца непасьлядоўна то "язуіт", то (пазьнеи) слова "езуіт". Апошняе — больш правільнае слова.

Неапраўданым ёсьць ужываньне дзеяпрыметніка "прадложаны" заместа "прапанаваны", "нязносны" заместа "нясьцерпны", "судырыцца" заместа — "пачне бойку, схопіцца, пазмагаецца, паваюе" і д.г.п. Анахранізмам у сучаснай літаратурнай мове гучаць такія фразы, як "мінацімуць, "мусіцімем", "мецімем" "сумяціца" — гэта па-беларуску напісана слова з расейскага "сумятица". Па-беларуску будзе "сумятня". У сказе — "Ты ўсуаднёсься да яго" — чытач можа думаць, што гэта значыць, калі ў арыгінале сказана ясна і проста — "поступил", г. зн. абыйшоўся, зрабіў, дзейнічаў. Заместа сказаць проста — "згодны" — перакладнік усюды піша "сузгодны". Далося яму ў знакі гэтак "су", без яго ня можа абыйсьціся. Шкада, што ад гэтага часам губляецца сэнс і ўзьнікаюць без патрэбы цяжкасьці для чытача: сукляняецца, суклоніцца, супольніліся, сусгодзьдзе, судрыгаецца і г.п.

Ведаю словы "жудаснасьць", "жудасьць", "жудасны", "жудасна", але ніколі ня чуў слова "жудас". Гэта ўжо "новатвор" перакладніка.

Пераклад ужывае слова "стада" заместа "статка". А разуменьне слова "істота", "стварэньне" замяняецца ў множным ліку словам "існаваньняў", якое мае адно значэньне — рас. "существовение", ад дзеяслова "существовать", бел. "існаваць". Зноў церпіць зьмест твору. У перакладзе ўжываецца дзеяслоў у загадным ладзе — "І зяцямі сабе" — ад дзеяслова з польскага "зацеміць. Ня ўжываны ў сучаснай літаратурнай мове той дзеяслоў дадае цяжкасьці разуменьня тэксту. У сэньсе "сьляпы" перакладнік ужыў назоўнік "сьляпяні", які мае адно заалёгічнае паняцьце. А заместа польскага "супольніліся" трэба было ўжываць беларускія словы "зграмадзіліся" або "спалучыліся". Наагул, нахіл да замежных словаў, якія гучаць па-беларуску яўнымі барбарызмамі, у перакладніка ўсіх рэцэнзаваных тут перакладаў надта вялікі. Ён ня скажа — "ў азарце", а абавязкова "у газарце", "гэрэзія", "гэрэтыкі" заместа нашых нацыянальных формаў — "ерась", "ерэтыка". "Мець хлеб пад дастаткам" — тыпова польскі зварот мовы, заместа сказаць "досыць", або "дастаткова". Заместа беларускага слова "цяжар", "ярмо" або "прыгнёт" — расейскае слова "берамя" адно ў беларускай транскрыпцыі (па-расейску пішацца "бремя").

Наагул нашым перакладнікам можна параіць часьцей глядзець у слоўнікі, якія выдаюцца цяпер пад шыльдай Акадэміі Навук Беларускай ССР, Інстытута Мовазнаўства імя Якуба Коласа. Гэта трэба рабіць, каб пазбавіцца саматужніцка-аматарскага падыходу да мовы. Пара ўжо спыніць практыку, калі кажны піша гэтак, як памятае з дзіцячых гадоў, або з часоў наведваньня польскае школы, якая нявечыла нашу родную мову. Пэрыяд адкрытага русыфікаваньня беларускае мовы прайшоў. Акадэмія навук цяпер выдае паважныя слоўнікі, вартыя ўвагі ў сэньсе дасканаленьня нашае мовы. Кансультацыя ў тых выданьнях прынесла-б вялікую карысьць і нашаму перакладніку твораў сусьветнае клясыкі і дапамагла-б лепей перакласьці "Вялікага інквізытара". Гэта становіцца відавочным, калі прыгадаць, што РУСК-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК пад рэдакцыяй правадзейных членаў Акадэміі Навук Я. Коласа, К. Крапівы і члена-караспадэнта П. Глебкі, выданьня, 1953 г., а таксама БЕЛАРУСКА-РУСКІ СЛОЎНІК пад рэдакцыяй акадэміка К. Крапівы, 1962 г., пачалі аднаўляць і вяртаць ва ўжытак шмат якія самабытныя беларускія словы, як, скажам, "дойлід" (рас. "зодчый"), "дойлідзства" ("зодчество"), або "адлюстроўваць", "адлюстраваньне" ўсэнсе "адбіць", "адбіцьцё" (рас. "отразить", "отобразить", "отражение", "отображение"). А ў найноўшых выданьнях Акадэміі Навук гэты працэс звароту да самабытнасьці яшчэ паглыбляецца й ідзе далей.

Акрамя моўных заганаў пераклад "Вялікага інквізытара" мае і колькі недакладнасьцяў. Тут немагчыма спыніцца на ўсіх іх. Зьвярну ўвагу на разыходжаньне ў тэксьце перакладу радоў клясычнага вершу Цютчава:

Арыгінал:

*Удручённый ношей крестной,*
*Всю тебя, земля родная,*
*В рабском виде Царь Небесный*
*Исходил, благословляя.*

Пераклад:

*Ношай прыгнечаны крэснай*
*Ўсю цябе, зямліца родна,*
*Як жабрак. Я — Цар Нябесны,*
*Абыходзіў, славіў годна.*

У першым радку заместа беларускага прыметніка "крыжовай" перакладнік ужыў расейскае слова адно з беларускім напісаньнем праз націскное "э". Па-другое, заместа трэцяй асобы ў арыгінале, тут перароблена на першую асобу, і ўжо Хрыстос сам тут гаворыць пра свае абыходзіны роднай зямлі. А якая-ж яна яму родная, калі рэч у вершы ідзе пра прасторы Расеі?! Далей, "рабскі від" яшчэ не азначае жабрацкага выгляду. Атрымалася нешта мала падобнае да арыгіналу. Далей перакладчык дарэмна перад назовам гораду Сэвільля (відавочна-жаночага роду) ўжывае займеньнік "усё" у мужчынскім родзе: "ўсяго Сэвільля". На бал. 165 у сказе што "людзі зьяўляюцца слаўным бунтарным племем", праз памылковае "не" сьцьвярджаецца супрацьлемнае.

Адзначаючы гэтыя моўныя недахопы ў перакладах Яна Пятроўскага, я не хачу іх збэсьціць. Наадварот, я сьцьвярджаю, што ўпяршыню беларускі чытач мае магчымасьць прачытаць у сваёй мове гэты выдатны твор, як і творы выдатных старажытных думаньнікаў. Гэта вялікі ўжо здабытак сам па сабе. Па-другое, многія мясьціны перакладу гучаць сапраўды па-беларуску і могуць сьмела ўвайсьці ў беларускі культурны абыход. Прыкладам: самабытна гучыць прозьба Божай Маці аб дараваньні грахоў "усім *дазваньня* тым, каторых бачыла яна там". Гэтае *дазваньня,* заместа рас. "всех без разбора", тут дарэчы. На месцы і словы "спагада", "добраславіць" (рас. "благословлять"). Мне здаецца праўным і спроба перакладніка аднавіць сэнс слова "прырачэньн" у сэнсе "абяцаньне" (обет) у звароце "прырачэньне свабоды". Таксама сэнс рас. "преклониться" добра перакладзены зваротам "аддаць пашану". "Общность преклонения" перакладзена, як "супольнае адданьне пашаны". Заслугоўвае часам на ўвагу слоўнае наватарства перакладніка: сэнс рас. "в руководстве" пераказаны новым словам "дарагаўсказ перад сабою". Я мяркую, што лепш было-б пісаць гэтае слова без літары "с", бо ёсьць слова *указ*. Няблага ў перакладзе ўжываецца слова "богабойна" ў сэнсе "пакорна", "пакорліва". Добра перакладзены словам "немаўляткі" выраз "счастливые младенцы". Сказ "Царство наше созиждется" — па-беларуску прагучала: "валадарства нашае прыйдзе да быцьця".

"Вялікі інквізытар" — твор нявычэрпанай глыбіны, і ягонае трактаваньне, у тым ліку і пераказваньне на іншых мовах, можа выклікаць вялікія дыскусыі. Адно, аднак, ясна: Ян Пятроўскі зрабіў вялікі наватарскі крок і сваім піянэрскім перакладам стварыў моцны падмурак для пабудовы беларускае скарбніцы духовых каштоўнасьцяў.

*Уладзімер Глыбінны*



# 60-ГОДЗЬДЗЕ УТВАРЭНЬНЯ СССР

По загаду крэмлёўскага ўраду Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік у 1982 годзе адзначае юбілей — свайго існаваньня 60 гадоў Савецкая прапаганда праз урадавыя і партыйныя ўстановы, праз прэсу, радыё, тэлебачаньне, грамадзкія сходы і інш., прадстаўляе стварэньне СССР за добраахотны саюз дзяржаваў, якія маюць роўныя правы ў гэтым саюзе і ў якім усе яны цешацца аднолькавай узаемнай пашанай. Атрымліваецца ўражаньне, што самастойныя дзяржавы паасобных народаў паводля волі сваіх выбраных урадаў, добраахвотна дамовіліся і стварылі супольную саюзную дзяржаву — СССР, у якой усе яны фактычна маюць роўныя правы і поўную ўзаемную пашану. Аднак, фактычныя гістарычныя падзеі тварэньня СССР, як і наступная практыка існаваньня гэтага саюзу, вельмі далёка адыходзяць ад такой ідыліі, прадстаўлянай савецкай прапагандай. Прыпомнім гістарычныя факты.

У канцы лютага 1917 году царская Расейская Імпэрыя, пад ціскам лібэральных імкненьняў насельніцтва і нацыянальна-вызвольных рухаў, перастала існаваць пасьля адмовы Мікалая II Раманава ад імпэратарскага пасаду. Новыя дэмакратычныя ўрады Расеі — кн. Львова і пазьней А. Керанскага — былі змушаныя дапусьціць да значных свабодаў у жыцьці краю, з чаго адразу скарысталі нерасейскія народы, распачынаючы адбудову сваіх нацыянальных незалежных дзяржаў.

Першы Ўсебеларускі Кангрэс, які сабраўся ў Менску ў ліку 1,872 дэлегатаў з усяго краю, дня 17 сьнежня 1917 году прыняў пастанову аб устанаўленьні Беларускай Рэспублікі.

У гэтым часе расейскія й інтэрнацыяналістычныя бальшавікі, на чале з Ул. І. Ленінам, ужо захапілі ўладу ў свае рукі ў Петраградзе, Маскве ды й іншых гарадох Расеі ды апаноўвалі нерасейскія краіны былой імпэрыі. У Менску яны хутка займелі свой вайсковы гарнізон ды бальшавізавалі вайсковыя часткі фронту, якія праходзілі праз Беларусь.

Бачучы, што вялікая бальшыня Усебеларускага Кангрэсу жадае самастойнай Беларускай Дзяржавы, бальшавікі збройнай сілай Чырвонай Арміі дня 17 сьнежня 1917 году разагналі Кангрэс, арыштоўваючы многіх яго дэлегатаў. Аднак, папярэдня выбраная Кангрэсам Рада Старэйшых Кангрэсу пазьней выбрала Выканаўчы Камітэт, які і распачаў дзейнасьць беларускага нацыянальнага ўраду. Дня 25 сакавіка 1918 году, Рада Кангрэсу, рэарганізаваная ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, абвесьціла Беларусь самастойнай і незалежнай дзяржавай, прымаючы Трэцюю Устаўную Грамату. Створаны беларускі нацыянальны ўрад арганізаваў адміністрацыю краю, школы, беларускія збройныя сілы і разгарнуў дыплёматычную дзейнасьць перад урадамі многіх краінаў заходняга сьвету. Беларуская Народная Рэспубліка паўстала да незалежнага жыцьця як самастойная дзяржава беларускага народу. Аднак, на перашкодзе ўжо быў бальшавіцкі Маскоўскі ўрад.

Вырашэньне нацыянальнай справы для нерасейскіх народаў было сфармулявана Леніным шмат гадоў раней перад захопам улады бальшавікамі ў Расеі. Ужо ў праграме Расейскай-Дэмакратычнай Рабочай Партыі Ленін падаў сваю ўстаноўку. Ён прызнаваў для нерасейскіх народаў імпэрыі права на самаазначэньне аж да аддзяленьня і стварэньня незалежнай дзяржавы. Гэта фармуліроўка выклікала нутраную партыйную дыскусыю ў бальшавікоў. У сваім лісьце партыйнаму сябру, С. Г. Шаумяну, з дня 23 лістапада 1913 году з Кракава Ленін выясьняў: "Аддзяленьне зусім не наш плян. Аддзяленьня мы зусім не прапаведуем. Наагул мы супроць аддзяленьня, але мы стаім за права на аддзяленьне..." Як бычым, Ленін прызнаваў толькі права на аддзяленьне, але быў супроць фактычнага аддзяленьня. Такая фармуліроўка нацыянальнага пытаньня была нічым іншым, як толькі ашуканчым прапагандовым манэўрам для ўтрыманьня нерасейскіх народаў у межах расейскай дзяржавы, ствараючы ілюзыю, нібы яны могуць фактычна аддзяліцца.

Пасьля захопу ўлады бальшавікамі ў Расеі, новы савецкі ўрад удзяліў вялікую ўвагу нацыянальнаму пытаньню. Для супроцьдзеяньня адбудове незалежных нацыянальных дзяржаў нерасейскіх народаў: беларусаў, украінцаў, палякаў, літоўцаў, латышоў, этонцаў, фінаў, казакаў, паўночна-каўказцаў, грузінаў, армянаў, азэрбайджанцаў, ідэль-уралаў, татараў, сібіракаў і іншых, савецкі ўрад неадкладна стварыў Народны Камісарыят па Справах Нацыянальнасьцяў. Дня 2 лістапада 1917 году была выдадзеная Савецкім урадам "Дэклярацыя правоў народаў Расеі". У ёй абвяшчалася і тлумачылася праграма нацыянальнага пытаньня, апрацаваная раней Леніным, паймена — роўнасьць і сувэрэннасьць народаў Расеі, права іх на свабоднае самавызначэньне аж да аддзяленьня і стварэньня самастойнай дзяржавы, скасаваньне ўсіх і ўсякіх нацыянальных і нацыянальна-рэлігійных прывілеяў і абмежаваньняў, свабоднае разьвіцьцё нацыянальных меншасьцяў і этнаграфічных групаў, якія насяляюць тэрыторыю Расеі.



Для народаў Усходу быў выдадзены Савецкім Урадам асобны "Зварот да ўсіх працоўных мусульман Расеі і Усходу" ад 3 сьнежня 1917 году, у якім пісалася, што Савецкая ўлада будзе будаваць свае адносіны з усімі народамі на аснове раўнапраўя, узаемнай павагі і дружбы.

Гэтыя захады і дакументы Савецкага ўраду не зьмянілі Ленінскай устаноўкі на нацыянальнае пытаньне.

Замест суцэльнай Расейскай Імпэрыі бальшавікі стварылі Расейскую Савецкую Фэдэратыўную Сацыялістычную Рэспубліку. Фэдэрацыя прадбачылася для паасобных нерасейскіх народаў замест аддзяленьня і тварэньня самастойных дзяржаваў. Аднак, нерасейскія народы не хацелі фэдэрацыі з Расеяй і арганізавалі самастойныя дзяржавы, жадаючы ад крамлёўскага ўраду прызнаньня іх незалежнасьці. Маскоўскі ўрад, па тактычных меркаваньнях, часова прызнаваў некаторыя нацыянальныя дзяржавы, аднак з тым, каб пазьней збройна заваяваць іх і ствараць свае марыянэткавыя савецкія сацыялістычныя рэспублікі з урадамі, прызначанымі ў Маскве.

Дзейнасьць бальшавіцкага ўраду Масквы адносна дзяржаўнасьці Беларусі мела наступны далейшы прабег. Не прызнаючы дэ юрэ самастойнай Беларускай Народнай Рэспублікі, Крамлёўскі ўрад распачаў арганізацыю сваёй савецкай сацыялістычнай рэспублікі для Беларусі. Дня 25 сьнежня 1918 году Цэнтральны Камітэт Расейскай Камуністычнай Партыі (бальшавікоў) у Маскве прыняў рэзалюцыю, якая ўстанаўляла Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку (БССР). Там-жа былі падабраныя і прызначаныя кандыдаты для ўраду гэтай рэспублікі і высланыя на Беларусь. Па справе гэтых кандыдатаў, ад'язджаючых з Масквы ў заваяваны Чырвонай Арміяй Смаленск, дня 29 сьнежня 1918 году Сталін выслаў Мясьнікову, расейскаму сатрапу Беларусі, тэлеграму, у якой пісалася: "Беларусы ад'язджаюць сягоньня ў Смаленск. Яны вязуць маніфэст. Цэнтральны Камітэт партыі і Ленін просяць прыняць іх як малодшых братоў, якія пакуль што ня маюць дасьведчаньня, але якія гатовы аддаць сваё жыцьцё за партыю і савецкую работу".

Дня 30 і31 сьнежня 1918 году у Смаленску адбылася шостая Паўночна-Заходняя акруговая канфэрэнцыя Расейскай Камуністычнай Партыі (бальшавікоў). Прысутных было 56 дэлегатаў з рашаючым голасам і 25 з дарадчым. Дэлегатамі былі расейцы, жыды, каўказцы й іншыя нацыяналы, з дробнай колькасьцяй беларусаў. Расеец А. Ф. Мясьнікоў падаў прапанову аб стварэньні БССР, якая была прынятая аднагалосна. Увесь этнаграфічны абшар Беларусі ўваходзіў у новаствораную БССР і дзяліўся на 7 акругаў: Менскую, Смаленскую, Віцебскую, Магілёўскую, Гомельскую, Горадзенскую і Баранавіцкую.

Гэта самая шостая канфэрэнцыя расейскіх абвесьціла сябе Першым зьездам Камуністычнай Партыі (бальшавікоў) БССР і выбрала Цэнтральнае Бюро КП(б)Б, куды ўвайшлі: Мясьнікоў, Кнорын, Алібегаў, Собалеў, Іваноў і іншыя. Зьезд прыняў "Палажэньне аб партыйных арганізацыях", дзе было пастаноўлена: "Цэнтральнае Бюро зьяўляецца верным вокам Цэнтральнага Камітэту Камуністычнай Партыі..." у Маскве. У прывітаньні, высланым зьездам Цэнтральнаму Камітэту Расейскай Кампартыі ў Маскву, было напісана, што "... у будучыні камуністыя Беларусі будуць паступаць згодна кіраўніцтву Цэнтральнага Камітэту Расейскай Камуністычнай Партыі (бальшавікоў) і ўважаць яе за вышэйшае кіраўніцтва партыі".

Гэты зьезд зацьвердзіў часовы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад Беларусі, які раней быў прызначаны ў Маскве і складаўся з камуністых. Вядучымі сябрамі ўраду былі небеларусы: Мясьнікоў, Калмановіч, Бэрсон, Яркін, Пузыроў, Іваноў і іншыя. Як этнаграфічная неабходнасьць да ўраду было дадзена некалькі беларускіх фігурантаў: Дыла, Жылуновіч і Чарвякоў. Гэты ўрад абвесьціў дня 1 студзеня 1919 году ў Смаленску маніфэст аб стварэньні БССР, які быў загадзя падрыхтаваны ў Маскве. Гэтая дата і падзея ўважаецца за пачатак існаваньня БССР.

Дня 2 лютага 1919 году ў Менску сабраўся першы зьезд Саветаў БССР у колькасьці 213 камуністых і іх прыхільнікааў. Прадстаўнік ураду Расейскай СФСР, Сьвярдлоў, паведаміў аб прызнаньні БССР праз Усерасейскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт. У адказ на гэтае прызнаньне зьезд пастанавіў утрымліваць цесную фэдэральную сувязь БССР з РСФСР. Гэты зьезд прыняў для БССР канстытуцыю, нацыянальную эмблему і сьцяг паводля ўзораў РСФСР.

Савецкі ўрад Масквы стараўся апанаваць усе краіны, якія папярэдня належалі да Расейскай Імпэрыі, а цяпер абвесьцілі самастойнасьць. У гэтым пляне паход Чырвоных Арміяў на захад у 1920 годзе прадбачаў заваяваньне Беларусі, Польшчы і Прыбалтыкі.

Спаткаўшы моцны супраціў у Прыбалтыцы, якой вельмі дапамагла Антанта, і разьбітыя пад Варшавай, Чырвоныя Арміі былі змушаныя адступаць на ўсход. Збройнае змаганьне аддзелаў гэн. Булак-Балаховіча на поўначы краю, вайсковыя беларускія фармаваньні ў Менску і Горадні ў цэнтральнай частцы краю, ды Слуцкае паўстаньне на паўдні, — ня былі ў стане сваімі сіламі здабыць волю Беларусі. Дыпляматычныя захады ўраду БНР не спаткалі зразуменьня і падтрымкі ад урадаў заходняга сьвету. Беларусь была заваяваная і падзеленая ў асноўным паміж Савецкай Расеяй і Польшчай. Трэба адцеміць, што расейскі ўрад не запрасіў прадстаўнікоў ад БССР на мірныя перамовы ў Рызе ў 1921 годзе, дзе маскоўскія бальшавікі і палякі дзялілі і вырашалі лёс Беларусі. Расея затрымала для сябе 300,000 кв. км. беларускай тэрыторыі з насельніцтвам каля 10 мільёнаў. Польшча атрымала больш за 100,000 кв. км. беларускіх земляў, з насельніцтвам каля 4 мільёнаў чалавек. Часткі беларускіх тэрыторыяў трапілі ў межы Латвійскай і Летувіскай рэспублік.

Маскоўскі ўрад аднавіў БССР, але на абшарах толькі 6 паветаў Менскай губэрні з насельніцтвам каля 1,200,000 чалавек. Гэтымі паветамі былі: Менскі, Ігуменскі, Барысаўскі, Бабруйскі, Слуцкі і Мазырскі. Большыня беларускіх этнаграфічных абшараў была далучаная да РСФСР.

Трактаваньне адбудаванай незалежнай Украінскай Народнай Рэспублікі і дзяржаў Закаўкаскіх народаў праз Маскоўскі бальшавіцкі ўрад было падобнае да трактаваньня Беларускай дзяржавы. Заваяваўшы гэтыя краіны, Масква зьнішчыла іх самастойныя дзяржавы і арганізавала савецкія сацыялістычныя рэспублікі УССР і ЗСФСР з паслухмянымі бальшавіцкімі ўрадамі, прызначанымі Крамлём.

Двустароньнія саюзныя ўмовы, заключаныя паміж РСФСР і паасобнымі савецкімі рэспублікамі, мелі ў сабе патэнцыяльную небясьпеку тармажэньня цэнтральнага кіраўніцтва з Масквы, як і захоўваньня патэнцыяльнай магчымасьці для сэпарацыі. А для трываласьці шматнацыянальнай Савецкай дзяржавы і цэнтралістычнага кіраваньня гэтай дзяржавай ува ўсіх яе аспэктах, як гэта плянавалі бальшавікі, было патрэбнае ўмацаваньне дзяржаўных сувязяў і ўзаемаадносінаў, стварэньне трывалага і эфэктыўнага адзінага кіраўніцтва для ўсей шматнацыянальнай дзяржавы. Або, гаворачы ясьней, для ўтрыманьня цэласьці і непадзельнасьці Расейскай імпэрскай спадчыны ў зьмененых абставінах пры бальшавіцкай уладзе, Ленін уважаў за неабходнае схаваць за адпаведнай прапагандовай шыльдай цяперашнюю савецкую імпэрыю. Таму ён выступіў з прапановай стварэньня новай формы дзяржавы — Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік (СССР). Ашуканчы назоў — "Саюз ССР", меў спыніць усякія закіды аб паняволеньні і калёніяльным стане нерасейскіх народаў праз Савецкую Расею; меў прымацаваць іх да Расеі, якая падымала іх характар і прэстыж да стану саюзных дзяржаў; для непаінфармаванай заграніцы гэты назоў меў быць вырашэньнем нацыянальнага пытаньня як для самой Расеі, так і ў міжнародным сэнсе.

Сам факт стварэньня СССР з марыянэткавых савецкіх сацыялістычных рэспублік быў толькі звычайнай фармальнасьцяй, выкананай Расейскай Камуністычнай Партыяй (бальшавікоў) і ўрадам Расейскай СФСР. Ён меў наступны скоры прабег.

У кастрычніку 1922 году ў Маскве адбыўся Пленум Цэнтральнага Камітэту Расейскай Камуністычнай Партыі (бальшавікоў). Ён прыняў прапанову Леніна аб стварэньні Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, як шматнацыянальнай дзяржавы. Наступна, дня 23 сьнежня 1922 году ў Маскве пачалася 10-я сэсыя Саветаў Расейскай СФСР. На гэтай сэсыі былі прысутныя дэлегацыі ад БССР, УССР і ЗСФСР, апклікацыя праз Маскоўскі ўрад. Гэта сэсыя апрабавала саюз названых чатырох Савецкіх рэспублік. А ўжо 30 сьнежня 1922 году ў Маскве адбыўся Першы Ўсесаюзны зьезд Саветаў. Гэты зьезд апрабаваў Дэклярацыю і Ўмову аб заснаваньні СССР, пры аб'яднаньні ў ягоным складзе чатырох савецкіх сацыялістычных рэспублік — Расейскай СФСР, Беларускай ССР, Украінскай ССР і Закаўказкай СФСР. Зьезд вылучыў камісію для распрацоўкі Канстытуцыі СССР, якая была прынятая на Другім Усесаюзным зьезьдзе Саветаў дня 31 студзеня 1924 году.

Тэрыторыя БССР пазьней была павялічаная дзеля гострай крытыкі беларускай эміграцыі і беларусоў Заходняй Беларусі, датычна адчыненай акупацыі беларускіх акругаў праз РСФСР. Аднак, больш за траціну беларускіх этнаграфічных земляў з гарадамі: Вялікія Лукі, Смаленск, Бранск, Рослаўль і іншыя, да сягоньня застаюцца далучанымі да Расейскай СФСР.

З бегам часу колькасьць савецкіх рэспублік у складзе СССР павялічылася да 15 дзеля пазьнейшых завяваньняў нерасейскіх краінаў і нутраных адміністрацыйных зьменаў, з улікам на прапагандовыя карысьці пры праводжаньні далейшай экспансыі СССР.

Вымоўную ацэнку для БССР і СССР даў



Другі Ўсебеларускі Кангрэс, які адбыўся ў Менску 27 чэрвеня 1944 году. Гэты Кангрэс, у складзе 1,039 дэлегатаў, у сваіх рэзалюцыях, паміж іншага, пастанавіў наступнае: 1. Ён пацьвердзіў Трэцюю Устаўную Грамату Рады Беларускай Народнай Рэспублікі з дня 25 сакавіка 1918 году аб канчальным разрыве Беларусі з бальшавіцкай Масквой і расейскай дзяржавай ува ўсіх яе формах; 2. Ён пацьвердзіў, што Беларускі Народ не прызнаваў у мінулым, не прызнае зараз, як ня прызнае і ў будучыні за сваю дзяржаву, гвалтам накінутай маскоўскімі захопнікамі формы БССР.

Ёсьць відавочным, што БССР зьяўляецца фікцыйнай дзяржаўнай крэатурай бальшавіцкага ўраду Масквы, у тварэньні якой беларускі народ ня прымаў удзел. З вышэй напісанага так сама ясна відаць, што СССР ня ёсьць дабравольным саюзам самастойных нацыянальных дзяржаў. Імпэрыялістычны ўрад Савецкай Расеі стварыў гэты фікцыйны саюз з фікцыйных нацыянальных савецкіх рэспублік і ўжывае штучны назоў СССР для прапаганды, імкнучыся заваёўваць рэшту вольных краінаў сьвету з мэтай стварыць сусьветны СССР пад сваей дамінацыяй.

Для беларускага народу мінулыя 60 гадоў існаваньня СССР, гэтай турмы народаў, становяць пэрыяд гісторыі з найбольш цяжкай нацыянальнай няволяй, прыгнётам, прасьледам і бядой. На працягу гэтых гадоў Маскоўскі камуністычны ўрад дакапаў нязьлічаных злачынстваў над беларускім народам і краем. Пералічым некаторыя з іх. Маскоўскі камуністычны ўрад Савецкай Расеі:

— Патаптаў права беларускага народу на самаазначэньне; напаў, збройна заваяваў і зьнішчыў Беларускую Народную Рэспубліку, дзяржаву з волі народу;

— Гвалтам накінуў Беларусі сваю фікцыйную форму дзяржаўнасьці БССР і сам уключыў яе ў склад сваей СССР;

— Забраў ад Беларусі і далучыў да Расейскай СФСР беларускія землі, дзе і зараз трымае амаль трэцюю частку беларускай этнаграфічнай тэрыторыі;

— Увёў сыстэму масавага ўрадавага тэрору, шпіянажу ўсяго насельніцтва, даносаў і прасьледу ЧКА, ГПУ, НКВД, МВД, КГБ і іншых органаў, мардуючы ў турмах і вынішчаючы ў канц-лягерох Сыбіру і іншых, на працягу 60 гадоў свайго панаваньня больш за 6 мільёнаў вядучай і нацыянальна сьведамай часткі беларускага народу;

— Масава калянізаваў Беларусь расейцамі й іншымі нацыяналамі, даючы ім кіраўніцтва краю ад міністраў да старшынь калгасаў, якія цяпер і рэпрэзэнтуюць Беларусь, сьпіхаючы беларусоў на грамадзкія нізы;

— Масква высылае беларусаў на свае работы: 1. На вялікія імпэрыяльныя будовы Расеі, як: БАМ, каналы, нафтавыя і газавыя трубаправоды з Сыбіру ў Расею і сярэднюю Эўропу, новыя прамысловыя гарады ў Азіі для вайсковых патрэб і інш.; 2. У іншыя нац-рэспублікі, русыфікуючы іх, а праз іх і гэныя нац-рэспублікі;

— Урадава зрусыфікаваў беларускую мову, уводзячы ў яе расейскія граматычныя і сынтаксычныя правілы ды мноства расейскіх словаў;

— Заместа беларускай мовы ўвёў расейскую ўва ўсім краі ў урадах, школах, культурным і гаспадарчым жыцьці, у друку і інш., пакідаючы дробныя выняткі для прапагандовых патрэб;

— Выбраў з бібліятэк усе кнігі, часапісы і газэты з нацыянальным беларускім зьместам і зьнішчыў іх. На Беларусі масава пашыраюцца камуністычныя кнігі, часапісы і газэты на расейскай мове, друкаваныя ўБССР і прывожаныя масава з РСФСР;

— Фальшаваў і фальшуе далей гісторыю Беларусі, абмінаючы, або чэрнячы барацьбу беларускага народу за сваю нацыянальную самастойнасьць і дзяржаўную незалежнасьць, а пашыраючы весткі аб няіснуючым імкненьні беларусаў да задзіночаньня з расейскім народам;

— Зьнішчыў мноства старажытных помнікаў арыгінальнай беларускай архітэктуры, а будуе на Беларусі адналітныя ў характары з Расеяй будынкі;

— Зьнішчыў Аўтакефальную Праваслаўную Беларускую Царкву, падпарадкоўваючы Расейскаму Патрыярху ў Маскве рэштκі ўцалелых прыходаў;

— Вынішчае Рыма-Каталіцкія прыходы, не дапушчаючы да прызначэньня духаўнікоў у прыходы пасьля сьмерці папярэдняга ксяндза;

— Русыфікуе беларускі народ і край, сілячыся гвалтам зьліць іх у адно непадзельнае з Расеяй і з савецкім народам, зьнішчаючы этнічную асобнасьць беларускага народу і краю;

— Гвалтам увёў камуністычную сыстэму дзяржаўнага капіталізму ў вольную гаспадарку краю. Усе сродкі прадукцыі адабраў ад собсьнікаў, пераважна мардуючы іх. Работнікаў і сялян абярнуў у прыгонных нявольнікаў, кіраваных новай клясай — камуністычнай элітай. Працоўнае насельніцтва трымаецца ў паўгалодным стане і пастаяннай нэндзе дзеля аблягчэньня кіраваньня ім;

— Увёў сыстэму бязьмежнай эксплёатацыі працоўнага насельніцтва і натуральных рэ-

*(Далей на баг. 53, сл. 2-гі)*

*І. Касяк*

# СТАГОДЗЬДЗЕ З ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ РУЗВЭЛЬТА

Франклін Дэляно Рузвэльт, 32-гі прэзыдэнт ЗШПАмэрыкі, шырака адзначаецца прэсай, публікацыямі, грамадзкімі сходамі і інш. ува ўсёй Амэрыцы ў 100-годьдзе яго нараджэньня, якое прыпадае на 1982 год. Ён быў выбраны на прэзыдэнта чатыры разы ўзапар, чаго ня было ні з адным іншым прэзыдэнтам Некаторыя аўтары ўслаўляюць гісторыю яго прэзыдэнтуры, як гісторыю яго краю. Ён быў выбраны на прэзыдэнта падчас цяжкай эканамічнай дэпрэсіі. Сваімі мерапрыемствамі ён зьменшыў эканамічныя цяжкасьці, але не беспрацоўе, бо ў 1938 г. было ў Амэрыцы больш беспрацоўных, чым у 1982 годзе.

Рузвэльт нарадзіўся 30 студзеня 1882 году ў сямейным маёнтку каля Гайд Парку ў штаце Нью-Ёрк. Яго бацька быў багатым землеўласьнікам з даўных эмігрантаў з Даніі. Ён вучыўся ў Акадэміі ў Гротоне, у Гарвардзкім унівэрсытэце і ў Калюмбійскім унівэрсытэце ў Нью-Ёрку на юрыдычным факультэце.

У 1907 годзе ён працаваў у адвакацкай фірме ў Нью-Ёрку, а тры гады пазьней быў выбраны сэнатарам штату Нью-Ёрк. У 1912 годзе ён прызначаны памоцнікам міністра мораплаўства.

Маючы 39 гадоў Рузвэльт быў спаралізаваны хваробаю поліо ад пояса ўніз. Аднак, гэта не перашкодзіла яму быць выбраным губэрнатарам штату Нью-Ёрк у 1928 годзе. Гэта быў ужо час дэпрэсіі. У кастрычніку 1929 году быў вялікі крах біржы. Шмат прадпрыемстваў было зачынена і мноства людзей страцілі працу. Рузвэльт правёў шырокую праграму грамадзкіх работаў, а таксама, дабіўся непасрэднай дапамогі грашыма бедным і беспрацоўным, ды абмежаваньня гадзін працы для жанчын і дзяцей.

У 1932 годзе Рузвэльт быў выбраны Дэмакратычнай партыяй кандыдаты на прэзыдэнта Амэрыкі. Ён абяцаў “Новую Дзею” (НьюДілз) для народу Амэрыкі. Савецкая прапаганда і камуністыя Амэрыкі ды іншых краін, моцна падтрымлівалі гэту кандыдатуру, як запраўднага гуманіста. Рузвэльт быў выбраны ў 42 штатах, за выняткам толькі 6. Ён прысягнуў на становішча 4 сакавіка 1933 году. Аднэй з раньніх яго дзеяў у 1933 г. было прызнаньне Савецкага ўраду і навязаньне дыпляматычнай сувязі з СССР, што адкідалі папярэднія прэзыдэнты Вільсон, Гардзінг, Кулідж і Гувэр.

Нутраная сытуацыя Амэрыкі была вельмі цяжкая. Прамысловасьць і гандаль амаль замёрлі, а 13,000,000 працаўнікоў былі беспрацоўнымі і 5,000,000 сем'яў утрымліваліся з дапамогі. Фармэры нішчылі свае прадукты, ня хочучы прыняць прапанаваных ім нізкіх цэнаў. Пасьля зачыненьня банкаў у Мічыгане ў сярэдзіне лютага, банкі спынілі дзейнасьць ува ўсім краю. Для палагоджаньня гэтай справы вы была ўзмоцненая Сыстэма Фэдэральнага Рэзэрву і створаная Фэдэральная Карпарацыя Забесьпячэньня Ашчаднасьцяў для ўкладаў у банках. Было дазволена адчыніць толькі здаровыя банкі.

Кангрэс апрабаваў мноства законаў, прапанаваных прэзыдэнтам. Важнейшымі з іх былі: Адміністрацыі Землярobскага Дастасаваньня і аб Адміністрацыі Нацыянальнага Аздараўленьня. Першая давала фэдэральную дапамогу фармэрам, якія згаджаліся на фэдэральны кантроль пры зьмяшчэньні надвышкі засеву збожжа. Другая давала магчымасьць ураду злучаць прадпрыемцаў і работнікаў для павялічаньня вытворчасьці і стварэньня больш мейсцаў працы. Перашкоды, робленыя Найвышэйшым Судом у гэтых мерапрыемствах, былі пераможныя адміністрацыяй.

У 1933 годзе кангрэс зацьвердзіў закон аб устанаўленьні Кіраўніцтва Даліны Тэнэсі, якая павялічыла колькасьць электра-энэргіі, палепшыла судаплаўства і забясьпечыла кантроль ад затопліваньня вадой абшар у васьмі штатах.

Была ўстаноўленая Камісія Каштоўных Папераў і Вымены для забесьпячэньня ад нясумленных апэрацыяў на біржы. Залатая валюта краю была спыненая, што дало некаторую палёгку даўжнікам і экспартэрам, але адабрала гэтае забесьпячэньне ад рэшты насельніцтва.

Рузвэльт быў цьвёрдым прыхільнікам прыватнай гаспадаркі. Аднак, ён уважаў, што калі прыватная прамысловасьць не магла забясьпечыць працы для людзей, якія хацелі працаваць, то ўрад павінен быў гэта забясьпечыць.

Часова былі даваныя харчы або грошы непасрэдна для беспрацоўных, а таксама былі прыводжаныя праграмы, нават і доўгатэрміновыя: працавала Фінансавая Карпарацыя Адбудовы і агенцыі, якія распачалі дзейнасьць у апошніх днях адміністрацыі Гувэра.

Але найбольш эфэктыўным былі грамадзкія працы, праграма якіх выконвалася некалькімі ўрадавымі агенцыямі, як: а) Адміністрацыя Грамадзкіх Работ, якая наглядала будову грамадзкіх будынкаў і іншых вялікіх будаўнічых праектаў; б) Корпус Цывільнай Кансэрвацыі браў маладых хлапцоў у кансэрвацыйныя лягеры для лясной працы, будовы дарогаў, кантролю ад заліваньня вадой і інш.: в) Адміністрацыя Прагрэсу Работаў, давала працу мільёнам людзей пры пабудове дарогаў, паркаў, спартовых пляцоў, будове ці направе бібліятэкаў, школаў, і грамадзкіх будынкаў.



Быў прыняты Закон аб Сацыяльным Забесьпячэньні, які: а) прадбачаў фонды дапамогі работнікам падчас беспрацоўя; і б) стварыў пэнсыі для старых работнікаў, якія пакідалі працу 65 гадоў свайго веку.

Гэта Новая Дзея Рузвэльта вымагала вялікіх выдаткаў, часта робленых надмерна. Таму нацыянальны доўг ад 1933 г. 11938 г. амаль падвоіўся, падвоіліся і падаткі. Аднак яна была папулярная сярод многіх людзей. У 1936 годзе Рузвэльт быў выбраны прэзыдэнтам на другі тэрмін бальшынёй 11,000,000 галасоў. Цяпер ён распачаў праграму ўзьняцьця жыцьцёвага ўзроўня трэцяй часткі насельніцтва бяднейшай групы. Ён жадаў новых законаў дапамогі, улучаючы памяшканьні і дапамогу фармам. Аднак, дэпрэсія скончылася толькі з вялікімі вайсковымі выдаткамі ў 1939 і 1940 г. перадДругой Сусьветнай Вайной.

На працягу двух першых прэзыдэнцкіх тэрмінаў Рузвэльт быў пераважна заняты нутранымі справамі краю. Аднак, напад Мусаліні на Эфіопію ў 1936 годзе; збраеньні Нямеччыны пад кіраўніцтвам Адольфа Гітлера і ягоны напад на правінцыю Рэйну ў 1936 годзе; агрэсыі вялікага маштабу Японіі на Кітай у 1937 годзе, — зьмянілі грамадзкую думку ў Амэрыцы.

Пасьля нападу Гітлера на Польшчу ў 1939 годзе, а потым і на СССР, якія папярэдня ўмовай Молатаў-Рібэнтропп падзялілі сярэдзіну Эўропы паміж сабой, ды абвешчаньнем вайны Нямеччыне праз Англію і Францыю, — распачалася Другая Сусьветная вайна. Рузвэльт неадкладна абвесьціў нэйтральнасьць Амэрыкі. Аднак, пазьней, у 1939 годзе, гэты закон нейтральнасьці быў зьменены, дазваляючы краю ў стане вайны плаціць гатоўкай і везьці амэрыканскія тавары на не амэрыканскіх караблях.

Пасьля таго, як Італія прыступіла да вайны партнэрам Нямеччыны, а Францыя здалася Нямеччыне, Англія засталася адна супроць гэтых дзяржаваў. У верасьні 1940 году Рузвэльт арганізаваў перадачу Англіі 50 старэйшых амэрыканскіх караблёў-зьнішчальнікаў, каб дапамагчы ёй адбіцца ад спадзяванага нападу Нямеччыны на абтокі. У замен Амэрыка атрымала паветраныя і марскія базы на Ньюфаўнлэндзе, Бэрмудах і Вэст-Індыі. У кастрычніку Амэрыка пачала мабілізацыю мужчын для вайсковай службы.

Трэба адцеміць, што ў 1941 годзе Рузвэльт устанавіў Камітэт Справядлівага Прыйманьня на Працу, які забараняў дыскрымінацыю кампаніям, што атрымлівалі ўрадавыя кантракты. Гэтым ён запабег рыхтаванаму вялікаму бунту нэграў у Амэрыцы.

У 1940 годзе Рузвэльт быў выбраны прэзыдэнтам на трэці тэрмін бальшынёй 5,000,000 галасоў.

У сакавіку 1941 году Закон на Пазычкі па ўмове Ленд-Ліс даў прэзыдэнту права на продажу, замену, пазычку па кантракту, або проста даваць харчы, зброю, ці іншыя матар'ялы кожнаму краю, абарону якога ён уважаў за істотную для абароны Амэрыкі. Амэрыка збудавала і пазьней бараніла “мост з караблёў”, калі ў чэрвені 1941 году Гітлер напаў на СССР, якому Амэрыка пачала даваць дапамогу.

У жніўні 1941 году адбылася канфэрэнцыя Рузвэльта з Вінстонам Чэрчылем, прэм'ерам Вялікабрытаніі. Яны выдалі дэклярацыю, званую Атлянтыцкай Картай, у якой была акрэсьленая праграма, што ўключала зьнішчэньне тыраніі, свабоду на акіянах, права на свой нацыянальны ўрад, роўны доступ да сырых матар'ялаў, адкіданьне ўжываньня сілы, і ўстанаўленьне сусьвеьветнай сыстэмы для ўзаемнай бясьпекі.

Дня 7 сьнежня 1941 году японскія самалёты марской флёты напалі на Пэрл Гарбор на Гаваях. Амэрыканская флёта не чакала нападу і атрымала страты большыя чым у цэлай Першай Сусьветнай вайне. Раніцай у нядзелю паветраны налёт забіў 2.248 чалавек, раніў 1,109 чалавек і затапіў, або зруйнаваў 18 вялізных вайсковых караблёў, даючы Японіі марскую перавагу ў гэтай частцы сьвету.

Гісторык І. Толянд у сваёй кнізе “Ганьба: Пэрл Гарбор і наступствы”, сьцьвярджае, што амэрыканская марская служба выкрыла за 5 дзён да нападу, 2 сьнежня, вялічэзную японскую флёту ў ліку 31 карабля, якая ішла на Гаваі. Рузвэльт быў неадкладна паведамлены аб гэтым. Аднак, ніхто з амэрыканскіх камандзіраў на Ціхім акіяне ня быў паведамлены аб гэтым. Прыпушчаецца, што Рузвэльт хацеў уцягнуць Амэрыку ў вайну, чаго ён спадзяваўся асягнуць праз разгром амэрыканскіх збройных сілаў японцамі на Далёкім Усходзе, што мела выклікаць вялікае абурэньне ў амэрыканскай апініі. Найбольшае заціраньне сьлядоў гэтага факту было ўжытае,

каб ён не пабачыў сьвятла, як ува ўсей гісторыі Амэрыкі. Мясцовага гэнэрала Шорта і адмірала Кіммэля асудзілі, не даючы ім доступу да фактычных матар'ялаў, патрэбных для абароны.

8 сьнежня Рузвэльт зажадаў абвешчаньня вайны Японіі, што кангрэс і зрабіў. 11 сьнежня Нямеччына й Італія абвесьцілі вайну Амэрыцы, на што Кангрэс адказаў тым самым і ў той самы дзень.

Эканоміка краю была зьмененая на прадукцыю для вайны. Даходы прадпрыемцаў і работнікаў павялічылася. Устаноўленая Адміністрацыя Бюра Цэнаў кантралявала цэны. Харчы, бэнзын і іншыя артыкулы былі прадаваныя на карткі. Для перамогі ў вайне Рузвэльт пастанавіў: а) Паклікаць у збройныя сілы каля 12,000,000 мужчын і жанчын і даць ім найнавейшае і поўнае вайсковае ўзбраеньне: б) Спачатку разьбіць Нямеччыну, мацнейшага ворага, а затым Японію, слабейшага ворага; в) Прыняць толькі бязумоўную здачу ворага.

Прэзыдэнт падтрымліваў супрацоўніцтва з саюзьнікамі, асабліва з Брытанскім Саюзам і СССР. Гэтай мэце служылі спатканьні прэзыдэнта з Чэрчылем у Касаблянцы, Вашынгтоне і Квэбэку. Яны дыскутавалі справы вайны на Далёкім Усходзе з Чанг Кай-шэкам у Каіры (Эгіпет). Пасьля гэтага яны езьдзілі ў Тэгэран у Іране, у лістападзе 1943 году, для спатканьня з Язэпам Сталіным, прэм'ерам СССР. На гэтай канфэрэнцыі Вялікая Тройка згадзілася ваяваць супроць Нямеччыны да канца.

Падчас прэзыдэнцкіх выбараў у 1944 годзе Рузвэльт быў выбраны на чацьвёрты тэрмін бальшынёй 3,600,000 галасоў.

Дня 4 лютага 1945 году Рузвэльт ізноў спаткаўся з Чэрчылем і Сталіным у Ялце на Крыме ў СССР. Тут яны пагадзіліся на пляны разгрому і акупацыі Нямеччыны, на трактаваньне вызваленай Эўропы і на запраектаваньне статуту Аб'еднаных Нацыяў. Там былі зробленыя некаторыя ўмовы, якія трымаліся ў таямніцы. Як рэкампэсата для СССР за ейнае будучае ўступленьне ў вайну супроць Японіі. Рузвэльт згадзіўся даць для СССР японскую частку Сахаліну і Курыльскія абтокі ды некаторыя часткі Кітаю. Сталін абяцаў, што Усходня-Эўрапейскія краі атрымаюць дазвол на незалежныя дэмакратычныя ўрады, выбраныя вольна пад наглядам Вялікіх Трох. Усе грамадзяне савецкіх краінаў павінны быць, бязумоўна, рэпатрыяваныя на сваю бацькаўшчыну; для палякаў і балтыйцаў было дазволена на дабравольны паварот на бацькаўшчыну.

Беларускія палітычныя эмігранты, як і вывезеныя ў Нямеччыну н арaботы "Остаўцы", добра памятаюць наступствы гэтых умоваў. Па сканчэньні вайны ў 1945 годзе яны стараліся рэгістравацца грамадзянамі Польшчы, Летувы, Латвіі, Чэхаславаччыны й іншых краінаў, а таксама хавацца па лясох, каб пазьбегчы прымусовай рэпатрыяцыі ў СССР. Амэрыканскія, ангельскія і францускія акупацыйныя ўлады Нямеччыны хапалі савецкіх грамадзян і гвалтам вязьлі іх у савецкія лягеры. Там імі займаўся Сьмерш, савецкая савецкая тэрарыстычная агэнцыя, якая пасьля сьледства расстрэльвала патэнцыяльных ворагаў, а рэшту вывозілі з Нямеччыны ў канцэнтрацыйныя лягеры на дасьмяротныя работы ў СССР.

На канфэрэнцыі ў Ялце Сталін быў вырашальным дзейнікам. Амэрыканскі дэлегат гэтай канфэрэнцыі, Эдвард Стэцініус, схарактэрызаваў гэту старану справы так: вырашэньнем спраў было ня тое, што Вялікабрытанія і ЗШПАмэрыкі дазволяць рабіць Расеі ў Польшчы, але тое, на што яны змогуць угаварыць Савецкі Саюз пагадзіцца. Рузвэльт збываў разважаныя справы, часамі, звычайнымі жартамі, як відаць, здаючы сабе справу з немагчымасьці атрымаць згоду Сталіна на свае прапановы.. Так, калі Молатаў гаварыў аб далучэньні да Польшчы даўных польскіх абшараў ува Ўсходняй Прусіі й над Одрай, то Рузвэльт запытаў: "Як даўно гэтыя землі былі польскімі?" Молатаў адказаў: "Вельмі даўно". На гэта Рузвэльт зазначыў: "Гэта можа скіраваць брытанцаў да жаданьня зьвярнуць ЗШПАмэрыкі Вялікабрытаніі".

Справа народаў, паняволеных у СССР, не плянавалася наагул для разваг канфэрэнцыі. Нават справа Летувы, Латвіі і Эстоніі, акупацыі якіх праз СССР у 1940 годзе Рузвэльт не прызнаў і не прызнаваў пазьней, ніколі ня была паднятая Рузвэльтам на канфэрэнцыях са Сталіным.

Такім чынам, Сталін мог вырашаць дыпляматычна, а наступна і забіраць мілітарна тое і стольki, на колькі ў яго хапала сілаў і магчымасьцяў.

Трэба адзначыць, што навязваючы дыпляматычныя зносіны з СССР, Рузвэльт выдатна дапамог стабілізацыі камуністычнага ўраду ў Маскве перадусім у ягоных міжнародных дачыненьнях. Цяпер бальшавіцкая Масква выдатна ўзмоцніла камуністычную дывэрсію ў краінах вольнага сьвету. Адначасна ўзмоцнілася шпіёнская дзейнасьць СССР у Амэрыцы. Ведамы амэрыканскі шпіён на карысьць Масквы, Гісс Алгер, які ад 1933 году працаваў у фэдэральным урадзе, пераказваў сак-

*(Далей на баг. 53, сл. 2-гі)*



# Пра "Лісткі календара" Максіма Танка й пра яго самога.

Нядаўна трапіў мне ў рукі пад гэткім загалоўкам выдадзены ў 1977-ым годзе выдавецтвам "Кніга й Веда" ў Варшаве ў польскім перакладзе дзёньнік Максіма Танка, які ён, жывучы перад Другой сусьветнай вайной у былой Заходняй Беларусі пад Польшчай, вёў у гадох 1935-1939. У гэным часе ён ужо быў ведамым паэтам. Вядомасьць здабыў ня стольki дзякуючы сваім творам, колькі тым, што за канспірацыйную дзейнасьць (быў сябрам нелягальных камсамолу й КПЗБ) засуджаны польскім судом сядзеў у турме на Лукішках у Вільні. У турме разам зь іншымі палітычнымі вязьнямі-беларусамі выдаў 6 нумароў нелягальнага рукапісу "Краты", у якім — як піша аўтар прадмовы польскага выданьня "Лісткоў Каляндара" нейкі Філёрыян Няўважны — "палажыў пачатак сваёй біяграфіі рэвалюцыйнага паэты". У іншым месцы сваёй прадмовы Няўважны піша: "Вільня была літаратурным і палітычным унівэрсытэтам Максіма Танка". Як ведама, Танк быў супрацоўнікам віленскага беларускага літаратурна-навуковага часапісу "Калосьсе", "Беларускага Летапісу" й адначасна быў цесна зьвязаны з польскай радыкальнай левай студэнцкай групай (група Гэнрыка Дэмбінскага), якая была пад уплывам КПЗБ й выдавала ў Вільні двухтыднёвую газэту "Папросту". У гэтай газэце была "Беларуская калонка", адным з рэдактараў якой быў Максім Танк. У Вільні ў гэтым часе былі выдадзеныя друкам ягоныя раньнія творы: зборнікі вершаў — " На этапах" (1936), "Журавінавы цьвет" (1937). "Пад мачтай" (1938) і паэма "Нарач" (1937). Дэбютанцкі зборнік вершаў "На этапах" і паэма "Нарач" былі польскімі ўладамі сканфіскаваныя.

Праз увесь дзёньнік, у якім ягоны аўтар шмат месца прысьвячае выказваньню сваіх пачуцьцяў і думак аб паэзіі й аб літаратуры наагул, апісвае шэрасьць свайго жыцьця ў бацькоўскай хаце ў вёсцы Пількаўшчына на вазёрнай Мядзельшчыне й у Вільні, дзе часта ня мае грошай на хлеб, асуджае фашызм, польскую санацыйную ўладу й ейны паліцыйны апарат, піша пра канспірацыйную дзейнасьць сяброў КПЗБ і свой у ёй удзел, чырвонай ніткай праходзіць, тады пэўне шчырае, захапленьне Савецкім Саюзам і камунізмам. Пры гэтым атакуе заходнябеларускія антыкамуністычныя арганізацыі й іхныя друкаваныя органы, а таксама паасобных паэтаў, публіцыстых, нацыянальна-культурных і грамадзка-палітычных дзеячоў, якія ня толькі не падзялялі ягонага захапленьня, а наадварот, нэгатыўна ставіліся да бальшавізму й Савецкага Саюзу — гэтай чырвонай савецкарасейскай імпэрыі, у якой бальшавікі нішчылі ўсе праявы беларускага нацыянальнага жыцьця. Асабліва дастаецца беларускім хадэкам (сябром і пасьлядоўнікам партыі Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя, на чале якой стаяў кс. Адам Станкевіч). Зьдзіўляе Танкава засьляпеньне ці хутчэй заплюшчваньне вачэй на бальшавіцкія гвалты й масавы тэрор у тагачаснай БССР, праводжаны з мэтай поўнага паняволеньня, дэнацыялізацыі й саветызацыі беларускага народу. Бо ня мог-жа ён ня ведаць пра прымусовую калектывізацыю сельскай гаспадаркі, масавыя арышты й вываз жыхарства ў Сібір. Максім Танк сядзеў у польскай турме не за свае сканфіскаваныя зборнікі вершаў, а за сваю канспірацыйную камуністычную *дзейнасьць*. (Як ведама, кіраваньня Масквой камуністычныя партыі ў межах даваеннай польскай дзяржавы — КПП і "аўтаномныя КПЗБ і КПЗУ — былі ў 1926 годзе польскімі ўладамі забароненыя). А беларускія паэты й пісьменьнікі ў Савецкай Беларусі былі прасьледваныя бальшавіцкай уладай за сваю *творгасьць!* Менавіта ў трыццатых гадох, калі Танк вёў свой дзёньнік, ягоныя суродзічы-паэты па другім баку рыскай граніцы былі жорстка рэпрэсываныя. Найвыдатнейшыя зь іх, найболыш таленавітыя былі ў 1933-1937 гадох арыштаваныя, пасаджаныя ў турмы й вывезеныя ў канцлягеры, дзе бальшыня іх загінула. Максім Танк,сёньняшні старшыня Саюзу Пісьменьнікаў БССР, ясная рэч, дакладна пра гэта ведае. Аднак гэта яму не перашкаджае ілжыва, ня міргнуўшы вокам, праслаўляць "свабоду творчасьці ў СССР". "Мы, савецкія пісьменьнікі — піша ён — творым у надзвычай спрыяльных абставінах, у здаровай маральнай і палітычнай атмасфэры, пры ўсебаковай падтрымцы нашага ўраду, нашай грамадзкай думкі й нашых творчых арганізацыяў."

Але вярнемся да Танкавых "Лісткоў календара". Пішучы ці адно ўспамінаючы ў іх пра

выдатных Беларусаў — паэтаў, пісьменьнікаў, публіцыстых, вучоных, грамадзка-палітычных і культурна-асьветных дзеячоў: Уладзімера Жылку, Цішку Гартнага, Міхася Чарота, Уладзімера Дубоўку, Уладзімера Хадыку, Максіма Гарэцкага, Алеся Дудара, Платона Галавача, Язэпа Пушчу, Анатоля Вольнага, Ігната Дварчаніна, Міколу Шчакаціхіна, Аляксанра Уласава, Антона Луцкевіча, Антона Неканда-Трэпку, Максім Танк ні славечкам ня кажа пра тое, што ўсе яны былі савецкай уладай рэпрэсыяваныя й амаль усе памерлі ў турмах, ссылках і канцлягерох. Віленскія Беларусы, хоць і не пагаджаліся з палітычнымі поглядамі Максіма Танка, ставіліся да яго зычліва й, высока цэнячы ягоны паэтычны талент, падтрымоўвалі яго, калі ён у 1935-ым годзе ставіў першыя крокі на сваім творчым шляху. У дзёньніку гэтым, напрыклад, што др. Грабінскі бясплатна лячыў ягоныя зубы. Ён асабліва шмат заўдзячае Станіславу Станкевічу, Рыгору Шырму й Янку Шутовічу, рэдактару часапісу "Калосьсе", які ахвотна зьмяшчаў у ім ягоныя творы. І вось у сваім дзёньніку, й асабліва ў прыпісах да яго, Максім Танк ганьбуе віленскіх выдатных Беларусаў, заслужаных дзеячоў беларускае культуры й шчырых беларускіх патрыётаў, загубленых бальшавікамі: пісьменьніка-драматурга Францішка Аляхновіча, паэту Макара Краўцова (Косьцевіча) й ксяндза Адама Станкевіча, ведамага ў б. Заходняй Беларусі грамадзка-палітычнага, культурна-навуковага й рэлігійнага дзеяча ды асабліва тых, што апынуліся на эміграцыі: Радаслава Астроўскага, Язэпа Найдзюка, Янку Станкевіча, Станіслава Станкевіча, Хвядара Ільляшэвіча, Наталю Арсеньневу за іхны "буржуазны нацыяналізм". Макара Краўцова ён чамусьці называе "украінскім паэтам, журналістым і перакладчыкам з расейскае мовы". Янку Станкевіча — "клерыкальным дзеячом", якім ён ніколі ня быў. Наталю Арсеньневу — "эстэтызуючай віленскай беларускай паэткай". Пад датай 21 студзеня 1937 году ён, як быццам апраўдваючыся перад сваімі партыйнымі верхаводамі, піша:

"На паседжаньні Беларускага Навуковага Таварыства, якое сабралася ў інжынера Трэпкі, я першы раз сустрэўся з Н. Арсеьневай. Шчыра кажучы, я не зьяўляюся прыхільнікам ейнай паэзіі, хоць некаторыя вершы, дэклямаваныя ёю ў гэты вечар, ачаравалі мяне лірызмам і вобразнасьцяй. Трэба прызнаць, што яна патрапіць свае інтымныя почуцьці субтыльна выказаць у паэзіі. Цяпер, пасьля доўгага пэрыяду маўчаньня, перажывае як быццам узьлёт. Апошнім часам шмат публікуе. Цэлы вечар мы зь ёй сядзелі побач. Гаспадар нас нават сфатаграфаваў. Пасьля выступленьня Арсеньневай папрасілі й мяне, каб я прачытаў свае вершы. Я прачытаў прывезеныя з Атвоцка (курортная мясцовасьць пад Варшавай, дзе ў санаторыі Максім Танк лячыўся — У. Б.) апошнія фрагмэнты "Нарачы". Калі мы ўжо разыходзіліся, нехта мяне пераконваў, што я павінен пісаць пра Арсеньневу, а і ў мяне самога зрадзіўся намер, каб напісаць верш пра нашу сустрэчу. Я заўважыў, што сярод прысутных было шмат сватоў, якія стараліся, каб паміж намі паўстаў творчы саюз. Няўжо яны ня ведаюць, што мы прынцыпова розныя, маем адменныя погляды? Гэта была прыпадковая сустрэча й я ня ведаю, ці яшчэ калі-небудзь сустрэнемся. Нашы дарогі разыходзяцца. Калі буду што-небудзь пісаць, дык выкажуся шчыра на гэту тэму". Танк пазьней сустракаўся з Натальляй Арсеньнявай, але аб гэтым ён у сваім дзёньніку ня піша.

Ён шмат у ім піша пра Рыгора Шырму, якога называе "дзядзька Рыгор". У запісе пад датай 1937 году дае зьедлівую характарыстыку ведамага сьпявака Паўла Пракапені, якога ў гэты дзень разам з Шырмам наведаў у гатэлі "Эўропа" ў Вільні. Пракапеня падараваў яму сваю фотаздымку. "Стаіць на ёй — піша Танк — абвешаны аж да пупа ордэнамі атрыманымі ад караля Віктара Эмануэля (Кавалерскі Крыж Італьянскай Кароны), ад папы (Ордэн Сьвятога Георга), ад польскага ўраду... Нават яму самому цяжка палічыць усе свае крыжы й мэдалі ды прыгадаць сабе, ад каго й за што іх атрымаў... Здаровы, як бык. Хваліўся, што як дзьмухне, дык гасіць сьвечку, запаленую ў другім канцы пакою. З зайздрасьцяй гаварыў пра іншых слаўных сьпевакоў, а сярод іх і пра свайго суседа, Міхала Забэйду-Суміцкага.

— Што вы мне так кажаце пра высокую культуру ягонага сьпеву! Як я засьпяваю ў сваёй хаце, дык Міхала ніхто ў ягонай роднай хаце не пачуе.

Танк хваліць "нізкі, сакавіты" голас Пракапені. "Даў яму Бог талент, — піша ён, — але розуму, як відаць, пашкадаваў. Вельмі цяжка зь ім весьці гутарку". Танк меў ураженьне, што Пракапеня ня слухаў, што да яго гаварылася й таму ён пераскакваў з аднае тэмы на другую. "Ні з таго, ні з сяго пачаў расхвальваць віленскіх прастытутак: — Але-ж маеце тут дзевак!..

— Дзядзька Рыгор прынёс яму некалькі беларускіх песьняў, але гэты жарабец-мэдаліст адмовіўся іх выканаць і сказаў, што засьпявае іх толькі тады, калі Беларусы заплацяць яму за канцэрт... Пры разьвітаньні відаць схамянуўся, што ляпнуў глупства, вымагаючы ад нас заплаты — пачаў апраўдвацца:

— Телькі не падумайце, што я ўсяго, што роднае, выракся. У маім пашпарце выразна напісана, што я — Беларус... Зараз вам пакажу, самі можаце пераканацца...



Максім Танк наведаў некалькі разоў Варшаву. У Варшаве нейкі час жыла й працавала ягоная нарачоная Люба Асаевіч, будучая жонка, якую ён у дзёньніку пяшчотна называе Лю. Хоць яму нельга было зь ёй сустракацца, бо правілы канспірацыі (яна была пасланая туды на партыйную работу, працавала машыністкай і перакладчыцай у ЦК КПЗБ) ім гэтага не дазвалялі, але яны там усё-ж сустракаліся. 2 ліпеня 1939 году варшаўскія Беларусы зладзілі ў памешканьні Беларускага Асьветнага Таварыства пры Сьвентакржыскай вуліцы літаратурны вечар Максіма Танка. Падаравалі яму букет кветак і партфель. Ён абяцаў ім, што на наступную сустрэчу прывязе ў ёй новыя творы. На другі дзень, 3 ліпеня, адбылася на "таварыскім сходзе" ў Прафэсыянальным Саюзе Польскіх Пісьменьнікаў сустрэча з Максімам Танкам, на якой ён дэклямаваў свае вершы, перакладзеныя на польскую мову й у арыгінале. Ён у сваім дзёньніку не напісаў, што гэта сустрэча з польскімі пісьменьнікамі адбылася дзякуючы стараньням галоўнага заснавальніка й актыўнага дзеяча Беларускага Асьветнага Таварыства Пятра Ластаўкі, на якога просьбу яе зладзіў ведамы польскі пісьменьнік Мэльхіёр Ванькові, які паходзіў зь Беларусі й прыхільна ставіўся да Беларусаў. Мабыць таму, што Ластаўка, былы грамадавец, быў шчырым беларускім патрыётам, а не камуністым. Беларускі патрыятызм і расейска-савецкі камунізм нясумяшчальныя, яны ўзаемна выключаюцца. Тых прастадушных Беларусаў, якія паверылі ў камунізм і хацелі спалучыць яго ў сваёй дзейнасьці ці адно ў выказваньнях, расейска-савецкі камунізм зьнішчыў.

"Вызваленьне" Заходняй Беларусі савецкай Чырвонай Арміяй у верасьні 1939 году застае Танка ў роднай Пількаўшчыне. 10 кастрычніка ён выяжджае ў Вільню на выклік савецкага начальніка Часовае Управы гораду І. Клімава. У Вільні, у памешканьні Любы Асаевіч яго чакае запрашэньне на літаратурны вечар "з удзелам заслужаных беларускіх паэтаў — Пятруся Броўкі і Пятра Глебкі. Вечар адбыўся ў залі тэатру "Лютня". Танк выступіў "адным з апошніх" з дэклярацыяй фрагмэнтаў з "Нарачы" й новага верша "Здарова таварышы!" * Неўзабаве ўладзіўся на працу ў рэдакцыі савецкай газэты на беларускай мове "Віленская праўда", але ненадоўга, бо ў сувязі зь перадачай Вільні яшчэ незалежнай тады Лятуве вяртаецца ў Пількаўшчыну. 25-га кастрычніка прыяжджае ў недалёкую Вялейку, дзе атрымоўвае працу ў абласной газэце "Віленйская праўда" (яна пазьней будзе называцца "Сялянская газэта") — прадаўжальніцы "Віленскай праўды", рэдакцыя якой пераехала зь Вільні. Танк працуе ў рэдакцыі разам зь Любай Асаевіч. Ён — рэдактарам аддзелу літаратуры, яна — машыністкай.

У Вялейку, малы павятовы горад, які пасьля перадачы Вільні Лятуве стаўся абласным цэнтрам, нахлынула з Савецкага Саюзу шмат новых жыхараў, г. зв. "усходнікаў", як яны самі сябе й мясцовыя жыхары іх называлі — Расейцаў або зрусыфікаваных Беларусаў, пераважна партыйцаў, якіх савецкая ўлада прыслала на працу ў розных савецкіх установах. Не хапала кватэраў. "Жывём у невялікім пакойчыку ўтраёх: Кананюк, Мілянцэвіч і я. У нас усяго толькі два ложкі, стол, этажэрка й адно крэсла. Нічога больш у гэтым пакоі не памесьціцца. Сплю на стале..." — піша Танк у дзёньніку пад датай 29-га кастрычніка. Апісваючы Вялейку, ён напісаў: "Цяжка цяпер пазнаць гэта глухое даўней, павятовае мястэчка, славутае адно сваім высокім касьцёлам і пабудаванай яшчэ пры цары турмой". Але ён не напісаў, што ў гэтай турме ніколі, ні "пры цары", ні пазьней за польскіх часоў, не сядзела столькі вязьняў, колькі пасьля "вызваленьня": "вызваленцы" хутка перапоўнілі яе арыштаванымі імі "вызваленымі". І ніколі, ясная рэч, не напіша, што пасьля ўцёкаў бальшавікоў у чэрвені 1941-га году у турме (якая была спаленая) й асабліва каля яе ў зямлі было знойдзена шмат трупаў. Гэта былі замардаваныя энкавэдыстымі вязьні.

Працуючы ў рэдакцыі газэты, але не налаўчыўшыся яшчэ пісаць паводля сацрэалістычнагі шаблёну, калі трэба апісаць усё не

*) Ніжэй падпісаны быў прысутны на гэтым вечары, які быў аб'яўлены як "вечар беларускае літаратуры". Няпрыемна ўзразіла ўступнае слова на расейскай мове, якое сказаў нейкі савецкі палітрук у вайсковым мундуры. З абшырным дакладам на беларускай мове выступіў беларускі савецкі літаратурны крытык Алесь Кучар, які закончыў яго словамі вітаньня па адрасу паэтаў Заходняй Беларусі Максіма Танка, Міхася Машары, Міхася Васілька, Натальлі Арсеньневай і іншых.

такім, якім яно ёсьць у рэчаіснасьці, а такім, якім яно паводля партыі павінна быць, не навучаны горкай дасьведчанасьцяй, Танк 2-га лістапада ў сваім дзёньніку напісаў:

"Зьбіраюся на будову дарогі Вялейка-Маладэчна, каб напісаць рэпартаж або верш для нашай газэты. Я ўжо некалькі разоў быў на розных адрэзках гэтай публічнай будовы. У часе апошняга выезду папсаваўся наш рэдакцыйны самаход і я начаваў у Красным, а адтуль цягнікам, з перасадкамі й рознымі прыгодамі па дарозе, дабраўся дадому. Мой рэпартаж з гэтага падарожжа рэдактар адкінуў, бо я не паказаў "бязьмежнага энтузіязму будаўнікоў". А які-ж мог быць там энтузіязм, калі якраз ліў ледзяны дождж і на цэлым адрэзу, было толькі некалькі фурманак, якія прывезьлі каменьне *. Можа й новы мой рэпартаж чакае гэткі самы лёс. Ніяк не магу ахапіць гэтага чагосьці нехапанага, што дае рэпартажам іншых супрацоўнікаў нашае газэты зялёнае сьвятло на ейных бачынах, хоць з гэтага мала што застаецца ў памяці. З запісу пад датай 18 лістапада:

"Званілі з рэдакцыі "Полымя". Маюць намер даць у вадным з нумароў выбар маіх вершаў. Пыталіся, каго-б я ім яшчэ дарадзіў публікаваць з заходня-беларускіх паэтаў. Нагул, калі мы яшчэ трошкі арыентуемся ў беларускай савецкай літаратуры, дык нашы менскія таварышы аж да самога вызваленьня амаль нічога ня ведалі й ня чулі пра многіх з нас".

Скроз радасьць з "вызваленьня" прабіваецца ў Танкавым дзёньніку сум і прыгнятаючая шэрасьць штодзённага жыцьця. 26 лістапада:

"Я напісаў некалькі слабых, газэтных вершаў. Стаю над пустой студняй, зь якой — як мне здаецца — я вычарпаў усё да дна, і ня ведаю, калі яна ўзноў напоўніцца жывой вадой. А можа не напоўніцца?.."

Дзёньнік канчаецца на запісе пад датай 28-га лістапада, зь якога даведваемся, што ягоны аўтар атрымаў тэлеграму ад старшыні Саюзу Пісьменьнікаў БССР Міхася Лынькова, які выклікаў яго ў Менск.

Узыйшоўшы на шлях кар'ерызму, вельмі таленавіты паэта Максім Танк стаўся па Другой сусьветнай вайне савецкім партыйна-літаратурным вяльможам: дэпутатам у Вярхоўныя Саветы БССР і СССР, лаўрэнтам сталінскай і ленінскай прэміяў, сябрам ЦК кампартыі Беларусі, старшынём Вярхоўнага Савету БССР (6-7 складу) старшынем Саюзу Пісьменьнікаў БССР і сакратаром Саюзу Пісьменьнікаў СССР, акадэмікам АН БССР, гэроем сацыялістычнай працы СССР. Ён узнагароджаны ганаровым тытулам "народнага паэты БССР", двума ордэнамі Леніна, ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі, чатырмя іншымі ордэнамі, залатым мэдалём "Барацьбіту за мір", ахвіцэрскім крыжам адраджэньня Польшчы й іншымі. Адным словам, узнагародаў — хоць адбаўляй. Апрача ўсяго гэтага ён яшчэ зьяўляецца старшынём рэспубліканскага (бэсэсэраўскага) камітэту Таварыства савецка-польскай дружбы. За пераклады на беларускую мову некаторых твораў Міцкевіча, Славацкага (ад наймалодшых гадоў Танк зачараваны польскай рамантычнай паэзіяй) і польскага паэты-камуніста Бранеўскага (даніна партыі) атрымаў літаратурныя прэміі Таварыства польска-савецкай дружбы й польскага Таварыства аўтараў (ZAIKS).

Перад вайной, у трыццатых гадох, Танка ўсхвалявала крыўда нарачанскіх рыбакоў, якім польскія ўлады забаранілі лавіць рыбу сваімі сеткамі. Для бязьзямельных і малазямельных сялянаў-рыбакоў рыбалоўства з даўных часоў было бадай адзінай крыніцай існаваньня, й яны выступілі супраць гэтай забароны. Выбухнула забастоўка, бо рыбакі не хацелі лавіць рыбу для прыватнага акцыйнага таварыства, якому было здадзена ў арэнду возера Нарач. Іхнай барацьбе ён прысьвяціў сваю паэму "Нарач".

Сёньня Максім Танк, калі ён сам, як калісь Пракапеня, "абвешаны аж да пупа ордэнамі", ужо не хвалюе нядоля нарачанскіх рыбакоў, якіх сытуацыя цяпер шмат горшая, чымся тады, калі ён пісаў "Нарач". Яны, прымусам загнаныя расейска-савецкай уладай у ненавісныя калгасы й саўгасы, зь якіх ня могуць выйсьці й ня могуць, як у 1935 годзе, забаставаць, жывуць бяз пробліску надзеі на лепшае заўтра. Марнуючы свой вялікі паэтычны талент, Максім Танк сёньня выслугоўваецца "роднай партыі": насабачыўшыся пісаць паводля канонаў сацрэалізму, праслаўляе ў сваіх творах "дасягненьні сацыялістычнага будаўніцтва".

*) Ніякага энтузіязму ў будаўнікоў "дарогі Мінск-Вілейка" (савецкі афіцыйны назоў будаванай дарогі), дабаўлю я ня толькі ў той дзень, "калі якраз ліў ледзяны дождж", ні пазьней зімою ў лютую сьцюжу (зіма была страшэнна марозная й сьнежная), калі сяляне вазілі каменьне (якое яны мусілі самі пад сьнегам шукаць, часта далёка ад дому) у санях, але нават вясной і ўлетку, калі было сонечна й цёпла, ня было й не магло быць, бо іхная праца, як у часы прыгону, была прымусовая й бясплатная.



Праўда, пасьля сьмерці Сталіна, у часе хрушчоўскай г.зв. "адлегі" й пазьней аж да 1977-га году, Танк апублікаваўшы ў 1962 годзе "Кесарава — Кесару", у якім ён сказаў, што, аддаўшы ў сваёй творчасьці абавязковую й неабходную даніну Кесару, г. зн. партыі, ён служыць Богу паэзіі — сапраўднаму мастацтву, напісаў шмат вершаў на высокім мастацкім узроўні на розныя тэмы, нават інтымныя. Але ў 1977-ым годзе, калі ў Савецкім Саюзе сьвяткаваліся 60-ыя ўгодкі Кастрычніцкага перавароту, была прынята новая савецкая Канстытуцыя й афіцыйна абвешчана сфармаваньне адзінага савецкага народу з адзінай савецкай культурай, Танк ізноў пачаў служыць чырвонаму маскоўскаму Кесару. У інтэрвію, зьмешчаным у газэце "Літаратура і Мастацтва" за 5 травеня 1978 году з нагоды атрыманьня ім Ленінскай прэміі за кнігу расейскіх перакладаў (!) ягоных вершаў "Нарачанскія сосны" пад вымоўным загалоўкам "**Лічу сябе змабілізаваным**", Танк сказаў: "І ўсе мы, у тым ліку і я асабіста, лічым сябе змабілізаванымі як мага глыбей адлюстроўваць жыцьцё народу, яго гераічныя справы, подзьвігі на ўсіх франтах стваральнай працы і барацьбы за мір, за ажыцьцяўленьне грандыёзных плянаў нашай партыі".

Таленавіты паэта ператварыўся ў партыйнага прапагандыста.

*Уладзімер Брылеўскі*

**60-годзьдзе ўтварэньня СССР.**

*(Перанос із баг. 45-ай)*

сурсаў краю, зьбіраючы ў руках маскоўскага ўраду з усяе дзяржавы вялізарныя даходы, якія выдаткоўваюцца на бязьмежнае збраеньне, мілітарызацыю і праводжаньне імпэрыялістычнай экспансыі Савецкай Расеі ўва ўсім сьвеце, пагражаючы сягоньня вольнаму існаваньню рэшты самастойных дзяржаў сьвету.

*І. К.*

**Стоагдзьдзе з дня нараджэньня Рузвэльта**

*(Перанос із баг. 48-ай)*

рэтныя дакументы Дзяржаўнага Дэпартамэнту для СССР. Ён быў удзельнікам некалькіх міжнародных канфэрэнцыяў падчас Другой Сусьветнай вайны. Яго выкрылі толькі пасьля сьмерці Рузвэльта 3 жніўня 1948 году як важнага шпіёна і пакаралі турмой.

Рузвэльт памёр 12 красавіка 1945 году падчас лячэньня ў Ворм Спрінг, Джорджыя, ад мазгавога кровяцячэньня.



## АМЭРЫКАНСКАЯ ДАПАМОГА БЕЛАРУСАМ

Аб амэрыканскай дапамозе народам, пацярпеўшым ад зьнішчэньня Першай Сусьветнай вайны, ёсьць розныя дадзеныя, якія могуць быць няпоўнымі, або тэндэнцыйнымі дзеля розных прычынаў. Непасрэдных беларускіх дадзеных аб гэтай справе няма.

Тэндэнцыйнымі былі весткі, пашыраныя ў тыя часы савецкімі агэнтамі ў Заходняй Беларусі, што нібы па сканчэньні вайны ў Эўропе засталіся вялікія запасы амэрыканскіх харчоў, прывезеных для яе арміі. Было таней раздаць іх дарма ў форме дапамогі, чым везьці назад у Амэрыку, або тапіць у акіяне. Таму і была арганізаваная гэтая дапамаговая акцыя. Зразумела, што бальшавіцкаму ўраду Масквы залежала на кампрамітаваньні і чарненьні вялікіх свабодаў, заможнага жыцьця і добрага сэрца амэрыканскага народу, слава аб якіх ішла шырака па ўсім сьвеце.

Амэрыканскі Кангрэс прыняў адмысловую пастанову аб дапамозе дзецям у краінах, пацярпеўшых ад Першай Сусьветнай вайны, і прызначыў адпаведны Амэрыканскі Камітэт Дапамогі Дзецям. Гэты камітэт і разгарнуў сваю дзейнасьць у асаблівасьці пад старшынствам Гэрбэрта Гувэра, пазьнейшага прэзыдэнта Амэрыкі.

Урад Савецкай Беларусі не займаўся справамі гэтай дапамогі, як гэта хацеў зрабіць Амэрыканскі Камітэт. Урад Савецкай Расеі ў Маскве забраў гэту справу ў свае рукі. Дзеці ў Савецкай Беларусі не атрымалі гэтай амэрыканскай дапамогі. Многія цяпер ужо старыя беларусы, якія зараз жывуць у Амэрыцы, на пачатку 1920-х гадоў былі малымі дзяцьмі-школьнікамі на Менскай, Бабруйскай, Мсьціслаўскай, Полацкай і іншых землях. Цяпер яны сьцьвярджаюць аднагалосна, што яны не атрымлівалі ніякай амэрыканскай дапамогі ў тыя часы, як і ня чулі нічога аб тым,

каб амэрыканская дапамога наагул была. Яны цьвердзяць, што ад іх бацькоў бальшавіцкія ўлады тады забіралі ўсё, а не давалі штонебудзь.

У Заходняй Беларусі, якая тады была пад польскім панаваньнем, амэрыканская дапамога давалася дзецям. Аднак, тут праводзілася рознага характару дыскрымінацыя пры прыдзеле гэтай дапамогі. Ніжэй падаецца аб тым, як гэта дапамога давалася ў паветавым горадзе (Старой) Вялейцы, Віленскай зямлі.

У Вялейцы тады былі дзьве гімназіі: польская — урадавая і расейская — прыватная, бацькаўскага камітэту вучняў. Вучнямі польскай гімназіі былі дзеці польскіх урадоўцаў, вайскоўцаў, асаднікаў, спалёнізаванай шляхты і невялікая колькасьць жыдоўскіх дзяцей; беларусаў там ня было, хіба такія, што запісваліся палякамі. Бальшыня вучняў расейскай гімназіі былі дзяцьмі беларускіх сялян, мяшчан, праваслаўнага духавенства і часткова інтэлігенцыі. Дзеці духавенства і інтэлігенцыі былі моцна зрусыфікаваныя. Каля чвэрці вучняў гэтай гімназіі былі дзяцьмі мясцовых жыдоў. Гэту гімназію арганізаваў і быў ейнай душой мясцовы праваслаўны сьвятар Антон Мірановіч. Ён быў беларусам па паходжаньню, але моцна зрусыфікаваным. Гімназія ўтрымлівалася з аплатаў вучняў за навуку.

У канцы 1921 году інспэктар гімназіі, Клаўдзі Мірановіч, сын сьвятара, паведаміў вучняў, што Амэрыканскі Камітэт Дапамогі Дзецям будзе даваць дапамогу харчамі вучням гэтай расейскай гімназіі. Дапамога будзе праводзіцца Польскім Камітэтам пад агульным наглядам амэрыканцаў. Бацькоўскі камітэт гэтай гімназіі, як і ейная пэдагагічная рада ня былі дапушчаныя палякамі да ўдзелу пры арганізацыі гэтай дапамогі і пры распадзеле яе. Толькі для перадачы інфармацыяў адносна дапамогі быў пакліканы праз польскі камітэт інспэктар К. Мірановіч.

На пачатку праводзіліся апытаваньне ўсіх вучняў аб тым, як яны зараз харчуюцца, а асабліва як забясьпечваюцца харчамі замясцовыя вучні. Пазьней прыйшло паведамленьне, што ўсе вучні будуць атрымліваць дапамогу.

Дапамога давалася ў форме другога сьнеданьня падчас перапынку школьных заняткаў а 12-й гадзіне дня ў школьныя дні. Калі заняткаў у школе ня было, то гэта сьнеданьне недавалася. Для расейскай гімназіі польскі камітэт гатаваў у вялікім катле пераважна зацірку, а часамі суп з фасолі або гароху. Зацірка была з пшанічнай "амэрыканскай" мукі, была прыпраўленая трохі тлушчам і малаком. Дзеці ахвотна яе елі. Кацёл з заціркай звычайна стаяў на дварэ перад уваходам у школу. Вучні павінны былі прыносіць свае міскі, ці гарнушкі і лыжкі. Незалежна ад пагоды, у дождж і сьнег так сама, яны павінны былі станавіцца ў чаргу перад катлом, атрымлівалі палонік заціркі ды ішлі ў свае клясы есьці яе.

Інспэктар К. Мірановіч паведаміў вучняў, што ў польскай гімназіі даюць вучням на сьнеданьне какао і булачкі з амэрыканскай дапамогі, але для расейскай гімназіі нельга спадзявацца атрымаць гэта.

Вучні жыдоўскага паходжаньня ня елі зацірку разам з рэштай вучняў расейскай гімназіі. Яны атрымлівалі амэрыканскую дапамогу ў форме пачак з ежай, якія даваліся ім да хаты ў пэўных одступах часу. Як паведамляў інспэктар Мірановіч, у пачках быў цукар, рыс, пшанічная мука, масла, мясныя і рыбныя кансэрвы, кава, какао, шакалад, сухое малако і іншае. Зразумела, што з гэтых пачак да хаты магла карыстаць уся сям'я вучня.

Інспэктар Мірановіч казаў, што вучням расейскай гімназіі ня трэба і марыць аб той дапамозе, якая даецца вучням польскай гімназіі, як і вучням-жыдом з расейскай гімназіі. Добра, што хоць зацірку даюць для гэтай гімназіі.

Вясной 1922 году, перад заканчэньнем амэрыканскай дапамогі, вучняў расейскай гімназіі паведамілі, каб яны прышлі ў нядзелю ў прызначаны час у гімназію і прынясьлі з сабой кубкі. Там яны атрымаюць какао з пірагом, а для амэрыканскага камітэту будзе зробленая фатаграфія з вучняў. Дзеці прышлі й іх расставілі на ўсходках да школы групай у некалькі радоў, з кубкамі ў руках нібы з какао, а на перадзе паставілі даўгія сталы з пірагамі на вялікіх падносах. Аднак, дзеля таго, што кубкі былі парожныя, дык некаторыя вучні трымалі іх дагары дном, дэманструючы фактычны стан.

Скора прыехаў амэрыканскі прадстаўнік. Разам з польскім камітэтчыкам ён стаў сярод вучняў, і фатаграфіі для амэрыканца былі зробленыя. Гэта фатаграфія была пазьней раздадзеная і вучням на памяць. Пасьля сфатаграфаваньня вучням загадалі ісьці да хаты без пачастунку.

Гэта амэрыканская дапамога трывала ад кастрычніка 1921 году да канца красавіка 1922 году. Паводля слоў інспэктара Мірановіча дапамога выглядала хутчэй на ласку польскіх уладаў, чым на дапамогу амэрыканскага народу.

*І. Касяк*



**БЕЛАРУСКІ КАНГРЭСАВЫ КАМІТЭТ АМЭРЫКІ**

## ЗАХАДЫ ПЕРАД АБ'ЕДНАНЫМІ НАЦЫЯМІ

15 лістапада 1981 г. БККА выслаў мэмо місіям Аб'едналых Нацыяў у Нью Йорку, насьвятляючы падзеі з барацьбы беларускага народу за вызваленьне і сучасны стан на Беларусі, паняволенай Савецкай Расеяй. У мэмо пададзены сьпіс сучасных кіраўнікоў Ц. К. Камуністычнай партыі БССР, якія зьяўляюцца амаль поўнасьцю расейцамі.

## ЗАХАДЫ ПЕРАД УРАДАМ ЗШП АМЭРЫКІ

Дня 10 сакавіка 1981 г. у Белым Доме ў Вашынгтоне адбылося ўрачыстае абвешчаньне прэзыдэнтам Рэйганам Дня Афганістану на 21 сакавіка 1982 г., прысьвечанае адвазе афганістанскага народу і падтрымцы свабоды ўва ўсім сьвеце. На гэту ўрачыстасьць былі запрошаныя шматлікія прадстаўнікі амэрыканскіх арганізацыяў паняволеных народаў. Ад БККА быў запрошаны яго старшыня І. Касяк.

Дня 18 сакавіка 1982 г. БККА выслаў Прэзыдэнту Рэйгану ліст з падзякай за абарону Афганістана і свабоды ўва ўсім сьвеце, зьвяртаючы ўвагу на неабходнасьць стасаваньня эфэктыўных сродкаў.

Дня 8 сакавіка 1982 г. БККА выслаў мэмо кангрэсманам у Вашынгтон (каля 150), якія цікавяцца справай паняволеных народаў. У гэтым мэмо насьвятлялася справа абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі дня 25 сакавіка 1918 г., як і справа адзначаньня ўрадам СССР сёлета 60-годзьдзя існаваньня Савецкага Саюзу. Мэмо высьвятляла, што СССР ня ёсьць дабраахвотны саюз самастойных нацыянальных дзяржаў, а толькі прапагандовы і ашуканчы назоў для савецкай расейскай імпэрыі. У мэмо пададзеныя шматлікія злачынствы Крамлёўскага ўраду над беларускім народам.

9 лютага высланы ліст да губэрнатара штату Нью Йорк з просьбай абвесьціць дзень 25 сакавіка 1982 г. за Беларускі Дзень Незалежнасьці. Адначасна высланы лісты з матар'яламі да ўсіх упаўнаважаных БККА, каб яны зрабілі тое самае перад сваімі губэрнатарамі і мэрамі гарадоў.

Дня 28 кастрычніка 1981 г. БККА выслаў ліст Прэзыдэнту Рэйгану з просьбай прызначыць амэрыканца беларускага паходжаньня ў прэзыдэнцкую Раду Мэмарыялу Голакаўсту. У лісьце пададзеныя інфармацыі з лічбамі аб вынішчэньні беларускага насельніцтва нямецкімі і савецка-расейскімі карнікамі падчас Другой Сусьветнай вайны. З Белага Дому быў атрыманы ліст дня 7 сьнежня 1981 г., які паведамляў, што ліст БККА перасланы для вырашэньня ў Бюро Прэзыдэнцкага Пэрсаналу.

Дня 15 студзеня 1982 г. быў атрыманы другі ліст з Белага Дому, які паведамляў, што інфармацыі з ліста БККА будуць прынятыя пад увагу, а ліст захоўваецца пастаянна ў актах.

Дня 8 сьнежня 1981 г. кангрэсман ЛеБутыліер, са штату Нью Йорк, запрасіў старшыню БККА адносна дэфіцытаў фэдэральнага бюджэту і зраўнаважаньня гэтага бюджэту з даходамі. У адказ быў высланы ліст з пажаданьнямі зраўнаважаньня фэдэральнага бюджэту. Адначасна сьцьвярджалася шкоднасьць вялізарнага дзяржаўнага доўгу і вялізных працэнтаў, плочаных за яго, ды прапанавалася сплачваньне гэтага доўгу, бо неабмежаваны рост дзяржаўнага доўгу пагражае фінансавым крахам дзяржаве.

Кангрэсман Маріо Біяджы, з Нью Йрку, лістом з 16 кастрычніка 1981 г. паведаміў БККА, што ён быў удзельнікам прадаўжэньня ў кангрэсе на 10 год Закону аб Правох Галасаваньня, далучаючы сваю прамову ў гэтай справе. БККА выслаў яму падзяку.

28 верасьня 1981 г. БККА выслаў ліст кангрэсману Чарльсу Догэрты па справе ачоліванага ім Ад Гок Кангрэсавага Камітэту для Балтыйскіх Краін і Украіны. У лісьце было пажаданьне ўключыць Беларусь у склад народаў гэтага кангрэсавага камітэту. Прадстаўніком БККА былі высланыя дня 10 кастрычніка 1981 г. інструкцыі аб высланьні імі ад сябе паасобных лістоў да кангрэсмана Догэрты.

30 ліпеня 1981 г. БККА выслаў ліст кангрэсману Бэрнарду Двайеру з просьбай дапамагчы атрымаць фінансавую дапамогу з Праграмы Студыяў Этнічнай Спадчыны для публікацыі інфармацыйных матар'ялаў аб Беларусі для Амэрыкі. У лісьце з дня 11 жніўня 1981 г. кангрэсман зажадаў дадатковых інфармацыяў аб установе, якая дае дапамогу. Такія інфармацыі былі высланыя, а 9 верасьня 1981 г. быў атрыманы ліст кангр. Двайера, які паведамляў, што бюджэтныя скарачэньні даюць магчымасьць толькі канчаць распачатыя раней працы.

Дня 4 верасьня 1981 г. атрыманы ліст з далучанай прамовай М. Кампэльмана, старшыні Амэрыканскай Дэлегацыі Дзяржаўнага Дэ-

партаманту на Мадрыдзкую Канфэрэнцыю, адносна спраўджаньня міжнароднага стасаваньня ранейшай умовы, зробленай у Гэльсінках. У сваім адказе Дзяржаўнаму Дэпартаманту БККА сьцьвердзіў, што ўрад СССР зараз імкнецца да фінлядызацыі Заходняй Эўропы, а не да міжнароднай бясьпекі і супрацоўніцтва ў Эўропе.

Кангрэсман Т. ЛеБутыліе прыслаў БККА ліст з дня 22 красавіка 1981 г. з дадаткам "Кангрэсавага" Рэкорду, у якім ён зьмясьціў ліст БККА да яго па справе адзначаньня ўгодкаў 25 сакавіка ў 1981 г. У адказе БККА з дня 6 траўня 1981 г. было выражана прызнаньне за яго прапанову ўключыць у радыёперадачы "Вольнай Эўропы" і "Свабоды" мовы мусульманскіх народаў Сярдняй Азіі. У адказ кангр. ЛеВутыліе прыслаў пісьмовую падзяку з дня 15 ліпеня 1981 г.

Кангр. Э. Дэрвінскі прыслаў для БККА дня 9 красавіка 1981 г. зборнік прамоваў і сьведчаньняў адносна адзначаньня 20-х угодкаў Тыдня Паняволеных Народаў у Кангрэсе. БККА падзякаваў за зборнік і зьвярнуў увагу на небясьпеку з боку СССР, якая: а) будзе бараніць "сацыялізм" у кожным краю сьвету; і б) не дазволіць, каб хто-небудзь на сьвеце перавысіў мілітарную сілу СССР.

Сэнатар Баб Дол дня 1 красавіка прыслаў ліст, з далучанымі аркушамі "Кангрэсавага Рэкорду", дзе было яго выступленьне ў сэнаце з нагоды Беларускага Дня Незалежнасьці. Адначасна ён паведаміў, што зрабіў захады перад "Голасам Амэрыкі", Белым Домам і Дзяржаўным Дэпартаментам аб уводзеньні беларускай мовы ў праграму "Голасу Амэрыкі".

30 сакавіка 1981 г. высланы ліст Прэзыдэнту Рэйгану з пажаданьнямі хуткага выздараўленьня па выпадку і далейшай працы для дабра амэрыканскага народу, чаго жадалася і для пашкоджаных асоб яго сьвіты. 26 чэрвеня была атрыманая падзяка ад Прэзыдэнта за добрыя пажаданьні.

23 лютага 1981 г. атрыманы ліст ад кангр. Э. Дэрвінскага, які паведамляе аб выбуху бомбы ў "Вольная Эўропа" і "Свабода" ў Мюнхэне (Нямеччыне), як і аб зьмяншэньні бюджэту гэтых установаў адміністрацыяй прэз. Картэра. Кангрэсман уважае за неабходнае павялічыць працу гэтых радыёстанцыяў, як і "Голасу Амэрыкі", пашыраючы праўду за жалезнай заслонай.

3 лютага 1981 г. атрыманы ліст кангр. Дэрвінскага аб яго дзейнасьці ў кангрэсе ў Вашынгтоне.

10 сакавіка 1981 г. быў высланы ліст Прэзыдэнту Рэйгану аб 63-х угодках абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

4 сакавіка 1981 г. разасланыя лісты ўпаўнаважаным БККА аб іх зваротах да сваіх губарнатараў і мэраў гарадоў аб праклямаваньні Беларускага Дня Незалежнасьці.

3 сакавіка 1981 г. прыняты тэлефон ад адваката Г. Валошына з Вашынгтону, які прасіў аб дапамозе ў падтрымцы кандыдатуры д-ра Лефовэра на Заступніка Дзяржаўнага Сакратара. І. Касяк даў згоду на падтрымку.

15 сакавіка 1981 г. быў разасланы кангрэсманам мэмарандум аб падтрымцы імі 63-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

17 лютага 1981 г. БККА выслаў запрос у Дэпартамант Асьветы з просьбай прыслаць праграму на заяву аб фінансавай дапамозе на справу этнічных студыяў.

Дня 8 лістапада 1980 г. БККА выслаў выбранаму Прэзыдэнту Рэйгану ліст з пажаданьнямі посьпехаў у будучай працы для бясьпекі Амэрыкі, адбудовы пашаны да яе і для карысьці ўсіх амэрыканцаў. Дня 13 студзеня 1981 г. быў атрыманы адказ ад прэзыдэнта з падзякай за атрыманы ім ліст.

5 сьнежня 1980 г. былі атрыманыя матар'ялы ад кангр. Д. Фасцэля з прамовай Спэнсэра Олівэра, заступніка старшыні амэрыканскай дэлегацыі на Канфэрэнцыю ў Мадрыдзе па справе Бясьпекі і Супрацоўніцтва ў Эўропе.

8 сьнежня 1980 г. кангр. Гай Вэндэр Джагт былі высланыя для інфармацыі: копія ліста БККА да Прэзыдэнта Картара ад 17 студзеня 1980 г. і копія мэмарандуму да місіяў Аб'еднаных Нацыяў ад 14 кастрычніка 1980 г.

15 кастрычніка 1980 г. атрымана ад Амэрыканскай Місіі пры Аб'еднаных Нацыях асьведчаньне для прэсы, у якім падаюцца прапагандовыя і непраўдзівыя дадзеныя з прамоваў прадстаўнікоў СССР, Украіны і Беларусі, сказаных на паседжаньні Аб'еднаных Нацыяў падчас разважаньня справы зброй-нага савецкага нападу на Афганістан.

## ДАЧЫНЕНЬНІ З ПАНЯВОЛЕНЫМІ НАРОДАМІ

Дня 18 сакавіка 1982 г. у Латвійскім Грамадзкім Цэнтры Чыкага адбылася нарада прадстаўнікоў Паняволеных Народаў па справе праклямацыі Прэзыдэнтам Рэйганам дня 21 сакавіка 1982 г. за Дзень Афганістану. Пастаноўлена адзначыць гэты дзень акадэміяй. Ад беларусаў прымаў удзел І. Касяк.

21 сакавіка 1982 г. у Чыкага адбылася акадэмія, прысьвечаная Дню Афганістану. Галоўным прамоўцам быў прыехаўшы з Вашынгтону Заступнік Дзяржаўнага Сакратара для спраў Блізкага Усходу — Давід Шнайдэр. Ад беларусаў былі: І. Касяк, М. Каленік і В. Ромук з жонкай. Беларускі сьцяг у дэфілядзе нёс М. Каленік.

Старшыня БККА, І. Касяк, быў запрошаны на акадэмію Незалежнасьці Украіны, якая адбылася 24 студзеня 1982 г. у Чыкага, дзе ён быў прадстаўніком Беларусі.

Дня 18 кастрычніка 1981 г. у Чыкага адбылася акадэмія, прысьвечаная 40-годзьдзю абвешчаньня незалежнасьці Украінскай Дзяржавы дня 30 чэрвеня 1941 г. у Львове. Ад беларусаў быў запрошаны І. Касяк, які сказаў пры нагодзе прывітаньне, ў чарзе іншых нацыянальнасьцяў.

Нацыянальная Канфэрэнцыя Амэрыканскіх Этнічных Груп прыслала дня 11 лістапада 1981 г. ліст з прапановай для БККА аднавіць у іх сяброўства, куды БККА належаў раней, перад нутраным закалотам. У адказе на ліст была падзяка за запросіны, але прапанова была адхіленая. БККА належаў да НКАЭГ тады, калі там ня было ніякай беларускай рэпрэзэнтацыі, а цяпер туды належаць Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, якое і рэпрэзэнтуе беларусаў.

Дня 3 сьнежня 1980 г. быў высланы ліст да Аб'еднаньня Балтыйцаў у Бастоне адносна іх улёткі, на якой паказаная карта краінаў, абмінаючая Беларусь, азначаючы яе як Расею. Ліст зьвяртаў увагу на неабходнасьць падаваць аб'ектыўныя весткі аб Беларусі, а ня пашыраць непаразуменьняў.

12 жніўня 1980 г. БККА выслаў прывітаньне для Славянскай Амэрыканскай Нацыянальнай Канвэнцыі ў Балтыморы. Зьвернена ўвага на славянафільства расейскага ўраду царскіх і савецкіх часоў.

## УДЗЕЛ У ДЗЕЙНАСЬЦІ АНТЫБАЛЬШАВІЦКАГА БЛЁКУ НАРОДАЎ (АБН)

Беларускія аддзелы Амэрыканскіх Прыхільнікаў АБН, належачыя да БККА, прымаюць удзел у дзейнасьці Амэрыканскіх Прыхільнікаў АБН. 10 сакавіка 1982 г. у Чыкага адбылося паседжаньне ўправы АП-АБН. Паміж іншымі справамі на парадку народаў быў пункт аб дапамозе АД Гок Кангрэсаваму Камітэту для Балтыйскіх Краінаў і Украіны. І. Касяк запрапанаваў пад галасаваньне рэзалюцыю: прасіць названы Ад Гок Кангрэсавы Камітэт — а) уключыць у назвы Кангрэсавы Камітэт усе паняволеныя народы, і б) зьмяніць назоў гэтага камітэту на "Кангрэсавы Камітэт Паняволеных Народаў". Пасьля дыскусіі рэзалюцыя была прынята аднагалосна.

З Галоўнай Кватэры АБН у Нямеччыне былі атрыманыя матэр'ялы, датаваныя 2 сакавіка 1982 г. і 22 студзеня 1982 г., па справе апошніх падзеяў у Сусьветнай Анты-Камуністычнай Лізе (ВАКЛ), як і адносна прызнаньня для АБН асобнага тэрыторыяльнага статусу, як гэта маюць Эўропа, Далёкі Усход і іншыя абшары. Гэта апошняя справа напатыкае на перашкоды.

У днях 7 і 8 лістапада 1981 г. у Таронта (Канада) адбылася імпазантная канфэрэнцыя АБН, якую прывітаў лістом Беларускі Аддзел АП-АБН з Амэрыкі.

17 кастрычніка 1981 г. у Чыкага адбылося спатканьне мясцовага аддзелу АП-АБН са старшынёй АБН, Ярославам Стэцько, і галоўным рэдактарам часапісу "Карэспандэнцыі АБН", Славай Стэцько. Былі парушаныя справы бягучай дзейнасьці АБН. Ад беларусаў прымаў удзел І. Касяк.

19 верасьня 1981 г. у Чыкага адбылося агульнае паседжаньне ўправы аддзелу АП-АБН гораду Чыкага. Разважаліся справы ажыўленьня дзейнасьці гэтага аддзелу. Ад беларусаў прымаў удзел І. Касяк.

Ад 2 да 3 траўня 1981 г. у Нью Йорку адбыўся чарговы кангрэс АП-АБН. Справаздачы, дыскусіі, даклады й інфармацыі аддзелаў запоўнілі праграму кангрэсу. Адбыліся выбары новых кіруючых органаў АП-АБН. Адным з віцэ-прэзыдэнтаў быў выбраны І. Касяк ад Беларусі. Былі апрацаваныя і прынятыя рэзалюцыі па бягучых міжнародных справах.

7 сьнежня 1980 г. у Чыкага адбылася канфэрэнцыя АП-АБН, прысьвечаная Мадрыдзкай Канфэрэнцыі. Сп-ня Слава Стэцько дала інфармацыю аб акцыі ў Мадрыдзе, дзе адбыліся антысавецкія маніфэстацыі паняволеных народаў, раздаваліся ўлёткі, дэлегацыям урадаў былі даручаныя мэмарандумы ад украінцаў, беларусаў (БККА), славакаў, харватаў, румынаў і іншых. Адбыліся прэсавыя інтэрв'ю з гішпанскімі рэдактарамі, што дало даўгія артыкулы ў гішпанскай прэсе.

## РОЗНЫЯ СПРАВЫ

У сакавіку 1982 г. БККА атрымаў запрос з Унівэрсытэту Джорджа Вашынгтона па справе беларускага музэю. Дня 24 сакавіка была адасланая выпаўненая анкета, якая датычыла беларускага музэю ў Саўт Рываэры, Н. Дж.

Міжнародны Камітэт Сахарава, Інк. 4 лютага 1982 г. прыслаў ліст, запрашаючы БККА далучыцца да іх. Камітэт Сахарава адстойвае людзкія правы, але прамоўчвае нацыяналь-

ныя правы. Утрымліваньне калёніяльнага стану для народу зьяўляюцца вырашальным крытэрыем, а барацьба толькі за людзкія правы пры захаваньні нацыянальнай няволі ёсьць не да прыняцьця для паняволенага беларускага народу.

Міжнародная Група Юрыстых за Людзкія Правы ў Вашынгтоне прыслала ў лютым 1982 г. сваю публікацыю і просьбу аб грашавой ахвяры.

Дня 4 студзеня 1982 г. БККА выслаў падзяку бурмістру гораду Лейман у Заходняй Нямеччыне за яго дапамогу пры арганізацыі Г. Попкам у гэтым горадзе, беларускага музэю, прысьвечанага жыцьцю беларусаў у Нямеччыне падчас і пасьля Другой Сусьветнай вайны. Ад бурмістра Гэрбэрта Эрбара атрымана дня 26 студзеня 1982 г. пісьмовая падзяка і асьведчаньне, што будзе і надалей падтрымліваць распачатую працу арганізацыі беларускага музэю.

Дня 14 верасьня 1981 г. атрыманы запрос ад Энцыклёпэдыі Арганізацыяў для зьмяшчэньня ў ёй дадзеных аб БККА.

7 красавіка 1981 г. быў атрыманы запрос з апытальнікам ад установы — Досьледы Крыніцаў Гісторыі Чорных Нью Йорку — у адказ на які былі пададзеныя адрасы беларускіх бібліятэкаў: а) М. Панькова — Архіў у Брукліне і б) Беларуска-Амэрыканскага Аб'яднаньня пры Готык Др. у Квінсе; абедзьве ў Нью Йорку.

БККА ўтрымлівае сувязь з У. Сенькам, выдаўцом "Інфармацыйных Сшыткоў" на нямецкай мове, публікаваных на ратататары ў Штутгарце, Нямеччыне.

Сільвія Бэрнштэйн прыслала для БККА копію свайго ліста да А. Мазэўскага, старшыні Польскага Кангрэсу Амэрыкі, датаванага 10 сакавіка 1981 г., у якім заклікала яго да спалучэньня высілкаў палякаў Амэрыкі з іншымі паняволенымі народамі Амэрыкі, цьвердзячы, што самастойная акцыя палякаў ня будзе эфэктыўнай. Яна заклікала беларусаў арганізаваць акцыю з іншымі паняволенымі народамі для падтрымкі "Салідарнасьці" ў Польшчы. БККА адпісаў, што паняволеныя народы самі найлепш ведаюць аб сваіх патрэбах і з кім маюць супрацоўнічаць.

17 сакавіка 1981 г. БККА выслаў матар'ял аб Беларускім Дню Незалежнасьці 25 сакавіка ў газэту "Чыкагская Трыбуна", які ня быў зьмешчаны.

2 сакавіка 1981 г. БККА выслаў у газэту "Чыкагская Трыбуна" матар'ял аб ратаваньні жыдоў на Беларусі падчас Другой Сусьветнай вайны. Гэты крок быў выклікан артыкулам у гэтай газэце, дзе ўспаміналіся некаторыя народы, што ратавалі жыдоў у тыя часы. Матар;ял БККА ня быў апублікаваны газэтай

23 студзеня ад Фонду Рады Амэрыканскай Бясьпекі, быў атрыманы ліст у якім ёсьць падзяка за грашовую ахвяру і паведамленьне аб сваей працы і плянах.

Усходні Кансэрватыўны Фонд прыслаў дня 19 студзеня 1981 . ліст з просьбай аб дапамозе для Фонду Афганістан.

21 жніўня 1980 г. атрыманы запрос ад арганізацыі Інтэрнэт Людзкіх Правоў з Вашынгтону аб тым, дзе можна атрымаць публікацыю "Ліст да расейскага прыяцеля". Быў пададзены адрас у Лёндане, Англіі, дзе ліст быў апублікаваны нядаўна ў часапісе "Званіца".

### ДЗЕЙНАСЬЦЬ БККА Ў ПААСОБНЫХ ШТАТАХ

Сябры БККА і прадстаўнікі БККА ў паасобных штатах праводзяць беларускую дзейнасьць паводля існуючых абставінаў і сваіх магчымасьцяў. Яны зьвяртаюцца да сваіх губарнатараў і мэраў аб праклямацыі 25 сакавіка Беларускім Днём Незалежнасьці, арганізуюць богаслужэньні і акадэміі ў гэты дзень. Яны адзначаюць угодкі Слуцкага Паўтаньня і Другога Усебеларускага Кангрэсу, супрацоўнічаюць з іншымі паняволенымі народамі пры адзначаньні Тыдня Паняволеных Народаў. Яны выконваюць інфармацыйную працу аб беларускай справе пры адпаведнай нагодзе і інш. Цяпер маюцца сябры БККА і Прадстаўнікі БККА ў штатах: Нью Йорк, Нью Джэрсі, Флёрыда, Паўночная Караліна, Канэктыкут, Пэнсыльванія, Канзас, Іліноіс, Каліфорнія, Огайо, Калорадо, Мэйн і Дэлэвар.

### ФЭДЭРАЛЬНАЯ РЭСПУБЛІКА НЯМЕЧЧЫНА

У Нямеччыне працуе гэн. Д. Касмовіч, начальнік Галоўнага Штабу Беларускага Вызвольнага Фронту. У студзені 1982 г. ён прымаў удзел у паседжаньні Цэнтральнага Камітэту АБН у Мюнхэне. Ён зрабіў даклад аб незадаваленьні беларусаў Канады і ЗШП Амэрыкі, як і іншых нацыянальных прадстаўніцтваў, з тактыкі стасаванай украінцамі ў працы АБН і АП АБН.

У канцы 1982 г. гэн. Касмовіч прымаў удзел у сумесным паседжаньні ЦК АБН і экзэкутывы ЭРС (Эўрапейскай Рады Свабоды) у Мюнхэне па справе падрыхтоўкі да агульнай канфэрэнцыі ЭРС.

Гэн. Касмовіч рыхтуе беларускі ўдзел у канфэрэнцыі ВАКЛ, якая мае адбыцца ў бягучым годзе ў Токіо (Японія).



У горадзе Леймэн (Нямеччына) Г. Попко арганізуе беларускі музэй, у чым мае дапамогу нямецкага бурмістра гэтага гораду.

У горадзе Штутгарт выходзяць у сьвет "Інфармацыйныя Сшыткі", выдаваныя У. Сенькам.

### АНГЛІЯ

30 жніўня 1981 г. у Беларускай Праваслаўнай Царкве ў Лёндане першы раз служыў арх. Мефодзі, Экзарх Канстантынопальскага Патрыярха, у саслужэньні з а. Тарановіча. За агульным сталом арх. Мэфодзі сказаў, што ён будзе дапамагаць беларускаму прыходу ўсім, што будзе патрэбна. Навязаньне непасрэднай сувязі з Экзархам Канстант. Патрыярхіі дае магчымасьць беларускім прыходам у Англіі абмінуць Польскую Праваслаўную Царкву на Чужыне, якая старалася трымаць пад сваім кіраўніцтвам беларускія прыходы.

17 верасьня 1981 г. ангельская сэкцыя арганізацыі Міжнародная Амністыя арганізавала пікетаваньне савецкай амбасады ў Лёндане, дамагаючыся звальненьня з савецкіх лягероў беларускага паліт-вязьня Кукабакі. Беларусы абодвух напрамкаў далучыліся да гэтага пікетаваньня. Было раздадзена каля 3000 улётак з фото Кукабакі. Кіраўнічка ангельскай сэкцыі сказала, што яна зьвярнулася да ангельскага дыплямата Фута, каб падчас канфэрэнцыі з Брэжневым у Маскве ён парушыў справу Кукабакі. Тады-ж была пададзеная патыцыя ў савецкую амбасаду з дапамаганьнем аб звальненьні Кукабакі.

На просьбу Аліцыі Кіпель, якая для амэрыканскай установы працавала над тэмаю аб дзейнасьці Амэрыканскай Дапамаговай Адміністрацыі (American Relief Administration — ARA) у Беларусі пасьля Першай Сусьветнай вайны, 3 і 9 сьнежня 1980 году ёй былі высланы лісты з інфармацыяй аб дапамозе гэтай адміністрацыяй дзецям Заходняй Беларусі.

# *ХРОНІКА*

### ТОРОНТО, КАНАДА

**Юбілей а. прот. Паўла ВЯЛІКАГА, настаяцеля царквы імя сьвятое Еўфрасіньні Полацкае.**

У красавіку 1982 году споўнілася 25 гадоў служэньня ў духоўным сане, але юбілейны банкет адбыўся 8 жніўня. На юбілей прыехалі госьці з Чыкаго, Ашавы і мясцовыя парахвіяне. Пры ўваходзе ў царкву Ўладыку Сотіріоса спаткалі дзеці, сыплючы яму кветкі пад ногі, стараста А. Некрашэвіч спаткаў Уладыку з хлебам і сольлю, а настаяцель спаткаў яго з крыжам. Сьвятая Літургія была адслужана архірэйскім чынам у саслужэньні духавенства.

Падчас Божае службы Ўладыка ўзнагарадзіў а. прот. Паўла Вялікага мітрай. Уладыка сказаў у сваім казаньні аб значэньні мітры. Хор, пад кіраўніцтвам матушкі Сафіі Вялікай, прыгожа сьпаваў архірэйскую службу.

Пасьля Божае службы ўсе пайшлі ў царкоўную залю на юбілейны банкет. Уладыка пабагславіў хлеб-соль на сталох. Было многа прывітальных прамоваў. На заканчэньне прамоваў былі задаваныя пытаньні Ўладыку, на якія Ўладыка з ахвотай даваў адказы.

Юбілейны банкет зладзіў свайму настаяцелю Царкоўны Камітэт і Сястрыцтва. Банкет закончыўся ў найлепшай сяброўскай атмасфэры.

### ЧЫКАГО, ІЛІНОЙ

24 кастрычніка 1982 г. адбылося паседжаньне Управы і Акту Беларускае Праваслаўнае Царквы імя сьв. Юрыя. На паседжаньні парушаліся такія пытаньні, як ацяпленьне царкоўнага будынку ў зімовы пэрыяд ды іншыя гаспадарчыя і фінансавыя пытаньні. На асаблівую ўвагу заслугоўвала справа падрыхтоўкі да сьвяткаваньня 25-ці гадовага юбілею парахвіі сьв. Юрыя ў Чыкаго. Вырашэньне некаторых фінансавых пытаньняў адкладзена да чарговага Агульнага Сходу.

### РЫЧМОНД ГІЛ, НЬЮ ЁРК

4 красавіка беларускі Нью Ёрк адзначыў Дзень Незалежнасьці Беларусі — 64-ыя ўгодкі Акту 25 Сакавіка. Сьвятую Літургію і Малебен за Беларускі Народ адслужылі айцы' Грыгор і Віталі Сагайдаўскі. Сьпяваў хор пад кіраўніцтвам сп. С. Жамойды.

Урачыстая Акадэмія адбылася ў царкоўнай залі. Акадэмію адчыніў і вёў сп. К. Мерляк. Рэфэрат, прысьвечаны дню, прачытаў інж. Васіль Меляновіч. Былі праслуханы прывітаньні ад розных беларускіх арганізацыяў. Акадэмія распачалася сьпевам Амэрыкансга гімну, а закончылася Беларускім гімнам. Пасьля Акадэміі быў традыцыйны абед.

У нудзелю 31 кастрычніка парахвія сьв. Кірылы Тураўскага адзначыла дзесяцігодзьдзе ўваходзінаў у новазбудаваную царкву. Сьвяткаваньне распачалося Богаслужбамі — Сьв. Літургіяй і Малебенам за Беларускі Народ.

У перапоўненай царкве Богаслужбы правілі настаяцель а. Грыгор і Адміністратар Беларускіх праваслаўных Цэркваў Канстантынопальскае Патрыярхіі ў Амэрыцы а. Сьвятаслаў Коўш. Міла для вуха малельнікаў гучэў хор пад кіраўніцтвам сп. С. Жамойды.

Пасьля Богаслужбаў у царкоўнай залі адбыўся шматлюдны абед, падчас якога прамаўлялі на бягучыя тэмы гаспадары і госьці. Кіраваў парадкам сп. К. Мерляк.

## САЎТ РЫВЭР

14 сакавіка 1982 г. у залі Беларуска-Грамадзкага Цэнтру была адчынена дзевятая з чаргі мастацкая выстаўка і выстаўка твораў народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Выстаўку адчыніў сп. Антон Даніловіч — старшыня Беларускага Культурна-Мастацкага і Навуковага Таварыства. У ангельскай мове гасьцей прывітала сп-ня Ірэна Рагалевіч-Дутка. У выстаўцы прымала ўдзел трыццаць мастакоў і мастачак. Выстаўка прайшла з вялікім посьпехам і была зачынена 28 сакавіка.

21 сакавіка адбылося сьвяткаваньне 64-ых угодкаў Акту 25 Сакавіка. У царкве сьв. Еўфрасіньні былі адслужаны Сьвятая Літургія і малебен за Беларускі Народ. Служылі: а. протапр. Сьвятаслаў Коўш, а Пятро Саўчыц і протадз. Алег Махнюк. А трэцяй гадзіне ў Грамадзкім Цэнтры адбылася Акадэмія. Акадэмію адчыніў і вёў інж. Міхась Бахар. Рэфэрат у ангельскай мове чытаў сп. Мікалай Манцывода (малодшы), у беларускай а. протапр. С. Коўш. У мастацкай частцы прымалі ўдзел: Беларускі жаночы хор "Каліна" пад кіраўніцтвам кампазытара Ксавэры Барысаўца пры акампаніяменце маладзенькай піяністкі Крыстыны Калінка, беларускія паэты Янка Золак і Міхась Кавыль і вучні парахвіяльнай школы.

28 сакавіка ў Грамадзкім Цэнтры адбылася Акадэмія, прысьвечаная 100-годзьдзю з дня нараджэньня Якуба Коласа і Янкі Купалы. Акадэмію адчыніў сп. Антон Даніловіч — старшыня Беларускага Культурна--Мастацкага і Навуковага Таварыства. Прыгожы і зьмястоўны рэфэрат пра Купалу і Коласа прачытаў а. Сьвятаслаў Коўш. Творы Купалы і Коласа даклямавалі спадарыні Ірэна Цупрык і Аўгеньня Цярпіцкая. Свае творы, прысьвечаныя юбілею, чыталі паэты — Міхась Кавыль і Янка Золак.

6 чэрвеня парахвія сьв. Еўфрасіньні Полацкай, у дзень свае апякункі, адзначыла дзесятыя ўгодкі ўваходу ў новазбудаваную царкву. Богаслужбу ўзначаліў Мітрапаліт Германос Гіераполійскі ад імя Экзарха Сусьветнага Канстантынопальскага Патрыярха Архіепіскапа Іаковаса. Саслужылі Мітрапаліту айцы Сьвятаслаў Коўш, Пётр Саўчыц і протадз. Алег Махнюк. Сьпяваў хор пад кіраўніцтвам кампазытара Дзімітрыя Верасава.

Пасьля Богаслужбаў у Грамадзкім Цэнтры адбыўся многалюдны абед. Мітрапаліт Гэрманос сказаў адпаведнае слова ў царкве і падчас абеду. Мітрапаліт Гэрманос заклікаў Беларусаў захоўваць айчынныя традыцыі, чысьціню Праваслаўя і абараняць нацыянальныя пазыцыі ад нападкаў, незалежна ад таго, з якога боку яны ідуць. Наведзіны царквы дастойным госьцем зрабілі глыбокае ўражаньне на прысутных.

16 кастрычніка ў залі Беларуска-Амэрыканскага Грамадзкага Цэнтру адбыўся Дзесяты Кангрэс Беларусаў Амэрыкі. Кангрэс адчыніў старшыня ўступаючай управы сп. інж. Іван Касяк, папрасіўшы а. Сьвятаслава Каўша прачытаць малітву. На старшыню Прэзыдыюму Кангрэсу быў выбраны сп. інж. Міхась Бахар, на заступніка сп. Віталі Цярпіцкі, на сакратароў: Ігар Шчорс і Міхась Сенька. Была выбрана Мандатная Камісія ў наступным складзе: Аркадзі Евец, Міхась Палюховіч, Пятро Орса. Сп. інж. І. Касяк даў зьмястоўную справаздачу з агульнае дзейнасьці Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі. Фінансавую справаздачу даў скарбнік Жорж Наумчык. Справаздачу Рэвізыйнае Камісіі чытаў сп. Аляксандар Банкет. У выніку ўсебаковае дыскусыі над справаздачамі Кангрэс пастанавіў прызнаць уступаючаму ураду абсолютарыюм з падзякай.

У выніку галасаваньня ў кіруючыя органы Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі на наступнае трохгодзьдзе былі выбраны: інж. Іван Касяк — старшыня; заступнікі — спадары інж. Міхась Бахар, Віталі Цярпіцкі, Жорж Наумчык; сакратары — Міхась Сенька, Сьцяпан Наумчык; скарбнік — Леў Высоцкі; Рэвізыйная Камісія — Аляксандар Банкет, Язэп Мараховскі, Аркадзі Евец. На старшыню Рады Кангрэсу быў выбраны Антон Даніловіч, на сакратара — Гэлена Касоўская.

У пункце "рэзалюцыі і пастановы" было вырашана паставіць на адпаведную вышыню фінансавы фонд Кангрэсу шляхам павялічэньня ўкладаў у касу сяброў арганізацыяў і ахвярнасьцю індывідуальных аосб. Новавыбранай управе Прэзыдыюм Кангрэсу даручыў высылаць рэзалюцыі урадавым дзейнікам Амэрыкі ды міжнародным і міжнацыянальным колам у Амэрыцы і ўва ўсім сьвеце.

У вольных прапановах Кангрэс зьвярнуўся з заклікам да арганізацыяў і ўстановаў: выступіць з далейшымі разьясьненьнямі ў справе злоснае антыбеларускае акцыі Джона Лофтуса з ягонымі хаўрусьнікамі ды вывучэньнем магчымасьці судовага прасьледу вышэй успомненых дзейнікаў

Кангрэс закончыўся сяброўскім пачастункам, падчас якога ў няпрымусовай атмасфэры абмяркоўваліся розныя праблемы.

---

18 ліпеня, з нагоды Тыдня Паняволеных Народаў, у Нью Ёрку адбыўся парад, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў: Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі і Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Парад прайшоў па 5-ай Эвэню да катэдры сьвятога Патрыка, дзе адбылася прынагодная Божая Служба, а пасьля ў Цэнтральны Парк, дзе адбыўся мітынг, на якім выступалі амэрыканскія кангрэсмэны, прадстаўнікі штатных і гарадзкіх уладаў, а таксама прадстаўнікі паняволеных народаў. На заканчэньне адбылася мастацкая частка.



# Да нашых чытачоў

Дарагія суродзічы!

Як вам, напэўна, добра ведама, часапіс "Беларуская Думка" ня мае ніякіх крыніцаў, што забясьпечвалі-б ягоны рэгулярны выхад. Адзінаю такою крыніцаю зьяўляюцца вашы дабраахвотныя ахвяры.

Дык не паскупіцеся, дарагія суродзічы, прышліце неадкладна свае шчырыя ахвяры, каб чарговы нумар часапіса мог выйсьці з друку сваечасова.

Наперад шчыра дзякуем!

Ахвяры шліце на адрас:

Mr. M. Paluchovic
c/o Bielaruskaja Dumka
15 Olchaskey Ave.
South River, N. J. 08882



*Рэдакцыйная Калегія:* М. Бахар, Ул. Брылеўскі, А. Даніловіч (Галоўны рэдактар), М. Кавыль, І. Касяк, а протапр. С.Коўш, В. Цярпіцкі.

Адрас Рэдакцыі: A. Danilovich, 34 Richter Ave., Milltown, N. J., 08850

*Выдавец* — Беларускае Выдавецкае Таварыства: І. Шчорс — старшыня, М. Сенька — сакратар, М. Палюховіч — скарбнік.

**Printed by the Byelorussian Press of U A-B R C**
So. Whitehead Ave: South River, New Jersey USA